

НАР·КАМ·ЗЕМЛЯРОБСТВА БССР

# ПЛУГ

## 10 ГОД



## Б. С. С. Р.



МЕНСК 1928 | СЬНЕЖАНЬ | № 12

# Ад рэдакцыі.

Гэты нумар часопісі „Плуг“ прызначаецца падсумаваньню вынікаў сельска-гаспадарчай і зямельнай палітыкі за пэрыяд існаваньня незалежнай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, агалашэньне якой адбылося дзесяць год таму назад. За гэты тэрмін (выключаючы з яго годы бела-польскай і нямецкай акупацый) працоўнае сялянства Беларусі, пад кіраўніцтвам Савецкай Улады і Камуністычнай Партыі, ня толькі адбудавала разбураныя за час імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны свае гаспадаркі, але па многіх галінах значна апярэдзіла быўшы даваенны ўзровень.

Тое-ж самае можна сказаць і аб навуковых дзяржаўных установах, як дасьледчыя станцыі. Многія з іх яшчэ не налічваюць гэталькі год, як сама незалежная Беларусь, бо яны арганізаваны дзякуючы Савецкай Уладзе ўжо пасьля таго, калі апошняя здолела ўзяцца за справу адбудаваньня народнае гаспадаркі, г. зн. пасьля таго, як былі пераможаны і разьбіты арміі і пляны буржуяў усяго сьвету, якія імкнуліся зьнішчыць Савецкую Уладу. Але і за невялікі тэрмін часу шмат карыснага ўжо зроблена. Вынікамі Станцый частка перадавых сялян ужо пачала карыстацца, пачала ўжываць мерапрыемствы, якія адшуканы і прапануюцца для таго ці іншага раёну. Застаецца кожнаму зараз даведацца, як вядзецца праца на дасьледчай станцыі, што там маецца добрага, каб часам знарок пайсьці туды за парадаю, альбо запытаць лістом, як ажыцьцявіць у сваёй гаспадарцы тое ці іншае мерапрыемства.

У сьвята агалашэньня незалежнай Савецкай Беларусі трэба падсумаваць і вынікі калгаснага будаўніцтва, будаўніцтва новай, народжанай з Кастрычнікавай Рэвалюцыяй, формай гаспадаркі. Лік каляктыўных гаспадарак паступова павялічваецца, гаспадарчы стан узмацняецца. Бязупынна, праз самадзейнасьць мас, пашыраюцца розныя віды аб'яднаньняў, як таварыствы, арцелі; усё больш і больш розных відаў сельска-гаспадарчай вытворчасьці ахапляе с.-г. каапэрацыя, значна пашыраецца праца сялян-дасьледчыкаў, гэтых перадавых сялян вёскі.

Дзесяцігодзьдзе абвяшчэньня незалежнай БССР Савецкая Ўлада адзначае шэрагам мерапрыемстваў. Наркамземам, акрамя гэтага нумару часопісі, выдаецца папулярная брашура, у якой будуць адзначаны вынікі с.-г. і зямельнай палітыкі за час існаваньня БССР. У гэты дзень будзе адчынены Цэнтральны Дом Селяніна ў Менску, якому будзе надана назва „10-годзьдзя незалежнай Беларусі“. Аднэй лепшай дасьледчай станцыі таксама будзе дана назва 10-годзьдзя агалашэньня БССР. Такія-ж назвы будуць даны: Фастаўскаму каналу, які выпрамляе раку Арэсу, 2 калгасам, 2 мэліорацыйным т-вам і Лёзьненскаму Ільнокамбінату. Пастаноўлена ў памятку 10-годзьдзя арганізаваць саўгас на калёнізацыйным фондзе асушанага балота Мар'іна, надаўшы яму назву „10-годзьдзя БССР“.

Іншы дзяржаўныя ўстановы і арганізацыі таксама адзначаюць гэты гістарычны момант. Адзначаць гэта і рабочыя і сяляне сваімі сходамі. Перанясецца ўспамін да часу панаваньня варожых сіл на Беларусі, да часу, калі па сялянскіх сьпінах сьвістаў панскі бізун; успамяне кожны і аб сваіх братох—зарубежных беларусох, злою воляю адарваных ад роднай сям'і, якія ня маюць мажлівасьці ні незалежнага культурнага разьвіцьця, ні незалежнага гаспадарчага будаўніцтва.

**Рэдакцыя.**

Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ПЛУГ

Навукова-папулярная часопіс сельскай і лясной гаспадаркі

Выходзіць раз у месяц

IV год выданьня — Сьнежань 1928 г. — № 12

## Аб дасягненьнях да 10-годзьдзя агалашэньня незалежнае Б.С.С.Р.

Дзень 1 студзеня для працоўных Беларусі зьяўляецца найвялікшым сьвятам. У гэты дзень, дзесяць год таму назад, Саюзным урадам агалошана канстытуцыя, па якой Беларусь увайшла ў склад Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік як незалежная краіна. Гэты дзень адзіны ў гісторыі Беларусі, таму ён зьяўляецца сьвятам ня толькі для працоўных БССР, але і для таго беларускага насельніцтва, якое знаходзіцца па-замежамі яе.



Старшыня Саўнаркому БССР тав. Галадзед.

Да дню дзесяцігодзьдзя агалашэньня незалежнае БССР мы маем надзвычайна вялікія дасягненьні ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва. Пералічыць усе гэтыя дасягненьні за час існаваньня незалежнае БССР у кароткім артыкуле немажліва. Гэтыя дасягненьні атры-

маны намі дзякуючы існаваньню дыктатуры пралетарыяту, дзякуючы таму гэніяльнаму кіраўніцтву, якое мы маем у штодзённай працы нашага будаўніцтва і дзякуючы таму, што ў вырашэньні і ажыцьцяўленьні ўсіх пытаньняў сацыялістычнага будаўніцтва ўдзельнічаюць самыя шырокія масы рабочых і сялян. Гэта відаць з таго, што ў нас ні адна пастанова, якая цікавіць шырокія рабоча-сялянскія масы, раней яе вырашэньня і ажыцьцяўленьня папярэдня абагворваецца на сходах рабочых, на сходах сялян, на зьездах, на канфэрэнцыях і на сэсіях. Гэтым адрозьніваецца дыктатура пролетарыяту—савецкая ўлада, ад улады ў буржуазных краінах.

Мы ня ведаем той пропасьці паміж кампартыяй, паміж савецкай уладай з аднаго боку і працоўнымі масамі з другога боку, якая існуе ў буржуазных краінах, паміж уладай і народам. Аб гэтым яскрава гаворыць той актыў, які ўдзельнічае зараз у штодзённай савецкай і грамадзкай працы. Вось некалькі лічбаў: па ўсёй БССР у нас налічваецца каля 48.000 дэпутатаў, абраных у органы савецкай улады; мы маем каля 41.000 членаў камісіі пры саветах, з якіх толькі 17.000 членаў саветаў, а рэшта—24.000,—складаюць той актыў, які не ўваходзіць у склад саветаў, а які ўдзельнічае ў рабоце сэкцый, камісій, у савецкай рабоце нашых гарадзкіх, местачковых і сельскіх саветах. Калі дадаць сюды яшчэ актыў кіруючых органаў каапэрацыі, нарзаседацеляў судоў ды іншых, дык усяго актыву па БССР налічваецца 235.000 чалавек, або звыш 10 процантаў усіх абіральнікаў у Саветы.

Што датычыць жанчын, якія раней амаль зусім ня мелі права голасу, дык у сучасны момант яны шырока супрацоўнічаюць у грамадзкай працы і наогул у сацыялістычным будаўніцтве нашай краіны; аб гэтым могуць пасьведчыць наступныя лічбы: у нашых цэнтральных установах ЦВК працуе 16 вылучэнцаў работніц і сялянак. За адзін апошні год у ніжэйшыя ўстановы БССР вылучана ад варштату і сахі 250 жанчын. На нізавой працы ў якасьці старшынь сельсаветаў, намесьнікаў, сакратароў, мы зараз маем больш як у тры разы, у параўнаньні з мінулым годам.

Далей трэба спыніцца на выніках нашае с.-г. палітыкі—на дасягненьні ў галіне сельскае гаспадаркі.

За 10 год існаваньня БССР перайшло ў рукі сялянства звыш 3-х мільёнаў гэктараў зямлі. Акрамя таго, праароблена аграмадная мэліарацыйная праца па асушэньні 2-х мільёнаў гэктараў забалочаных зямель, якія таксама пяройдуць у карыстаньне бядняцкага і серадняцкага сялянства.

Над ажыцьцяўленьнем гэтага заданьня ў сучасны момант працуе на Беларусі каля 60.000 сялянскіх двароў, аб'яднаных у мэліарацыйныя таварыствы. Да гэтага часу дасканала вывучана, і можа ўжо практычна праводзіцца ў жыцьцё, шырокая калёнізацыя на былых забалочаных землях,—арганізацыя там буйных сацыялістычных гаспадарак.

Што датычыць асыгнаваньняў на мэліарацыю, дык толькі за апошнія чатыры гады выдаткована ўрадам БССР на гэта сродкаў у суме 1.929.684 руб. Гэтым мерапрыемствам была выклікана ініцыятыва самога сялянства, якое ўлажыла сваіх уласных сродкаў у суме 823.283 р.

Аграмадная праца зроблена таксама па земляўпарадкаваньню, калектывізацыі і каапэраваньню бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Колькасьць калектыўных гаспадарак налічваецца ў нас у сучасны момант каля 840; земляўпарадкаваньне ахапіла больш 46 процантаў сельскагаспадарчай плошчы БССР і праведзена яно ўжо на 39,4 проц. ад усяе тэрыторыі.

Наогул кажучы тэмп земляўпарадкаваньня самы большы ў Саюзе на правядзеньне яго за адны апошнія чатыры гады адпушчана ўрадам БССР каля 2.050.000 руб. Да гэтага часу каапэравана па БССР 128.000 бядняцкіх гаспадарак. На каапэраваньне беднаты асыгнавана 15 проц. прыбытку сыстэмы с.-г. крэдыту.

Каапэраваныя бядняцкія гаспадаркі паступова паляпшаюць сваё становішча, бо яны атрымліваюць крэдыты на ўздым гаспадаркі, на куплю с.-г. машын і г. д. Для прыкладу можна ўзяць хаця-б даныя па Менскай акрузе. За адзін толькі год раздана 271.000 руб. з фонду крэдытаваньня беднаты на пабудову хат і на куплю працоўнай жывёлы. Раздана ў крэдыт с.-г. машын і прыладаў на суму каля 150.0000 руб. У мінулую весну, у часе пасеўнай кампаніі, бядняцкія гаспадаркі Менскай акругі атрымалі каля 500.000 руб. на здабычу насеньня і інш.

Ад аплаты па земляўпарадкаваньню на Беларусі вызвалена 1.036 гаспадарак, а ад сельска-гаспадарчага падатку 34 процанты ад усіх гаспадарак.

Гэтыя лічбы сьведчаць аб тым, што ўся ўвага партыйных і савецкіх органаў накіравана на паляпшэньне добрабыту бядняцкіх гаспадарак, што гаспадарчая дапамога бядняцкім і серадняцкім пластом вёскі займае галоўнае месца ў рабоце на вёсцы.

У рады спажывецкае каапэрацыі да гэтага часу ўцягнена 145.000 бядняцкіх гаспадарак, каапэрацыйныя фонды якіх складаюцца з 250.000 руб.

Што датычыцца дапамогі сельскай гаспадарцы наогул, дык за адны толькі апошнія 5 год у сельскую гаспадарку ўкладзена 49 мільёнаў руб. сродкаў с.-г. крэдыту, прычым каля 35 мільёнаў з гэтай сумы накіравана беспасрэдна ў сельскую гаспадарку праз нізавую сетку с.-г. крэдытных таварыстваў, а астатнія 14 мільёнаў праз саюзы і дзяржаўныя органы.

Пры дапамозе крэдытаў аб'яднана каля 3 тысяч каапэраваных арганізацыяў, у якіх налічвецца 260.000 членаў, і паасобных гаспадарак 320.000 (сюды ўваходзяць і 128.000 альбо 42 проц. бядняцкіх гаспадарак, рэшта 55 тысяч серадняцкіх і 3 проц. заможных).

Пры дапамозе адпушчанага крэдыту, арганізавана 840 калгасаў (аб якіх гаварылася раней), звыш 600 мэліорацыйных т-ваў, 230 малочных, 320 машынных т-ваў ды шэраг розных відаў каапэрацыі.

Што датычыцца пасеўнай плошчы, дык яна павялічылася цяпер да 125.8 проц., гэта значыць, што пасеўная плошча ўзрасла на 25,8 проц.

Гэтыя даныя яскрава адлюстроўваюць, як працэс перабудовы сельскай гаспадаркі, так і агульныя посьпехі нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Адзначаныя ў кароткіх рысах посьпехі, за час існаваньня незалежнай БССР, сьведчаць аб безупынным руху да лепшай сьветлай будучыны.




# Разьвіцьцё аградапамогі за 10 год існаваньня БССР.

Прайшло 10 год Савецкага будаўніцтва ў нас на Беларусі. За 10 год упартае барацьбы на гаспадарчым фронце зроблена надзвычайна многа. Сялянства Беларусі павінна добра ведаць аб усіх гэтых дасягненьнях. Кожны селянін добра памятае, што за час імпэрыялістычнай вайны, калі наша старонка зьяўлялася полем вялікіх боек сусьветных капіталістых за аўладаньне чужым багацьцем, сялянская гаспадарка была амаль поўнасьцю разбурана і само сялянства часткова выкінута з роднага кутка. Значная доля цяжкасьцяй вайны выпала на Беларускую краіну і яе сялянства.

Зазьзяўшае полымя лютаўскае, а потым Кастрычнікавай рэвалюцыі таксама не дало супакою—Беларусь зноў апынулася ў полымі барацьбы працоўных мас з сваёю і замежнаю буржуазіей. Толькі ў 1920 годзе працоўныя масы Беларусі канчаткова перамаглі і аслабанілі частку сваёй тэрыторыі ад белапалякаў.

Здавалася, што пасьля такога разбурэньня Беларуская гаспадарка ніколі не аправіцца, не стане на ногі, а між тым у сучасны момант мы нават пачынаем забываць аб гэтым ліху. Цяжка было—але-ж перажылі і перамаглі. Па цэламу шэрагу паказчыкаў, аб якіх будзе сказана ў другіх артыкулах, мы ня толькі дайшлі, але і перасягнулі даваенны ўзровень. Тое самае і ў адносінах да аградапамогі—тут мы ня толькі дасягнулі, але і значна перавысілі аградапамогу ў параўнаньні з даваенным часам. Трэба толькі ўважліва і праўдзіва ацаніць усе зьявы і факты.

Вось некалькі лічбаў: да вайны, у 1914 годзе, у год найбольшага росквіту земскае агранаміі, на тэрыторыі 3-х беларускіх губэрань (Менскай, Магілеўскай і Віцебскай) было ўсяго 50 агранамічных вучасткаў, а ў 1928 годзе—295, павялічэньне амаль у 10 разоў, на 490 проц. Аграпрацаўнікоў, якія непасрэдна абслугоўваюць насельніцтва, у 1914 годзе было 112 чалавек, а па штатах на 1928 год—486 чалавек, павялічэньне на 334 проц. І трэба падкрэсьліць, што такога росту мы дасягнулі за 8 год, бо за гады вайны і першыя гады рэвалюцыі аградапамога была зусім зьліквідавана.

Далей—на 1 аграпрацаўніка да вайны прыпадала 28.500 чалавек абслугоўваемага насельніцтва, а па дадзеным за 1927 год—10.383.

Агранамічаскі вучастак у 1914 годзе цягнуўся ўва ўсе канцы на 30—40 вёрст, а ў 1927 годзе—сярэдняя адлегласьць ад раённага цэнтру—каля 20 вёрст.

Ну што рэальнага ў сэнсе дапамогі насельніцтву мог зрабіць земскі аграном, калі яму прыходзілася езьдзіць такія канцы. Ня дзіва, што да рэвалюцыі рэдка хто з сялян і ведаў пра агранома. Зараз амаль на кожных 3—4 сельсаветы ёсьць свой аграном, якога ведае ўсё насельніцтва і лічыць яго сваім дапаможнікам па ўсіх пытаньнях сельскае гаспадаркі.

Акрамя павялічэньня колькасьці агранамічных працаўнікоў, мы ў сучасны момант маем зусім іншую, па зьместу, савецкую агранамію.

Раней аграном быў толькі лекар паасобных хвароб у сельскай гаспадарцы, а зараз мы маем актыўнага рэарганізатара ўсяе сельскае гаспадаркі. Праўда, і Сталыпінская земляўпарадкаўчая агранамія імкнулася займацца рэарганізацыяй (перабудовай) сялянскае гаспадаркі, але яна абслугоўвала, галоўным чынам, заможную верхавіну вёскі, заможных сялян, а сучасная агранамія рэарганізуе ўсе сялянскія гаспадаркі і, у першую чаргу, дапамагае сялянскай беднаце і серадняком.

Галоўная задача царскае палітыкі, якую так ці іначай ажыцьцяўлялі Сталыпінскія і нават земск'я аграномы, было, шляхам земляўпарадкаваньня і некаторых агранамічных паляпшэньняў, адхіліць увагу сялянства ад рэвалюцыйнага руху; задача савецкае палітыкі, праз агранамічны апарат так перабудаваць сялянскую гаспадарку, каб хутчэй дасягнуць сацыялізму. Арганізуючы насельніцтва ў калектывы і ў рознага віда вытворчыя каапэрацыйныя аб'яднаньні, савецкая агранамія спадзяецца такім шляхам хутчэй наблізіць гэты шчасьлівы момант.

Раней сялянства ня чула, што такое шматпалёвы севазварот, гаспадарылі па дзедаўскі, на трохпалёўцы, а зараз штогодна пераводзіцца на шматпольле дзесяткі і нават да сотні тысяч гэктараў (за 1927 г. пераведзена на шматпольле 91.722 гэктары).

Кожнаму зараз вядома, што пераход да правільнага шматпольля ёсьць галоўны крок да правільнае арганізацыі ўсяе гаспадаркі. Шматпольле, з пасевам караньплодаў і траў, ёсьць моцны падмурак устойлівага дабрабыту гаспадаркі.

Пасялковае земляўпарадкаваньне, якое праводзіцца Савецкаю ўладаю, дае мажлівасьць агранамічным працаўнікам шырока разгортваць працу па пасадцы групавых садоў, якія застаюцца індывідуальнымі, але зьмешчаныя разам даюць усе перавагі буйнага прамысловага саду. Гэты від мерапрыемстваў можа даць надзвычайна вялікую карысьць у сэнсе павялічэньня таварнасьці сялянскіх гаспадарак. Асабліва вялікае выгады можна дасягнуць, калі злучыць гэтае мерапрыемства з мерапрыемствам па пераапрацоўцы прадуктаў садавіны на месцы, на каапэрацыйных пачатках.

Раней сялянству, асабліва бяднейшаму, і думка ня прыходзіла, што ён можа ўжываць у сваей гаспадарцы палепшаныя машыны і прылады; іх ён бачыў у маёнтках і ў гаспадарках заможнікаў, а зараз агранамія выпрацавала такія формы, машынныя таварыствы, пры якіх і самы бедны можа карыстацца ўсімі дасягненьнямі тэхнікі.

Наогул, усе каапэрацыйна-вытворчыя аб'яднаньні (малочныя, насенныя, племяныя, садова-гародныя, мэліарацыйныя і г. д.), якія шырока арганізуюцца савецкай аграноміяй, зьяўляюцца магутным рычагом у справе паляпшэньня гаспадаркі.

Толькі каапэрацыя можа даць дробным сялянскім гаспадаркам тыя выгады, якія мае буйная гаспадарка.

Вось галоўныя дасягненьні савецкае аградапамогі, якіх амаль ня ведала сялянства дарэвалюцыйнага часу.

Што-ж датычыцца аграпрапаганды і ажыцьцяўленьня больш простых агранамічна-тэхнічных прыёмаў для дапамогі сялянскай гаспадарцы, дык савецкая агранамія ні ў якой меры не адстала ад дарэвалюцыйнай агранаміі. Нам думаецца, што ў гэтым сэнсе робіцца больш патрэбнага. Сучаснае сялянства, абуджанае рэвалюцыяй, настолькі вырасла ў культурным сэнсе, што само прад'яўляе глыбокія запатрабаваньні да аграномаў. Зараз не аграном ідзе да селяніна, а сам селянін ідзе да агранома і патрабуе ад яго канкрэтных адказаў на пытаньні аб паляпшэньні гаспадаркі. І гэта ёсьць адно з найвялікшых дасягненьняў рэвалюцыйнага пэрыяду.

Заслугоўвае быць адзначаным і яшчэ адно вялікае дасягненьне савецкае агранаміі Беларусі. У сэнсе пісьмовае аграпрапаганды мы маем надзвычайна вялікія дасягненьні. Калі да Рэвалюцыі сялянства Беларусі на роднай мове мела толькі невялічкую часопісь „Саха“, якую рэдка хто бачыў на вёсцы, дык зараз мы маем салідную і вельмі каштоўную навукова-папулярную часопісь „Плуг“, навуковую часопісь „Сельская і Лясная Гаспадарка“, газэту „Беларуская Вёска“ і невялічкую сэрыю папулярнае літаратуры. Праўда, у сэнсе папулярнае, мясцовае літаратуры зроблена надзвычайна мала, але ёсьць надзея, што з гэтага году Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва прымецца больш рашуча за друкаваньне мясцовае літаратуры. Пачатак працы ўжо ёсьць.

Неабходна таксама адзначыць, што якасны склад аграпрацаўнікоў з кожным годам узмацняецца, дзякуючы таму, што Беларусь сама рыхтуе сабе спэцыялістых. Рэвалюцыя падаравала Беларусі вышэйшую с.-г. школу ў Горках і цэлы шэраг тэхнікумаў і профтэхнічных школ. Акрамя таго, і стары склад аграпрацаўнікоў часткова, але штогодна падвышае сваю кваліфікацыю на паўтарыцельных курсах пры Беларускай с.-г. Акадэміі. Ды і само сялянства і іх дзеці з кожным годам стала папаўняюць свае веды, агранамізацыяй праз школы, с.-г. курсы, праз працу ў с.-г. гуртках, а частка стала абучаецца ў Сялянскім унівэрсытэце, пры Беларускай с.-г. Акадэміі.

Усё гэта, узятае разам, сьведчыць аб тым, што аградапамога на Беларусі за кароткі пэрыяд Савецкага будаўніцтва набыла нябывалы ахват і зьмест.

І калі ў наступнае дзесяцігодзьдзе аградапамога будзе разгортвацца такім тэмпам, ды на падставе яе вывучэньня, набудзе больш арганізаваныя формы, дык можна з пэўнасьцю сказаць, што справа рэарганізацыі гаспадаркі пойдзе шпаркімі крокамі ўперад і мы хутчэй прыдзем да сацыялізму.

Аграном **М. Лайкоў.**

---

# Да дзесятай гадавіны Савецкай Беларусі.

*(Меншчына да дзесяцігодзьдзя).*

Дзесяць год прайшло, як наша Беларусь далучылася да Савецкага Саюзу.

Дзесяць год вялася праца на Беларусі па ўздыму народнае гаспадаркі, па ўнядрэньню сацыялістычнага жыцьця, магчымасьць і шпаркае разьвіцьцё якой дала Вялікая Кастрычнікавая Рэвалюцыя.

Паглядзім-жа якія вынікі дала гэтая дзесяцігадовая праца ў галоўнай галіне нашай гаспадаркі, у сельскай гаспадарцы і прасачым гэтыя вынікі на прыкладзе Менскай акругі.

Што за гэты час адбыўся буйны ўздым сельскай гаспадаркі, гэта ўжо прызнана ўсімі, але, каб паказаць велічыню гэтага разьвіцьця, зьвернем увагу на самыя галоўныя, асноўныя паказчыкі, якія, з аднаго боку, выяўляюць самыя посьпехі сельскай гаспадаркі і рост яе інтэнсіфікацыі, а з другога боку паказваюць той напрамак, па якому ідзе сельская гаспадарка Менскай акругі.

Параўнаем паказчыкі становішча асобных элемэнтаў сельскай гаспадаркі гэтага году з 1916 г., паказаўшы наколькі процантаў за гэты час яны зьмяніліся.

Пасеўная плошча ўзрасла за гэты час на 29%, пры чым ужо ў 1927 г. са 100 дзесяцін пахаці засявалася 76, у той час, як у 1917 г. усяго толькі 72,9. За гэты-ж час, як плошча пасеву ўзрасла на 29%,

плошча засеву збожжавых культур (жыта, пшаніца, ячмень, авёс, грэчка) узрасла на 2%, тэхнічных культур (лён, каноплі) на 66%, бульбы на 97,7%, кармовых траў (канюшына, віка, сэрадэля) на 468,3%. За апошнія гады вельмі шпарка пашыраецца засеў кармовых карань-плодаў, якія сеюцца ўжо нават і ў полі.

Як відаць з гэтых лічбаў, селянін Меншчыны ў сваёй палявой гаспадарцы зьвяртае ўсю сваю ўвагу на пашырэньне засеву кармовых траў, плошча якіх узрасла амаль-што ня ў 6 разоў. Ён значна павялічыў засеў бульбы—без малага ў 2 разы; больш як у паўтары разы павялічыў плошчу пад ільном і каноплямі і амаль што не застаўся пры ранейшай плошчы пасеву збожжавых расьлін.

Вось на што зьвярнуў увагу селянін. Ён дабывае з поля, як мага больш кармоў для жывёлы.

Вядома, ён гэта робіць таму, што жывёла дае яму ў гаспадарцы лепшы прыбытак, чымся збожжа.

Да гэтых лічбаў, каб высьвятліць канчаткова павялічэньне інтэнсыўнасьці паляводзтва Меншчыны, трэба дадаць яшчэ, што плошча незанятага папару вельмі значна скарацілася за гэты час. Калі ў 1917 г. на кожныя 100 дзесяцін пахаці было незанятага папару 26 дзесяцін, дык цяпер бывае ўсяго толькі каля 16. Шпарка ўзрасьлі засевы лубіну на ўгнаеньне, з адной дзесятай процангу ад пахаці ў 1917 годзе — да 6—7% у гэтым годзе.

Гэткі напрамак палявой гаспадаркі выклікаецца шпаркім разьвіцьцём за гэты-ж час жывёлагадоўлі, галоўным чынам, малочнай. Лік жывёлы павялічыўся ў 1928 г. у параўнаньні з 1916 г. так: лік коняй—на 27,7%, кароў—на 68,8% і сьвіней—на 31,2%.

З гэтых лічбаў відаць, што галоўную ўвагу Менскі селянін зьвяртае на павялічэньне малочнай жывёлы і сьвіней. Лік кароў узрастае з 64, на кожныя сто галоў у 1916 г., да 66 у гэтым годзе, а стада сьвіней значна за гэты час абмалажаецца—у 1917 г. на 100 галоў сьвіней было 38 старэй году, а цяпер усяго 33.

Каб папоўніць малюнак становішча сельскай гаспадаркі Меншчыны, дадамо яшчэ, што ў мінулым годзе на кожныя сто гаспадарак 88 мелі ўжо плугі (толькі ў 8-мі былі яшчэ сохі, да і то частка для абсыпкі бульбы), на кожныя 7 гаспадарак мелася малатарня, а арфа-сартыроўка прыходзілася адна на кожныя 9 двароў.

Наогул, аб становішчы сельскай гаспадаркі Меншчыны можна сказаць так: амаль што зусім у ёй вывялася саха, няма ўжо трохпольля, якое захавалася толькі ў глухіх, адсталых куткох; на зьмену трохпалёўцы прышлі занятыя папары, вялікія плошчы засеву кармовых траў, бульбы; шпарка пашыраецца засеў караньплодаў; жывёла становіцца малочнай, а сьвіньня—скорасьпелай.

Вось галоўныя рысы таго буйнага ўздыму нашай сельскай гаспадаркі, які адбыўся за гэтае дзесяцігодзьдзе.

Сялянства ўзварухнулася.

Ідзе шпарка перабудова сельскай гаспадаркі ў галоўных яе галінах.

Чым-жа гэта выкліканы такі буйны ўздым гаспадаркі?

*Зразумела, што гэты ўздым* сельскай гаспадаркі зьяўляецца, як вынік усёй зямельнай палітыкі Савецкай улады і тых мерапрыемстваў, якія ёю праводзяцца ў мэтах падняцьця і разьвіцьця сельскай гаспадаркі.

Цэлы шэраг мерапрыемстваў Савецкай улады па земляўпарадкаваньню, мэліярацыі, аградапамозе, садзейнічаньню с.-г. каапэраваньню, забясьпечаньне крэдытам і ўсім патрэбным для сельскай гаспадаркі (машынамі, прыладамі, угнаеньнямі) зрабіла магчымым гэты буйны ўздым сельскай гаспадаркі.

Але ў дзесяцігодзьдзе Савецкай Беларусі хачу адзначыць яшчэ адно, што служыць магутным стымулам уздыму сельскай гаспадаркі і забясьпекай далейшага яе разьвіцьця і што зьявілася як вынік „Кастрычніка“, як яго магутнае дасягненьне,—гэта вялізарны рост самадзейнасьці сялянства.

Усе нашы мерапрыемствы, уся наша самая напружаная праца, не выклікалі-б гэткага магутнага росту сельскай гаспадаркі, калі-б самі сяляне не пайшлі насустрэчу гэтым мерапрыемствам, калі-б яны не абудзіліся ад той сьпячкі, у якой яны былі ў дарэвалюцыйны час.

Рэвалюцыя разбудзіла іх, яна разварушыла іх, яна разьбіла тыя ланцугі, якімі скоўвалася самадзейнасьць селяніна.

Стары рэжым баяўся самадзейнасьці селяніна. У разьвіцьці яе ён прадбачыў сваю пагібель. Ён затрымоўваў разьвіцьцё яе, як мага, і шляхам затрыманьня асьветы, і кепскай пастаноўкі школьнай адукацыі, і падтрыманьня папоўска-царкоўнай абраднасьці і паліцэйска-жандарскім уціскам і сыскам.

Рэвалюцыя ўсё гэта зьнішчыла; яна паказала селяніну шляхі сацыялістычнага будаўніцтва—калектывізацыі, каапэраваньня—і, прачнуўшыся, селянін пашоў шпаркім крокам уперад па шляху падняцьця і разьвіцьця як усяго свайго жыцьця, гэтак—і ў першую чаргу—эканамічнай падставы свайго жыцьця—сваёй сельскай гаспадаркі.

Што гэта так, дык, каб падкрэсьліць гэта, я, у дадатак паказаных лічбаў, зьвярну ўвагу яшчэ на лічбы калякты[в]ізацыі і каапэраваньня сельскай гаспадаркі Менскай акругі, якія дапамагаюць разьвіцьцю сельскай гаспадаркі з эканамічнага боку.

Да рэвалюцыі сельска-гаспадарчай каапэрацыі ня было. Разьвіцьцё яе пачалося па сканчэньні вайны, з 1921—22 году, а зараз, на 1-га кастрычніка гэтага 1928 г., мы маем такія лічбы па акрузе:

| | Лік аб‘яднаньняў | У іх сяброў |
|---|---|---|
| Калякты[ў]ных гаспадарак | 130 | 838 |
| С.-г. крэдытных т-ваў | 50 | 44936 |
| Машынных т-ваў | 73 | 1090 |
| Насеннаводных т-ваў | 7 | 90 |
| Садова-гародных т-ваў | 5 | 44 |
| Каапэрацыйных пасёлкаў | 5 | 131 |
| Малочных, масла-сыраварных арцеляў | 53 | 5526 |
| Племянна-жывёлаводн. т-ваў | 24 | 600 |
| Бычачых т-ваў | 10 | 264 |
| Птушкаводных т-ваў | 2 | 28 |
| Пчалярных т-ваў | 3 | 268 |
| Мэліарацыйных т-ваў | 160 | 9969 |
| Тарпяных т-ваў | 80 | 5372 |
| Агнятрывала-будаўнічых т-ваў | 27 | 1562 |

Такім чынам, налічваецца ўсяго—629 аб‘яднаньняў, з якіх адны толькі с.-г. крэдытныя т-вы ахопліваюць 37% сялянскіх двароў.

Вось яскравыя лічбы, якія сьведчаць як аб буйным уздыме сельскай гаспадаркі, так і аб уздыме сялянскай самадзейнасьці, якія разгарнуліся ў выніку новых умоў жыцьця, якія ўтварыліся з часу рэвалюцыі.

У гэтым уздыме сельскай гаспадаркі і самадзейнасьці сялянства моцная падстава змацаваньня дасягненьняў рэвалюцыі, і паглыбленьня і дасягненьня ўсіх сацыялістычных ідэалаў.

Вось, як ствараецца на Меншчыне *„Новая вёска“*.

Вось, як яна ідзе па шляху сацыялістычнага разьвіцьця.

**М. Сьцяпура.**

# Аршаншчына на шляху сацыялістычнага аднаўленьня.

Сучасная Аршаншчына, у параўнаньні з даваеннай, царскай, далёка ўперадзе. Сельская гаспадарка зьзяе яскравым полымем сацыялістычнага жыцьця. Сотні вузкіх істужак-палосак аб'яднаны ў агульныя, прыгожа квітнеючыя сваім ростам і ўраджаем, палі. Выжыты вораг гаспадара—бяскорміца сям'і і жывёлы.

Штучнае ўгнаеньне, засеў кораньплодаў і кармавых траў знайшоў свой шырокі адбітак на палёх сельскай гаспадаркі акругі. Пераход на каляктыўнае вядзеньне гаспадаркі, шматпалёвы севазварот і землеўпарадкаваньне зьнішчылі дзесяткі соцен жабрацкіх, ледзь пераводзячых дух гаспадарак.

## Шукалі лепшае долі.

Апошняя царская рэформа,—„рэформа Сталыпіна“ раздрабляла сельскую гаспадарку сваей хутарскай сыстэмай. Гэта „рэформа“ на Аршаншчыне ахапіла 10,81 проц. сялянскай зямлі. Зямельная плошча была разьбіта на кавалкі, на якіх ня было магчымасьці існаваць, ад чаго шмат беднякоў, атрымаўшы хутар у 2—3 дзес., прадавалі яго заможнікам і кулакам, а самі ехалі ў Сібір. Перад вайной гэта зьявішча прымала масавы характар. Зараз мы маем адваротнае. Мы голасна заяўляем, што да абагуленьня сельскае гаспадаркі, да згуртаваньня раздробленай гаспадаркі ў больш буйныя прыбытковыя гаспадаркі, будзем імкнуцца бязупынна, бо калектывізацыя павінна заняць першае месца ў сацыялістычным будаўніцтве. Сяляне Аршаншчыны ўсё гэта зразумелі і зараз самі ідуць насустрач мерапрыемствам, якія праводзіць Савецкі ўрад.

## Кастрычнік зьняў ланцугі няволі.

Прышоў чырвоны Кастрычнік. Зьляцелі ланцугі цяжкай няволі з працоўных. Аршанцы больш не галадаюць і ня едуць пад прымусам шукаць лепшае долі ў Сібір. Зараз-жа, як толькі была агалошана незалежная БССР, разгарнулася землеўпарадкаваньне. Да гэтага часу землеўпарадкавана 45,84 проц. усёй сялянскай зямлі. За дзяржаўныя сродкі землеўпарадкавана 35 проц. сялянскіх гаспадарак. Шмат увагі зьвернута надзяленьню зямлёй безьзямельных і малазямельных гаспадарак. Яны атрымалі 24.696 гэктараў. Надзелена 5.655 гаспадарак ці 28.304 душы.

Землеўпарадкаванай плошчы пад вёскамі знаходзіцца—10.293 гэк., пад пасёлкамі—110.091 гэктар і калгасамі—13.635 гэктар., астатняя плошча знаходзіцца пад хутарамі, адрубамі і не землеўпарадкавана.

## Аб каляктывах гутарка—хутары на задворках.

Чаму сяляне зараз ня хочуць ісьці на хутары? Адказ адзін,—яны ўведалі на вопыце жывучы ў вёсцы на асобнай сваёй гаспадарцы, што карысьці ад паасобнага гаспадараньня мала,—працуеш, як чорны вол, а прышла вясна, кладзі зубы на паліцу, ні корму жывёле, ні харчу сабе. Дробная гаспадарка не дае прыбытку. Хутар не карысны, асобная гаспадарка—стратна; адзін выхад з гэтага становішча, гэта аб'яднаньне ў камуны і калектывы, аб чым ведае кожны гаспадар на Аршаншчыне.

Да 11 гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі, да дзесяцігодзьдзя агалашэньня БССР Аршаншчына мае 188 каляктыўных землеўпарадкаваных гаспадарак, у якіх налічваецца 1.700 паасобных гаспадарак з 15.716 гэктараў зямлі. Сяляне, якія арганізаваліся ў калякты́ўныя аб'яднаньні, вельмі здаволены і зьяўляюцца штурхачамі-прапагандыстымі ў адносінах да неарганізаваных у калектывы сялян. Часта адбываюцца наведваньні сялянамі камун і калгасаў з мэтай навучыцца гаспадарыць.

### Замест слабага коніка—трактар.

У сельскай гаспадарцы з кожным днём старыя гаспадарчыя прылады—саха, драўляны плуг, цэп і барана замяняюцца ўдаскналенымі машынамі,—жалезным плугам і бараной, спружыноўкай і малатарняй, серп падменены жняяркай; слабага коніка падмяняе трактар. У дзесятку сялянскіх гумён сёлета цэлую восень гудзелі малатарні, дзесяткі трактараў узорвалі глебу і прыводзілі ў рух малатарні ў камунах, калектывах, арцелях і саўгасах. На тэрыторыі Аршаншчыны працуе 14 пракатных дзяржаўных пунктаў з 3228 с.-г. машынамі, арганізавана больш сотні па вёсках машынных таварыстваў.

### Касьцер і сівец—не таварыш культурным расьлінам.

Шмат увагі надаецца, як з боку зямельных органаў, а таксама і самых сялян засеву сваіх палеткаў культурнымі расьлінамі, адборным, гатунковым, добра адсартаваным насеньнем. На палёх рэдка можна ўбачыць сівец і касьцер—„дрэнную траву з поля вон"—кажа старое прыслоўе. Аршанцы гэта зразумелі, таму на іх палёх красуецца прыгожае, чыстае, шчаціністае збожжа. Гэта дасягнута шчыльнай ачысткай насеньня. У вясеньнюю пасеўкампанію было ачышчана 25,4 проц. пасеўматар'ялу і ў асеньнюю каля 10 проц. усяго ўраджаю; шмат абменена ў саўгасах, камунах і калгасах на лепшы завазны гатунковы пасеўматар'ял. Гэты засеў гатунковым насеньнем можа даць лішку сотні тысяч пудоў добраякаснага збожжа.

### Тэхнічныя расьліны карыстаюцца пашанай.

Сяляне Аршаншчыны надаюць належную ўвагу каштоўным тэхнічным культурам. Плошча пад імі з кожным годам павялічваецца. Сёлета было засеяна лёну—18.807 гэктар., каноплі—3.707 гэктар. Павялічваецца плошча засеву культурнымі кармовымі травамі; плошча пад канюшынай узрасла да—14.956 гэктар. і вікі да—14.211 гэктар, а раней гэтымі расьлінамі засявалі зусім нязначную плошчу па акрузе.

Шматпольле—галоўная мэта кожнага гаспадара ў сучасны момант. Шматпольны севазварот уводзяць цэлыя паселішчы, ня лічучы тых, якія зараз землеўпарадкоўваюцца.

„Пры шматпольлі ў мяне кожны кавалачак зямлі добра апрацаваны, угноены і дае нябывалыя для мяне ўраджаі. Я зараз сваіх 5 дзесяцін, разьбітых на шматпольле, не прамяняю на 10 дзесяцін; я маю пару добрых коняй, пару кароў, падцёлка. Корму для іх хапае і жывёла ў шмат разоў сыцейшая",—апавядае селянін-бядняк аб дасягненьнях у сваёй гаспадарцы з часу пераходу на шматпольле. Па акрузе пераведзена на шматпольле 14.310 сялянскіх гаспадарак на плошчы 111.387 гэктар. зямлі, ня лічучы саўгасаў і інш.

### Заняпалай жывёле ня месца ў гаспадарцы.

Жывёлагадоўля—баявое пытаньне. Кожны гаспадар імкнецца мець добрую жывёлу, якая-б давала яму больш прыбытку. Гэтаму мерапрыемству ідуць насустрач усе адпаведныя органы ўлады. „Ад добрага семя і добрае племя"—кажа старая прыказка. Сяляне імкнуцца злучаць жывёлу з лепшымі пародзістымі вытворнікамі. Для гэтай мэты маецца ў акрузе 14 сьвіных злучпунктаў, 13 буйнае рагатае жывёлы і 5 конскіх. Поруч з імі маецца 3 вялікіх гнязды буйнае рагатае жывёлы, 18 сьвіных, пры 2-х саўгасах, Забалоцьці і Станіслававе; існуюць два гнязды пародзістых сьвіней—у першым ангельскай пароды, а ў другім нямецкай. Сёлета будуецца сьвіны камбінат, на які закуплена шмат пародзістых сьвіней, якія таксама будзе служыць вялікім дапаможцам у гэтай галіне. На пабудову камбінату трацiцца 300.000 руб.

### Торф заменіць дровы.

У шэрагу раёнаў акругі торф ужываецца, як апал, а балоцістая тарфяная плошча пачала даваць самы найлепшы ўраджай. У сёлетнім годзе працавала 144 мэліарацыйных таварыствы (ня лічучы буйных тарфяных заводаў, як Асінстрой і інш.), якія асушылі 3.960 гэктар. забалочанай зямлі і здабылі 15.076 тон торфа. На быўшых непрахадзімых балотах расьце ў рост чалавека збожжа. Шмат торфу ўжываецца на подсьціл, даючы вельмі добрае ўгнаеньне,—частка ідзе на апал. Сёлета выдадзена мэліарацыйным таварыствам—15.000 рублёў крэдыту.

### Калактыўнымі сіламі рухаемся да сацыялізму.

Да гэтага часу на Аршаншчыне арганізавана 340 сельска-гаспадарчых аб'яднаньняў, якія згрупавалі ў сваіх шэрагах 11.242 асобных гаспадаркі. Пры правядзеньні калектывізацыі шмат зварочвалася ўвагі нацыянальнаму пытаньню. У гэтай колькасьці аб'яднаньняў арганізавана 35 яўрэйскіх калгасаў на плошчы 2.532 гэктар. зямлі, аб'ядноючы 230 сямей.

Будуем сацыялістычную гаспадарку, перамагаем усе цяжкасьці, рухаемся шпарка ўперад. Пералічаныя дасягненьні атрыманы дзякуючы правільнай зямельнай палітыцы, дзякуючы Савецкай уладзе і Камуністычнай партыі, якая дае ўсе мажлівасьці паляпшаць і ўдасканальваць сельскую гаспадарку.

**Сьціван.**

---

# Разьвіцьцё сельскай гаспадаркі ў Гомельскай акрузе.

*(За дзесяцігадовы пэрыяд існаваньня БССР).*

Прайшоўшыя дзесяць год унесьлі вялікія зьмены ўва ўсе галіны жыцьця Рэспублікі, а таксама і акругі.

Сялянства перш за ўсё пазбавілася ад уціску капіталістаў і памешчыкаў, у выніку чаго чуць ня ўся (непрацоўнага карыстаньня) зямля перашла ў яго рукі. Аб гэтым дастаткова яскрава сьведчаць наступныя лічбы.

У дарэвалюцыйны час у акрузе налічвалася каля 260 паноў (памешчыкаў), якія мелі маёнткі і фальваркі, з агульным лікам зямлі 500.000 гэктароў, у гэтым ліку каля 255.000 гэктараў лесу.

Пасьля рэвалюцыі сялянству акругі было перададзена каля 170.000 гэк. земляў непрацоўнага карыстаньня, каля 47.000 гэкт. зямлі з дзяржаўнага ляснога фонду і 41.268 гэкт. лясоў мясцовага значэньня.

З прычыны перадачы вышэйпаказанай колькасьці зямлі значна паменшыўся той зямельны голад, які да гэтага часу існаваў.

У дарэвалюцыйны пэрыяд наглядаўся, з аднаго боку рост безьзямельных гаспадарак, а з другога боку рост шматзямельных.

У сучасны момант мы маем зусім другое становішча. Колькасьць безьзямельных гаспадарак з кожным годам памяншаецца. Калі ў 1917 г. налічвалася іх у быўш. Гомельскай губ. 10 проц. (дадзеных за гэты час па акрузе няма, але бадай што яны мала расходзяцца), то ў 1928 г. колькасьць гэта панізілася да 1,28 проц. Гаспадарак з пасевам, у якіх больш як 8 дзесяцін, было 5,86 проц., цяпер іх стала 0,92 проц. Ня гледзячы на значны рост, колькасьць сялянскіх гаспадарак за астатнія 10 год, колькасьць ральлі і зямлі, якая знаходзіцца пад сялібамі і якая прыходзіцца ў сярэднім на адну сялянскую гаспадарку,—цяпер стала троха меншай, з 4,9 гэк. у 1917 г. яна скарацілася да 4,7 гэк. у 1928 г.; плошча сенажацяй, наадварот, траха пабольшылася—з 2,6 гэкт. да 2,8 гэкт., што тлумачыцца больш значнай прырэзкай сенажацяй.

Пасяўная плошча ў акрузе з кожным годам павялічваецца. Павялічэньне гэта ўтвараецца коштам уцягваньня ў гаспадарчы зварот угодзьдзяў, якія раней не выкарыстоўваліся, узворваньнем тых сенажацяй, якія вырадзіліся, выганоў, хмызьнякоў, раскарчоўкі лесу і г. д. Апрача гэтага, дзякуючы шматпольлю, якое ўводзіцца, плошча папару скарачаецца.

У параўнаньні з 1916 г. пасяўная плошча ў сялян вырасла цяпер на 35 проц. Ураджайнасьць у акрузе за астатнія гады траха лепшая, чымся была ў даваенныя часы.

Жывёлагадоўля акругі ў колькасным стасунку таксама пасунулася далёка ўперад. У параўнаньні з 1917 г. агульная колькасьць коняй павялічылася на 24,8 проц., рагатай жывёлы на 38,3 проц., сьвіней на 7,5 проц. і авечак на 137,7 проц.

Колькасьць гаспадарак без рабочай жывёлы скарацілася з 12,5 проц. у 1917 г. да 10,2 проц.—у 1928 г., колькасьць гаспадарак, якія ня маюць кароў, паменшылася з 7,8 проц. да 4,2 проц.

У параўнаньні з 1917 г. гаспадарак, якія мелі адну карову ў акрузе цяпер менш, а тых якія маюць две—тры каровы больш.

Што тычыцца рабочай жывёлы наглядаецца іншы вобраз. Зараз маюць перавагу гаспадаркі з адным канём, тады як раней гаспадарак, якія мелі двох коняй, было больш, чымся гаспадарак з адным канём.

Забясьпечанасьць сялянскіх гаспадарак сьвіньнямі яшчэ не дасягнула дарэвалюцыйнага ўзроўня, тлумачыцца гэта тым, што шмат сьвіней гіне ад пошасных хвароб.

Такім чынам, дзьве галоўныя галіны с. г.—паляводзтва і жывёлагадоўля даюць значны рост.

З ліку найбольш галоўных мерапрыёмстваў, якія былі праведзены на астатнія 10 год, а справядлівей за 7—8 год трэба падкрэсьліць наступнае.

1) Зроблена многа працы па ўцягненьню сялянства ў каапэрацыю. Пачынаючы з 1924-25, с.-г. каапэрацыя стала відавочна расьці, а на астатні год яна шпарка ўзьнімаецца і буйна ўзрастае.

На 1-е 1928 г. у акрузе налічвалася 73 каляктыўных гаспадаркі—147 машынных, 118 пасялковых, 141 мэліарацыйных, 49 малочных,

8 насеннаводных, 7 садова-гародных, 5 птушкаводных, 61 агнятрывалая, 71 тарпяная, 24 рыбаводных і 36 крэдытных таварыстваў.

За адзін прайшоўшы 1927-28 г. арганізавана новых 359 каапэратываў. Колькасьць калхозаў павялічылася ўдвое. Сельска-гаспадарчая каапэрацыя аб'ядная цяпер прыблізна да 40 проц. усіх сялянскіх гаспадарак акругі.

Агнятрывалыя т-вы арганізуюца ў спэцыяльную сэкцыю пры Палесьсельсаюзе.

2) Земляўпарадкаваньне ў акрузе праходзіць інтэнсыўна. Да рэвалюцыі было земляўпарадкавана ўсяго толькі 1 проц. усіх сялянскіх гаспадарак. Цяпер земляўпарадкоўваецца кожны год у сярэднім 7 проц. сялянскіх гаспадарак. На 1-е 1928 г. земляўпарадкавана іхкаля 58 проц. на плошчы 580.000 гэкт., у гэтым ліку гаспадарча земляўпарадкавана 190.000 гэкт. ці 19 проц.

3) Праца па шматпольлю разгорнута на плошчы 17.000 гэкт., з якіх пад ральлёй знаходзіцца 69.000 гэкт.

4) Пад гатунковымі пасевамі—аўсом і жытам у 1928 г. было занята 8.135 гэкт.

5) Справа забясьпечаньня сялянства с. г. машынамі з кожным годам пашыраецца. У даваенны час прадавалася машын прыблізна на суму да 100.000 руб. у год. За астатнія 5 год прададзена іх на 1.775.060 руб. Пры чым за астатні 1927-28 г. прададзена на 624.460 р.

6) У мэтах паляпшэньня каняводзтва ў 1921 г. у акрузе, ці справядлівей у быўшай тады губэрні, арганізован конны завод з рысістым і верхавым аддзяленьнямі. Зараз на заводзе знаходзіцца каля 180 галоў дарагога матар'ялу. Завод гэты знаходзіцца пад загадам НКЗ. Пры заводзе маецца іпадром. Да рэвалюцыі коннага заводу ў акрузе ня было.

7) Дзеля паляпшэньня сьвінаводзтва ў акрузе арганізованы адзін сьвіны завод і тры сьвіных гадавальнікі. Маецца і аўчарня з раманаўскімі авечкамі.

8) Садаводзтва ў акрузе мае вельмі вялікае значэньне. Пад садамі знаходзіцца 4.567 гэкт. Для забясьпячэньня насельніцтва пасадачным матар'ялам закладзена 6 пладовых гадавальнікаў. Да канца пяцілеткі яны павінны кожны год даваць да 150.000 шт. пасадачнага матар'ялу.

За астатнія гады засаджана новых садоў, на плошчы да 500 гэт.

9) За астатнія гады ў акрузе арганізавана 31 масласыр завод. У 1928 г. пабудованы крухмальны завод. У 1928-29 г. намечана пабудаваць тры крухмальных заводы, два з якіх-буўныя; а таксама намечана пабудова аднаго буйнага заводу па перапрацоўцы садавіны і гародніны.

**Мураўскі.**

---

# 5 год працы Менскай Расьлінаводнай Станцыі.

**Гісторыя арганізацыі.** Пачатак арганізацыі Менскай Расьлінаводнай Станцыі паложаны ў 1922 годзе заснаваньнем Беларускай Агранамічнай Станцыі ў Банцараўшчыне. У 1924 г. станцыя была пераведзена пад Менск, дзе і зараз знаходзіцца дасьледчае поле. З 1927 г. станцыя адышла да Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя Леніна, у складзе якога яна мае ў сучасны момант наступныя аддзелы: паляводзтва, гэнэцікі і сэлекцыі—з меркаваньнем на бліжэйшы год раз-

гарнуць аддзел прыстасаваньня. Праца аддзелу паляводзтва з 1928 г. значна пашырылася арганізацыяй на тэрыторыі фэрмы „Прылукі—Атоліна“ новага дасьледчага поля.

**Задачы станцыі і іх ажыцьцяўленьне.** З задач выконваемых станцыяй, магчыма коратка ўказаць наступныя:

1. Вывучэньне спосабаў запраўкі бедных пясчаных і лёгка суглі-ністых глеб і павялічэньне іх вытворчасьці.

2. Вывучэньне сялянскай палявой тэхнікі і дасьледваньне спосабаў яе рацыяналізацыі.

3. Вывучэньне кароткіх уплатнёных севазваротаў у зьвязку з вырашэньнем пытаньняў корма-здабываньня і ўгнаеньня.

4. Сортавывучэньне і сортаспрабаваньне асноўных культур палявой гаспадаркі раёну.

5. Вывучэньне засьмечанасьці палявых культур і спосабы барацьбы з ёю.

6. Пашырэньне працы Інстытуту сялян-дасьледчыкаў.

7. Папулярызацыя і прыстасаваньне дасягненьняў станцыі сярод насельніцтва.

За адсутнасьцю магчымасьці даць матар'ял па ўсіх закранутых пытаньнях, гэты артыкул мае мэтаю ў самых кароткіх рысах адзначыць некаторыя вынікі працы станцыі з угнаеньнямі і апрацоўкаю глебы.

**1. Вывучэньне розных сельска-гаспадарчых расьлін на зялёнае ўгнаеньне.** Параўнаньне робіцца паміж лубінам, пялюшкай, сэрадэляй і мешанкаю іх. Досьлед ставіцца на двух тыпах глебы—пяшчаным і лёгкім суглінку. 4-гадовыя даныя паказваюць, што на розных тыпах глебы роля адных і тых-жа стручкавых расьлін не аднолькавая. Так, напрыклад, на пяшчанай глебе найбольшы ўраджай жыта дае пялюшкавы папар, потым ідзе лубінавы, мешаны і ўрэшце сэрадэлевы; на суглінку-ж, наадварот: першае месца займае сэрадэля, якая перавысіла лубін на 35 проц., другое пялюшка (на 14 проц.) і апошняе – лубін. Гэта розьніца ўплыву на розных тыпах глебы, відавочна, тлумачыцца неаднолькавымі ўмовамі раскладу арганічнай масы і наогул living рознымі фізыка-хэмічнымі ўласьцівасьцямі глебы.

**2. Уплыў мінэральных угнаеньняў на фоне лубінавай масы.** Адначасова з дабаўкаю да лубіну мінэральных угнаеньняў, праводзіцца параўнаньне дзейнасьці чыстага лубіну з поўным мінэральным угнаеньнем на лёгкім суглінку. 2-гадавыя даныя ўраджаю жыта паказалі, што лубінавая маса з дабаўкаю калійнай солі замяняе поўнае мінэральнае ўгнаеньне; у той-жа час на пяшчанай глебе лубін замяняе апошняе бяз усякіх дабавак.

**3. Уплыў гною, лубіну і камбінацыі іх на ўраджай жыта і наступнай канюшыны.** На падставе атрыманых даных, магчыма сказаць, што найбольшай увагі заслугоўвае камбінацыя лубіну з гноем. Напрыклад, у параўнаньні з поўнай нормай гною, дзейнасьць якой прымаецца за 100 проц., нязначная маса лубіну (каля 100 цэнтнераў на гэктар), заворанага з паўнормаю гною, дала 77 проц. жыта і 110 проц. канюшыны. Адна лубінавая маса ў паказанай колькасьці як на жыце, так і канюшыне, складае палову ўраджаю ад нормы гною.

**4. Пасяўныя і пажніўныя расьліны на ўгнаеньне пад бульбу.** Галоўная задача гэтага досьледу—максымальнае выкарыстоўваньне вытворчасьці глебы ў форме, так званага, уплатнёнага севазвароту. Асаблівасьцю такога севазвароту зьяўляецца адсутнасьць, па-першае, чыстага папару, а па-другое, вырошчваньне на адным полі двух расьлін—збожжа і зялёнага ўгнаеньня. Тэхніка гэтага прыёму даволі простая і для дадзенага досьледу складваецца з наступнага: з раньняй вясны пад адну частку жытняга пасеву падсяваецца сэрадэля, пад другую—у час красаваньня жыта падсяваецца лубін, а трэцяя—адразу-ж пасьля прыборкі жыта заворваецца і сеецца, так званы, пажніўны лубін (фактычна—звычайны сіні). Усе гэтыя расьліны ў восень заворваюцца, акрамя пажніўнага лубіну, частка якога пакідаецца на зіму для веснавой заворкі. Вясною па зялёных угнаеньнях садзіцца бульба, а за ёю ідуць культуры ў севазвароце, які мае наступнае чаргаваньне: віка-аўсяны папар, жыта з падсяўнымі і пажніўнымі культурамі, бульба і авёс. Пры гэтым трэба адзначыць, што ў звычайных гаспадарчых умовах магчыма выкарыстаць ня толькі зімовае поле, але і яравое, калі пасеяць, напрыклад, з аўсом сэрадэлю.

Трохгадовыя даныя досьледу на лёгкім суглінку яскрава прадстаўлены ў наступнай табліцы, якая паказвае дзейнасьць зялёных угнаеньняў на працягу трох год.

| НАЗВА ЎГНАЕНЬНЯЎ | Ураджай бульбы з гэктару | | Ураджай аўса з гэктару | | Ураджай віка-аўсянага сена з гэктару | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | У цэнтн. | У %% | У цэнтн. | У %% | У цэнтн. | У %% |
| Без угнаеньня | 115,31 | 100 | 6,92 | 100 | 22,25 | 100 |
| Падсяўная сэрадэля | 152,63 | 132 | 8,82 | 127 | 28,20 | 127 |
| Падсяўны лубін | 167,21 | 145 | 10,76 | 155 | 29,44 | 132 |
| Пажніўны лубін з асеньняй заворкай | 164 | 142 | 9,52 | 137 | 24,45 | 110 |
| Пажніўны лубін з вясеньняй заворкай | 169,38 | 147 | 10,11 | 146 | 33,29 | 150 |

Табліца паказвае, што карысьць ад зялёных угнаеньняў вельмі значная, пры чым дзейнасьць іх не абмяжоўваецца нават трыма культурамі, а напэўна, працягваецца на ўвесь севазварот. Заслугоўвае ўвагі, паміж іншым, веснавая заворка пажніўнага лубіну, якая дае некалькі большы ўплыў, чым асеньняя.

**5. Уплыў гною, зялёных і мінэральных угнаеньняў пры культуры коранэплодаў.** Задача гэтага досьледу—высьвятліць, па-першае, рацыянальныя нормы гною, а таксама і камбінацыі яго з зялёнымі і мінэральнымі ўгнаеньнямі і, па-другое, высьвятліць месца ўгнаеньняў у севазвароце, гэта значыць, адказаць на пытаньне, пад якую культуру і ў якой форме выгадней даваць угнаеньні.

Досьлед праводзіцца на хрышчаватай (дробна жарсьцьвянай) супясі ў 4-палёвым севазвароце: заняты папар, жыта з падсяўнымі і пажніўнымі расьлінамі на ўгнаеньне, кармовыя буракі і авёс.

У сэнсе выкарыстоўваньня вытворчасьці глебы гэты ўплатнёны севазварот некалькі падобен да папярэдняга: тут таксама зімовае поле, акрамя ўраджаю жыта, служыць для пасеву лубіну і сэрадэлі на ўгнаеньне пад наступную культуру, якою ў даным выпадку зьяўляюцца буракі.

Форма ўгнаеньняў і іх дзейнасьць больш зразумелы будуць з наступнай табліцы:

| Назва ўгнаеньняў | Ураджай жыта з гэктару | | Назва ўгнаеньняў | Ураджай буракоў з гэктару | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пад жыта | У цэнтн. | У %% | Пад буракі | У цэнтн. | У %% |
| Без угнаеньня | 17 | 100 | Без угнаеньня | 120 | 100 |
| 360 цэнтн. гною | 26 | 152 | Без угнаеньня | 314 | 260 |
| Без угнаеньня | 17 | 100 | 360 цэнтнераў гною | 295 | 241 |
| 360 цэнтн. гною | 26 | 152 | Калійная соль | 295 | 244 |
| Салетра, супэрфасфат і калійная соль (PKN) | 22 | 133 | 180 цэнтнераў гною | 286 | 237 |
| Салетра, супэрфасфат і калійная соль (PKN) | 22 | 133 | Без угнаеньня | 254 | 211 |
| 180 цэнтнераў гною | 21 | 123 | Падсяўны лубін (супэрф., кал. соль) | 258 | 214 |
| 180 цэнтнераў гною | 21 | 123 | Падсяўны лубін | 221 | 183 |
| Лубін | 21 | 125 | Без угнаеньня | 150 | 125 |
| Лубін | 21 | 125 | Пажніўны лубін | 219 | 181 |
| Сэрадэля | 19 | 113 | Падсяўная сэрадэля | 115 | 95 |

Двохгадовыя даныя па ўраджаю жыта даюць наступныя вынікі: 1. З зялёных угнаеньняў лепшым зьяўляецца лубін, які замяняе поўнормы гною (180 цэнтн.). 2. Поўнае мінэральнае ўгнаеньне замяняе значную колькасьць гною (паміж нормаю і паловаю). 3. Што датычыцца буракоў, дык аднагадовыя даныя паказваюць, што зялёныя ўгнаеньні ў адпаведных камбінацыях з мінэральнымі даюць магчымасьць замяніць вельмі значную частку гною.

**6. Уплыў гною і мінэральных угнаеньняў на ўраджай бульбы.** Досьлед праводзіцца на храшчаватай супясі ў 4-палёвым севазвароце: вікавы папар, жыта з падсевам сэрадэлі (на сена), бульба і авёс. Мэта досьледу—высьвятліць магчымасьць замены гною мінэральнымі ўгнаеньнямі.

3-гадовыя вынікі прадстаўлены наступнай табліцай, якая паказвае дзейнасьць угнаеньняў на працягу трох год.

| НАЗВА ЎГНАЕНЬНЯЎ | Ураджай бульбы з гэктару | | Ураджай аўса (агульнаї масы) з гэктару | | Ураджай віка-аўсянага сена з гэктару | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | У цэнтн. | У %% | У цэнтн. | У %% | У цэнтн. | У %% |
| Без угнаеньня . . . . | 128,05 | 100 | 18,12 | 100 | 18,03 | 100 |
| 180 цэнтнераў гною . . . | 167,19 | 131 | 27,08 | 149 | 31,12 | 172 |
| 360 цэнтнераў гною . . . | 181,54 | 142 | 29,12 | 161 | 33,32 | 185 |
| 180 цэнтнераў гною — поўнормы салетры, супэрфасфату і кал. солі . . . . . . | 180,23 | 141 | 30,12 | 166 | 31,70 | 176 |
| Поўнае мінэральнае ўгнаеньне (PKN) . . . . . . | 166,04 | 129 | 23,48 | 130 | 18,18 | 100 |

З табліцы відаць, што поўную норму гною магчыма замяніць палавінаю з дабаўкаю поўнормы мінэральных угнаеньняў, якія ў чыстай форме раўняюцца дзейнасьці 180 цэнтр. гною.

**Вегетацыйныя досьледы.** Акрамя палявых досьледаў пытаньні ўгнаеньняў вывучаюцца і вегетацыйным мэтадам. Галоўныя вынікі гэтых досьледаў у самых короткіх рысах зводзяцца да наступнага.

1. Мінэральныя ўгнаеньні пад асноўныя культуры—жыта, бульбу і авёс, як на пяшчанай, так і на лёгка-сугліністай глебе даюць значны эфэкт толькі пры ўмове ўнясеньня азотавага ўгнаеньня (напрыклад, у форме салетры); без азоту іншыя мінэральныя ўгнаеньні, як паасобку, так і ў падвойных камбінацыях—у большасьці выпадкаў, нерацыянальны. Гэта сьведчыць аб тым, што на лёгкіх глебах у першым мінімуме знаходзіцца азот; на другім месцы стаіць фосфар і на трэцім калій. Пры гэтым цікава адзначыць, што пры здавальненьні першага мінімуму—азоту, фосфарнае ўгнаеньне з посьпехам можа ўжывацца ў форме фасфарытнай мукі, якая пры гэтай умове замяняе супэрфасфат.

2. Вялікай увагі заслугоўвае лубінавая мука, якая дае вельмі значны эфэкт, перавышаючы ў некаторых выпадках нават салетру.

3. Ня меншая ўвага належыць і да торфу, які пры камбінацыі з нязначнаю часткаю гною, або пры правядзеньні праз хлеў у якасьці подсьцілу—цалкам замяняе гной.

**1. Апрацоўка глебы.** Галоўным пытаньнем гэтай групы зьяўляюцца папары, якія вывучаюцца станцыяй па супясі і на лёгкім суглінку.

Вельмі яскравыя вывады дае наступная табліца, дзе паказаны ўраджаі жыта і аўса па розных папарах на супяшчанай глебе:

| Назва папару | Ураджай папаравых культур: бульбы, вікі і турнэпсу | Ураджай жыта з гэктару | | Ураджай аўса з гэктару | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | У цэнтн. | У %% | У цэнтн. | У %% |
| Позны сялянскі. . . . . . . . | — | 17,41 | 100 | 10,96 | 100 |
| Раньні чысты . . . . . . . . | — | 19,91 | 114 | 12,33 | 112 |
| Бульбяны . . . . . . . . | 159 цэнтн. | 19,05 | 109 | 11,39 | 104 |
| Віка-аўсяны . . . . . . . | 30 „ | 18,31 | 105 | 10,37 | 95 |
| Турнэпсавы . . . . . . . | 157 „ | 18,00 | 103 | 13,00 | 118 |

На падставе 3-гадовых вынікаў неабходна адзначыць, што ўраджаі жыта і аўса па занятых папарах вышэй, чым на позным сялянкім і мала ніжэй, чым на раньнім чыстым. Такім чынам ураджай папаравых расьлін—ці будзе гэта бульба, ці сена або турнэпс—зьяўляецца амаль дармовым дадаткам.

**2. Лушчэньне аржоньня.** Гэты прыём, даступны па сваёй прастаце і таннасьці кожнаму селяніну: патрабуе толькі сваячасовага (адразу-ж пасьля прыборкі жыта) мелкай заворкі аржоньня.

Двухгадовыя даныя досьледу паказваюць, што лушчэньне аржоньня можа павялічыць ураджай наступнай культуры — аўса на 25 проц., у даным-жа досьледзе дзейнасьць лушчэньня яскрава выявілася і на другой культуры—віка-аўсянай мешанцы, якая дала прыбытку ад лушчэньня на 41 проц. Гэтыя лічбы настолькі яскравы, што асабістых тлумачэньняў не патрабуюць. Неабходна толькі адзначыць, што акрамя павялічэньня валавога ўраджаю, лушчэньне вельмі значна памяншае засьмечанасьць пасеваў наогул.

3. **Апрацоўка глебы пад авёс і кармовыя буракі.** Даныя досьледы на лёгкім суглінку паказваюць, што лепшаю формаю апрацоўкі глебы пад указаныя культуры зьяўляецца летняе лучшчэньне або мелкая заворка і веснавая глыбокая заворка.

4. **Спэцыяльныя прыёмы асобных культур.** З гэтай групы пытаньняў магчыма адзначыць спосабы пасеву і пасадкі кармовых буракоў, якія вывучаюцца станцыяй на супясі і суглінку.

Досыць яскравы малюнак дае табліца ўраджаю буракоў на супясі (у цэнтнерах і процантах).

| | | | |
|---|---|---|---|
| Пасеў насеньнем | на грэбні | 214,28 ц. | 100 % |
| „ „ | у грунт | 245,21 „ | 106 % |
| Пасадка флянсамі | на грэбні | 275 „ | 128 % |
| „ „ | у грунт | 331 „ | 154 % |

Акрамя вышэйадзначанага станцыяй праводзіцца значная праца па цэламу шэрагу іншых пытаньняў, як напрыклад: сортавывучэньне і сортаспрабаваньне, аграхэмічныя дасьледваньні, праца з сялянамі-дасьледчыкамі, грамадзкая праца, вывучэньне засьмечанасьці, вывучэньне цукровых буракоў і г. д., але падрабязна з гэтай і наогул усёй працай магчыма будзе пазнаёміцца з падрыхтаванай да друку справаздачай.

Навукова-Дасьледчы Інстытут.

Я. Ж.

# Вынікі працы Магілеўскай Дасьледчай Станцыі лекавых расьлін.

Магілеўская Дасьледчая Станцыя лекавых расьлін пачала працу па досьледу над гэтай культурай з 1917 г. Вырашчваньне лекавых расьлін—новая справа, таму яна мае шмат нявырашаных пытаньняў як навуковых, гэтак і практычных: умовы росту ў нашай краіне, увядзеньне ў палявы і садова-гародны севазварот у якасьці прамысловай культуры і г. д. Працуючы ў гэтым напрамку, станцыяй здабыта шмат матар'ялу па цэламу шэрагу пытаньняў. На старонках часопісі „Плуг“ мы маем на ўвазе, у кароткіх рысах, падзяліцца некаторымі данымі з чытачамі, якія цікавяцца культурай лекавых расьлін.

Станцыя працуе ў складзе палявога аддзелу, аддзелу сэлекцыі і хэмічнай лябораторыі. У 1917 г. было толькі 2 гадавальнікі на плошчы ў 225 кв. саж., а ў бягучым годзе пад дасьледчай і прамысловай культурай занята звыш 9 гэктараў. Сабрана 86 цэнтнераў сыравіны і насеньня галоўных лек. расьлін 71 клгр. Дасьледчая праца вядзецца пераважна над лек. расьлінамі, на якія ёсьць вялікае запатрабаваньне. Яны маюць і выгаднае прамысловае значэньне ў нашай сельскай гаспадарцы, як прыбытковыя тэхнічныя расьліны. Да ліку гэтых расьлін належаць валяр'яна (Valeriana officinalis L.) з шэрагам вызначаных з яе на станцыі відаў, беладона (Atropa Belladonna L.), з устаноўленым на станцыі 3-ма формамі, чырвоная напярсьцянка (Digitalis purpurea L.), шалвей лекавы (Salvia officinalis L.), з 3-ма вызначанымі на станцыі формамі і некаторыя іншыя. Вялікая ўвага быўш. загадчыка ст. Г. К. Крайера была зьвернута на вывучэньне валяр'яны. З вызначаных відаў валяр'яны атрымаў шырокае распаўсюджаньне на



Валяр'яна на дасьледчым полі станцыі.

станцыі від (Val. nifida) пад назвай сухадольная валяр'яна. Гэты від знойдзен у быўш. Гомельскай губ., у даліне ракі Сожу. Пры сортаспрабаваньні, параўнальна з іншымі, на працягу шэрагу гадоў гэта валяр'яна ня толькі аказалася значна ўраджайнай па колькасьці карэньняў, але і багацейшай эфірна-валяр'янавым маслам (алеем). У той час, як валер'яна, якая ўзрасла ў дзікіх умовах на балоце, мела ў каранёх 0,9 проц. эфірна-валяр'янавага масла, суходольная валяр'яна ў сярэднім за шэраг гадоў, у культурных умовах мела ў каранёх 2,3 проц. Досьледы ўжываньня розных ўгнаеньняў над валяр'янай паказалі карыснасьць ад гэтага. Ад гною ня толькі павялічваецца ўраджай, але і якасьць матар'ялу. Валяр'яна можа ісьці па сьвежым гнаі, але тады надта засьмечваецца. Найлепшае месца для валяр'яны ў севазвароце будзе пасьля асыпных расьлін. Досьледы з тэрмінамі пасадкі валяр'яны: у сярэдзіне ліпеня, жніўня, верасьня і красавіка месяцаў у гэтым годзе, лепшыя вынікі атрыманы ад позьняй асеньняй пасадкі, на 38 проц. прыбаўкі карэньня супроць вясеньняй і значна больш супроць астатніх. Павялічвае ўраджай і якасьць валяр'яны і пульхненьне глебы. Пасадка валяр'яны на градках, грэбнях і на роўным полі пры астатніх роўных умовах, дала большы ўраджай на градках (на 7 проц.).

Досьлед з вяршкаваньнем даў прыбаўку ўраджаю сухога кораню на 46 проц. у сярэднім, параўнальна з не вершкаванай. Пры існуючай зараз высокай цане на насеньне валяр'яны і затраце працоўных рук на апэрацыю па вяршкаваньню, наўрад-ці гэта апэрацыя можа быць выгадна. Гушчыня пасадкі валяр'яны на 27×27 сант., ня гледзячы на прыбаўку пры загушчанай пасадцы каранёў на 51 проц., ня можа быць рэклямавана з прычыны цяжкасьці догляду і ўборкі яе. Ураджай карэньняў атрымоўваецца найбольшы на другі год вырашчваньня, а насеньня на 3-ці. Сярэдні ўраджай карэньняў валяр'яны ў 1928 г., пры дужа няспрыяючых кліматычных умовах, на сугліпкавых глебах станцыі быў 180 клгр., а на пясковых—587 клгр.

Праца з беладонай (над вызначанымі на станцыі 3-ма формамі) паказала, што Каўкаская беладона (Atropa Caucasica Kr.), мае ў лісьцях большы процант алкалёідаў (патрэбныя для лякарства матэрыі), чым іншыя. Найбольшая колькасьць гэтай матэрыі ў беладоне ў пэрыяд ад цьвяценьня да пасьпяваньня ягад. Гэта і будзе лепшы тэрмін уборкі беладоны. Але ў гэты час ніжняе лісьце ўжо пажаўцее



Беладона ў садзе (у цяні).

і псуе тавар, таму прынята ўборку лісьцяў, да разьвілак расьліны, рабіць перад цьвяценьнем, ці пры першым зацьвятаньні беладоны. Беладона добра разьвіваецца ў садох, даволі цяністых і таму можа быць скарыстана ў сялянскіх садох з загушчанай пасадкай дрэў, дзе ня могуць расьці іншыя с.-г. расьліны, у мясцох, звычайна занятых бур'янам ці травой. Пасадка беладоны ў такіх садох магла-б прынесьці значную выгаду селяніну. Яна можа даць, у сярэднім, да 5 цэнтнераў лісьцяў з гэктару, што пры існуючай цане 110 р. за цэнтнер, будзе звыш 500 руб. з гэктару валовага прыбытку. Апрацоўка ў садзе беладоны і яе ўгнаеньне далі-бы карысьць і пладовым дрэвам.

Праца з *чырвонай напярсьцянкай* вялася па сортаспрабаваньню; пераважнасьць па ўраджаю лісьцяў мела чырвоная напярсьцянка. Вяршкаваньне напярсьцянкі перад зацьвітаньнем павялічвала ўраджай лісьцяў. Вядзецца праца па адбору зімаўстойлівых кустоў і назіраньне за цэлым шэрагам вызначаных расьлін.

*Шалвей.* У нашых умовах зімою шалвей не забясьпечан ад выправаньня. Маецца цэлы шэраг шалвею для адбору на зімастойкасьць. У астатнім культурны шалвей зусім добрай якасьці. Сярэдні збор лісьцяў шалвею 1-га году дае 456 клгр., а у 2-гі год дае да 960 клгр., па цане 75—90 кап. за клгр.

*Аптэчны рамон.* Высяваецца ён як папарная расьліна, па гнаёваму ўгнаеньню, унесенаму ў паўтары разы больш, чымся пад збожжа. Пасеяны рамон восеньню 1927 г., у 1928 годзе даў 4 зборы, з агульнай вагай 706 клгр. сухіх кветак з гэктару, а вясеньні пасеў—116,2 клгр. Акрамя таго, ураджай жыта па асеньняму пасеву рамону даў ураджай 15,63 цэнтнер. зярна і 37,59 цэнтнер. саломы, па вясеньняму-ж—6,80 цэнтнераў зярна і 21 цэнтн. саломы. Пры ўмовах добрай глебы, як, напрыклад, у селяніна Шабайлава Янкі, Магілеўскага раёну, ураджай сухіх кветак рамону дасягнуў 1783 клгр. з гэктара, па цане ад 90 кап. да 1 руб. за клгр. Аптэчны рамон, як і іншыя лекавыя расьліны зьяўляецца працаёмкай і высокакаштоўнай культурай, якая заслугоўвае ўвагі шырокіх мас сялянства, у асаблівасьці там, дзе маюцца ў гаспадарцы свабодныя рукі.

Загадчык Станцыі **А. Осьцін.**

---

# Менская Станцыя Аховы Расьлін.

Станцыя Аховы Расьлін існуе на Беларусі толькі некалькі гадоў, аднак, за гэты кароткі тэрмін яна зрабілася арганізуючым і кіруючым фактарам справы аховы расьлін у нашай краіне. У апошнія гады станцыя пачала зьяўляцца грунтоўнай базай і для дасьледчай справы па барацьбе са шкоднікамі ў сельскай гаспадарцы.

Да пэрыяду арганізацыі Дасьледчай Станцыі барацьбы са шкоднікамі, вывучэньнем шкоднікаў на Беларусі, амаль што ніхто не займаўся.

Між тым, значэньне шкоднікаў і хвароб для культурных расьлін у эканоміцы сельскай гаспадаркі Беларусі вельмі вялізарнае. Акрамя звычайных шкоднікаў, якія штогодна зьяўляюцца на нашых палетках, садох і гародах, якія стала са дня ў дзень жывуць за рахунак сельскагаспадарчых расьлін, мы маем гібель шкоднікаў, якія раптоўна нападаюць на расьліны і прыносяць вялізарныя страты. Сярод такіх шкоднікаў трэба адзначыць: азімага чарвяка, шкодніка жыта, ільнянага чарвяка, капусную доўганожку, зялёнавочку, швэцкую муху і г. д.

Вытваранае Станцыяй экспэдыцыйнае абсьледваньне на Полаччыне, Віцебшчыне, Гомельшчыне і Мазыршчыне паказвае на значную распаўсюджанасьць шкоднікаў.

У абсьледваных мясцох пашкоджаньні дасягаюць 50% і вышэй.

Гэта толькі страты ад мух, ня лічачы значных страт ад розных вусеняў — азімага чарвяка, сьцеблявай і зернявай начніцы і шэрагу іншых шкоднікаў.

Гэтакі процант пашкоджаньняў вельмі вялікі, калі прыняць пад увагу малую кусьцістасьць збожжа, якая хістаецца каля 1 г., калі расьліна ад пашкоджаньня траціць найбольш карысныя первястковыя сьцяблы.

У садоўніцтве абсьледваньне паказвае таксама на вялікія страты. Так, у некаторых мясцох мы маем пашкоджаньні ад яблынявае кветаежкі да 57 проц., яблынявае пладаежкі—да 25 проц,, зімняй гэомэтрыды (зімняя пядзяніца) да 27 проц., акрамя шэрагу вусеняў розных

лісьцёскрутак, прадзільнікаў, моляй, якія знаходзяць штогодна спажыву ў садзе.

Шмат шкоднікаў псуюць і нішчаць гароды, асабліва капусная муха, бялян капусьнік, капустажор, капусная моль, скочкі, капусныя доўганосікі і шэраг падгрызаючых, высасваючых ці аб'ядаючых шасьціножак, якія распаўсюджаны на прасторах Беларусі.

Лічбы страт: паляводзтва—10 проц., садоўніцтва—25 проц., гародніцтва—20 проц., зьяўляюцца сярэднімі штогоднімі лічбамі страт ад шкоднікаў. Папярэдняе вывучэньне складу шкоднае фауны паказвае, што мы маем шмат шкоднікаў, над якімі яшчэ да гэтага часу не праводзілася ніякай навукова-дасьледчай працы, адносна вывучэньня іх біолёгіі, спосабаў змаганьня з імі, ня толькі ў нас на Беларусі, але нават і ў Саюзе. Між тым іх эканамічнае значэньне вялізарнае. Прыкладам зьяўляюцца: жытнія сьцеблавыя і азімая мухі, жытняя муха, якая зьнішчае каласы, капусная доўганожка, якая зьявілася ў гэтым годзе ў масавай колькасьці, італьянская шаранча, якая зьнішчала на Мазыршчыне жыта, грэчку і г. д.

Акрамя таго, паступова з поўначы на поўдзень мы сустракаемся з мешанінай гэтых фаун і ўжо на Мазыршчыне назіраецца перавага шкоднікаў поўдню, іх інтэнсыўная дзейнасьць павялічваецца і магчыма чакаць, што з біолёгічнага боку будзем мець некаторыя зьмены ў павялічэньні колькасьці генэрацыі (гэсэнка, зялёнавочка і інш.).

Толькі з часу арганізацыі Станцыі Аховы Расьлін былі зроблены адпаведныя ў гэтым напрамку крокі.

Бліжэйшай задачай дасьледчай дзейнасьці Станцыі была высуната, як падстава, задача сыстэматычнага высьвятленьня шкоднікаў ня толькі культурных расьлін, але і дзікай расьліннасьці і ўжо на падставе вядомых ведаў вывучаць пытаньні жыцьця шкоднікаў, высьвятляць стадыі іх разьвіцьця і ўплыў розных фактараў на іх дзейнасьць. Далейшымі вынікамі такіх прац зьявіцца вывучэньне і прыстасаваньне мер змаганьня ва ўмовах сялянскіх гаспадарак.

Першыя гады прац Станцыі магчыма характарызаваць як арганізацыйныя. Пры вялікай напруджанасьці ўдалося так організаваць і абсталяваць Станцыю, што зьявілася магчымым усебакова вывучаць спосабы і мэтады змаганьня са шкоднікамі.

За час існаваньня Станцыі праароблена шэраг прац, з якіх некаторыя маюць нават усесаюзнае значэньне. Дзякуючы яе дзейнасьці, асабліва за апошні 1927-28 год, стала відавочным неабходнасьць правядзеньня больш шырокага вывучэньня шкоднікаў і правядзеньня практычных мерапрыемстваў па змаганьню з імі ў сельскай гаспадарцы.

Паступова і няўхільна разьвіваецца праца па вывучэньню шкоднікаў сельскай гаспадаркі. Дапамагчы Станцыі ў гэтай справе, каб хутчэй мець неабходныя вынікі, павінны ўсе грамадзкія організацыі і сялянства, шляхам дасылкі на Станцыю сабраных шкоднікаў і прымернікаў пашкоджаньняў, а таксама павінны сваячасова паведамляць аб зьяўленьні шкоднікаў на с.-г. ці іншых расьлінах. **М. Пілько.**

---

## Ад ільнамялкі да ільназаводу.

У пачатку першага дзесяцігодзьдзя ільнаводзтва і канапляводзтва Савецкай Беларусі зьяўляліся толькі спажывецкімі. Бо сама Савецкая Беларусь складалася тады з 6 паветаў б. Менскай губэрні, дзе ня было прамысловага вядзеньня гэтых тэхнічных культур і ў даваены час. Сялянства сеяла лён і каноплі толькі для сваіх патрэб; ніякіх таварных лішкаў валакна ня было, акрамя нязначнай часткі насеньня

лёну. Частка яго, праўда, пападала і на дзяржаўны завод, але ў большасьці яно перараблялася на саматужных маслабойках для свайго спажываньня. Вось і ўвесь гандаль прадуктамі ільнаводзтва. Можна сказаць, што ільнаводзтвам і канапляводзтвам тады ніхто ня цікавіўся, ніякай арганізаванай дапамогі ня было. Цікава адзначыць, што на дзяржаўных с.-г. складах, зусім ня было спэцыяльных машын па ільнаводзтву, акрамя 1 мялкі для лёну ў Цэнтраземскладзе ў канцы 1922 г.

Прамысловае ільнаводства і канапляводзтва пачынаецца ў Беларусі з часу далучэньня да БССР Віцебскае, Полацкае, Аршанскае і Магілеўскае акруг. З гэтага часу Беларусь патроху пачала расьці ў напрамку разьвіцьця тэхнічных культур, якія і ў даваенны час у далучанай частцы былі значна пашыраны. Зараз БССР займае трэцяе месца ў саюзным маштабе па колькасьці таварных лішкаў толькі аднаго ільнянога валакна.

Беларуская пянька лічыцца самаю лепшаю па якасьці валакна.

Лён і каноплі, калі браць іх па ўсёй Беларусі, зьяўляюцца самымі таварнымі расьлінамі. Гэта значыць, што сяляне больш за ўсё прадаюць ільнянoe валакно, насеньне, пяньку і канаплянае насеньне. Ад усяго ўраджаю (валавога) тэхнічных культур за год сяляне прадаюць лішкаў іх прадуктаў трэцюю частку ці 33 процанты, а дзьве часткі пакідаюць для сваіх патрэб. У той час, як прадуктаў жывёлаводзтва з пчалярствам прадаюць 28 процантаў ад валавога збору, садовіны 27 процантаў, збожжа 6 і бульбы з гароднінай каля 4 процантаў.

Па колькасьці грашовых выручак ад прадажы лён і каноплі таксама стаяць на першым месцы сярод усіх іншых расьлін палявой гаспадаркі. Гэта значыць, што селянін больш за ўсё прадае лён і каноплі, ну, больш за ўсё і грошай атрымлівае ад іх.

Вось якое значэньне маюць лён і каноплі для селяніна і дзяржавы ў канцы першага дзесяцігодзьдзя.

Усе таварныя лішкі ідуць на пераробку на дзяржаўныя заводы і фабрыкі, а часткаю вывозяцца за межы, адкуль назад мы атрымліваем машыны і рознае абсталяваньне, якія патрэбны нам для разьвіцьця ўсяе народнае гаспадаркі,

Затым зараз надаецца вялікая ўвага тэхнічным культурам.

Для падвышэньня ўраджайнасьці і паляпшэньня якасьці іх, дзяржава аказвае значную дапамогу сялянам, снабжаючы іх танным добраякасным насеньнем лёну, штучным угнаеньнем пад лён і каноплі (трэба пачынаць унасіць „парашкі“ непасрэдна пад лён і каноплі), выдае авансы пры кантрактацыі, выдае пазыкі на закупку насеньня, угнаеньня і машын і аказвае агранамічную дапамогу праз курсы, лекцыі, паказальныя вучасткі, выстаўкі, перавод на шматпольле і інш.

Самая-ж найбольшая дапамога будзе складацца з пабудовы заводаў і дробных пунктаў, якія будуць купляць ад селяніна ня толькі вымачаны ці вылежаны лён, але нават нямочаны і нясланы, толькі высушаны ў полі пасьля ўборкі.

Пачалі з аднэй ільнамялкі, а канчаем дзесяцігодзьдзе адчыненьнем ільнянога заводу ў Лёзьне, Віцебскай акругі. Завод будзе перарабляць 150 тысяч пудоў ільняное саломы і выпускаць каля 29 тысяч пудоў гатовага валакна. Коштоўнасьць заводу каля 230 тысяч рублёў.

З вясны 1929 года пачне будавацца другі такі-ж завод у Дрысе, Полацкай акругі. Акрамя таго, ва ўсіх ільнаводных акругах будуць адчынены дробныя заводы—пункты.

Вось дасягненьні за дзесяцігодзьдзе ў галіне тэхнічных культур.

**А. Шатэрнік.**




# За калектывізацыю, за ўздым ураджайнасьці.

*(З прамовы Наркома Земляробства тав. Прышчэпава).*

Недахоп спажывецкіх прадуктаў, недахоп сельска-гаспадарчай сыравіны пачынаюць станавіцца галоўнымі тормазамі нашай індустрыялізацыі і нашага сацыялістычнага будаўніцтва. Таму асноўнай задачай зямельнай палітыкі цяперашняга часу зьяўляецца праблема па ўздыму ўраджайнасьці і вытворчасьці ўсіх галін сельскай гаспадаркі.

Якім парадкам выйсьці з сучаснага становішча, каб зьліквідаваць усе прычыны, якія затрымліваюць нашае гаспадарча-сацыялістычнае разьвіцьцё? Даць больш шырокі прастор разьвіцьцю кулацкіх гаспадарак, разумеючы пад гэтым, што яны зьявяцца асноўнымі пастаўшчыкамі хлеба і сыравіны для гораду і сацыялістычнай індустрыі, мы ня можам. Такога шляху для разьвіцьця кулацкай сельскай гаспадаркі дабіваюцца спэцыялістыя з буржуазнай і дробна-буржуазнай ідэалёгіяй, чакаючы аднаўленьня капіталізму. Іх настроі адбіваюць прадстаўнікі правага ўхілу ў партыі. Калі-б мы сталі на такі шлях разьвіцьця сельскай гаспадаркі, дык тады зараз-жа трэба было-б адмаўляцца ад задач сацыялістычнага будаўніцтва, ад дыктатуры пралетарыяту і стаць на шлях пераходу да буржуазна-дэмакратычнага строю.

Калі мы ў аднавіцельны пэрыяд разьвівалі, галоўным чынам, індывідуальную гаспадарку і дапушчалі досыць хуткае разьвіцьцё заможнай часткі сялянства, дык далей гэтага быць ня можа.

Пралетарская рэвалюцыя ў сваім руху ўперад, у сваім сацыялістычным будаўніцтве ўжо прашла вастаноўчы этап у гаспадарцы і робіць круты паварот на сацыялістычную перабудову гаспадаркі, у тым ліку і сельскай гаспадаркі, якая зьяўляецца, пакуль што, па сутнасьці, дробна-буржуазнай, сялянскай гаспадаркай.

Адзінаццаты зьезд партыі цьвёрда сказаў: *„у нас іншага шляху, як шлях арганізацыі сацыялістычнага земляробства, ня можа быць. Мы ня можам праводзіць нашу гаспадарчую палітыку так, каб у прамысловасьці паскорана разьвіваць арганізацыю сацыялістычнае формы гаспадаркі, а на вёсцы сельская гаспадарка разьвівалася па шляху капіталістычнаму"*.

У далейшым мы павінны, бо гэтага патрабуе сацыялістычная індустрыя, у шырокім памеры пачаць арганізацыю калектыўнага земляробства, савецкіх гаспадарак, разьвіцьця вытворчых відаў сельска-гаспадарчай каапэрацыі.

Пры такой устаноўцы ў нашай зямельнай палітыцы можа скласьціся ўражаньне, што ўсе паасобныя сялянскія гаспадаркі выпадаюць, як аб'екты, для нашых мерапрыемстваў, і мы можам кінуць аб іх клапаціцца. Не зьвяртаць жаднае ўвагі на індывідуальнае сялянскае земляробства—ніхто ня думае, і такая палітыка была-б абсалютна памылковая; якраз, наадварот, праводзячы шпаркім тэмпам арганізацыю сацыялістычнага земляробства, мы павінны ў самым шырокім маштабе разгарнуць нашыя мерапрыемствы па ўздыму ўраджайнасьці і вытворчасьці індывідуальных, бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Палітыка праводзіцца супроць індывідуальных капіталістычных-кулацкіх, эксплёататарскіх гаспадарак, а індывідуальныя бяднацка, сярадняцкія гаспадаркі павінны зьяўляцца аб'ектамі дзеля нашых самых шырокіх і ўсебаковых мерапрыемстваў і актыўнай ім дапамогі, з адначасным правядзеньнем каапэраваньня іх, машынна-індустрыяльнага абслугоўваньня, электрыфікацыі, кантрактацыі іх таварнай прадукцыі і правядзеньня іншых мерапрыемстваў, якія будуць садзейнічаць іх перабудове ў сацыялістычным напрамку.



Дм. Прышчэпау

Нарком Земляробства БССР.

Праводзячы зараз нашу пралетарскую зямельную палітыку мы разам з гэтым будзем праводзіць і іншыя мерапрыемствы, якія-б затрымлівалі разьвіцьцё кулацка-капіталістычных форм земляробства.

Пагэтаму, ва ўмовах Беларусі, правадзімую намі сыстэму мерапрыемстваў неабходна папоўніць такімі новымі мерапрыемствамі, якія-б сапраўды садзейнічалі разьвіцьцю сацыялістычных форм земляробства і дапамагалі ўздыму ўраджайнасьці і вытворчасьці ўсіх культур і галін

сельскай гаспадаркі. Час выкінуць з галавы некаторым спэцыялістым думкі, што ва ўмовах Беларусі, нібыта, дзякуючы аграрнай перанаселенасьці і малазямельлю, адсутнічаюць спрыячыя ўмовы да шырокага разьвіцьця сацыялістычнай сельскай гаспадаркі. Практычныя шляхі па арганізацыі сацыялістычных форм сельскай гаспадаркі намі выразна вызначаны і практычна выпрабаваны. Такімі мерапрыемствамі зьяўляюцца арганізацыя буйных савецкіх гаспадарак, калектывізацыя, індустрыялізацыя і каапэраваньне сялянства.

Для таго, каб сапраўды і відавочна павялічыць сацыялістычны сэктар у сельскай гаспадарцы, мяркуецца, у працягу пяці год, павялічыць плошчу нашых савецкіх гаспадарак на 50 тыс. гэктараў. Гэта будзе зроблена за кошт мэліараваных зямель. Гаспадаркі будуць арганізоўвацца буйныя, па нашых умовах, ад трох, пяці і дзесяці тысяч гэктар. Вытворчасьць гэтых гаспадарак будзе накіравана на пашырэньне таварных расьлін. Далей, мы мяркуем плошчу пад нашымі каляктыўнымі гаспадаркамі ў працягу пяці год давесьці да паўмільёна гэктараў. Такім чынам, уся плошча пад савецкімі і каляктыўнымі гаспадаркамі к канцу пяцігодзьдзя будзе 652 тысячы гэктараў.

Пашырэньне ліку саўгасаў і калгасаў трэба зрабіць так, каб таварная прадукцыя гэтых гаспадарак, у асноўным, здавальняла спажывецкія запатрабаваньні ў розных прадуктах рабочае клясы і давала-б значную прадукцыю розных тэхнічных культур для нашых фабрык і заводаў.

Мы думаем у бліжэйшыя пяць год узмоцненым тэмпам праводзіць індустрыялізацыю сельскай гаспадаркі, праз індустрыялізацыю, мэханізацыю і машынізацыю сельскай гаспадаркі, увесьці такую тэхніку, якая-б дала магчымасьць значна разгарнуць вытворчасьць працоўных, якія заняты ў гэтай галіне будаўніцтва.

Як у старыя часы малебнамі, так у сучасны момант голай агітацыяй нельга ўздымаць ураджайнасьць і вытворчасьць сельскай гаспадаркі: толькі сталёвы конь тэхнікі, магутнасьць электрычнай энэргіі — дасьць магчымасьць працоўнаму земляробу асядлаць варожыя стыхіі прыроды і прымусіць глебу расквісьці новымі, багатымі ўраджаямі на абшарах у пачатку сацыялістычнага, а таксама індывідуальнага, каапэраванага земляробства.

Карыстаньне складанымі машынамі і прыладамі зусім немагчыма ва ўмовах дробнай сялянскай гаспадаркі. Пагэтаму самы характар сялянскай гаспадаркі зьяўляецца адным з асноўных тормазаў да большага разьвіцьця вытворчасьці селяніна. Адным выхадам з такога становішча зьяўляецца пераход сялянства да буйнага калектыўнага земляробства. Але-ж, прымаючы пад увагу, што доўгі час будзе існаваць шмат паасобных гаспадарак, нам, скарыстоўваючы прынцыпы і мэтады каапэраваньня, патрэбна будзе ў самай значнай колькасьці дабіцца ўжываньня ўсіх тых машын і прылад, якія-б значна пашыралі вытворчасьць працоўнага сялянства.

Шляхам у арганізацыі сацыялістычных форм земляробства зьяўляецца працэс усебаковага вытворчага і іншага каапэраваньня індывідуальных сялянскіх гаспадарак. У працягу пяцігодзьдзя магчыма будзе ўцягнуць у розныя віды сельска-гаспадарчай каапэрацыі ўсе сто процантаў сялянскіх двароў. Пры гэтым, як паказала практыка каапэрацыйнай працы, лягчэй за ўсё ўцягваць насельніцтва ў крэдытную і снабжэнчаска-збытавую каапэрацыю, і куды цяжэй будаваць спэцыяльныя віды каапэрацыі. Між тым, толькі праз спэцыяльныя віды каапэрацыі магчыма паступова праводзіць аграмаджаньне індывідуальнай сялянскай гаспадаркі і дабівацца ўздыму ўраджайнасьці і вытворчасьці наогул.

Практыка працы па арганізацыі каляктыўнага земляробства ў мінулым годзе паказала, што мы маем шырокае імкненьне да каляктывізацыі з боку батрацкага і бядняцка-серадняцкага сялянства. Так, за адзін год вырасла 509 новых калгасаў, дзякуючы чаму лік іх павялічыўся на 122 проц. Апрача таго, мы маем шырокія зямельныя магчымасьці для далейшай арганізацыі каляктыўнага земляробства, асабліва калі ўзяць землі працоўнага карыстаньня, якімі зараз карыстаецца бядняцка-серадняцкае сялянства, ці вялікія абшары мэліораваных зямель, якія спэцыяльна падрыхтоўваюцца на гэта, далей фонд, які ўтворыцца ад паніжэньня норм зямельнага карыстаньня заможных пры земляўпарадкаваньні. Нарэшце, нас штурхае на шлях шырокай каляктывізацыі і тое, што мы ўкладаем дзесяткі мільёнаў рублёў у індывідуальную сельскую гаспадарку, а карысьці ад гэтага, як вядома, мала. Тады як з упэўненасьцю можна сказаць, што калі-б мы хоць частку гэтых грошаў патрацілі на каляктыўнае земляробства, дык мы ня толькі атрымалі-б значны гаспадарчы эфэкт, але і ліквідавалі-б усе недахопы сельска-гаспадарчых прадуктаў, на якія зараз адчуваецца вялікае запатрабаваньне.

Такім чынам, ва ўмовах Беларусі мы маем вялікі рух з боку батракоў і бядняцка-серадняцкага сялянства да каляктывізацыі, маем зямельныя абшары, на якіх будзем арганізоўваць каляктыўнае земляробства і маем неабходныя грашовыя сродкі і капіталы для каляктывізацыі. Застаецца толькі самім добра арганізаваць працу па каляктывізацыі. Для гэтага, трэба ўсю працу па арганізацыі новых калгасаў, падзяліць на такія пэрыяды:

1. Зімовы пэрыяд, у які мы павінны правесьці ўсю арганізацыйную працу па арганізацыі новых калгасаў.

2. За вясну і лета мы павінны абавязкова закончыць земляўпарадкаваньне, каб даць магчымасьць нова арганізаванаму калгасу засеяць азімае на яго новай тэрыторыі.

3. Трэці пэрыяд, пачынаючы з гэтае восені і аж да восені наступнага году, павінен быць скарыстаны так, каб за гэты час праца па арганізацыі гаспадаркі калгаса была закончана зусім; гэта знача, каб былі пастаўлены будынкі, набыты жывы і няжывы інвэнтар, складзены арганізацыйны вытворчы плян і праведзены іншыя неабходныя мерапрыемствы.

Падзяліўшы працу па арганізацыі калгасаў на такія пэрыяды, мы ня толькі пашырым тэмп сацыялістычнага земляробства, але і дамо магчымасьць кожнаму працаўніку, які зьвязаны з гэтай справай, дасканальна ведаць, што і калі яму рабіць.

Далей, пры арганізацыі новых калгасаў, асабліва на землях працоўнага карыстаньня, мы павінны дабівацца таго, каб разьмер плошчы ў нова-арганізаваных калгасах быў ня менш як 120 гэкт. Але, калі будуць утварацца і дробныя калгасы, то мы павінны іх толькі вітаць і ўсебакова падтрымліваць. Каб дабіцца большай тэрыторыі для калгасаў на землях працоўнага карыстаньня, нам неабходна адразу, з некалькіх суседніх вёсак, якія мяжуюцца, вылучыць групы жадаючых перайсьці да каляктыўных форм земляробства. Выдзяліць ім у адным месцы зямлю і разам з гэтым упарадкаваць вясковае насельніцтва, якое пажадае застацца пры пасялкова-індывідуальным землякарыстаньні. На землях калёнізацыйнага фонду, будзем арганізоўваць толькі буйныя калгасы.

Тыя дробныя калгасы, якія ўжо арганізаваліся і якія ня маюць пэрспэктыў для пашырэньня тэрыторыі, неабходна зараз-жа вызначыць пад арганізацыю буйных садова-гародных і малочных гаспадарак, арганізаваць у іх сад у 30—40 гэкт. Гэта будуць буйнейшыя прамысло-

вые гаспадаркі з вялічэзным прыбыткам і, тады, бязумоўна, яны будуць мець багатую пэрспэктыву для свайго разьвіцьця.

Трэцім момантам, які патрабуе практычнага вырашэньня, гэта ўрэгуляваньне пытаньня аб фінансавых укладаньнях у наша калгаснае будаўніцтва, каб гэтае ўкладаньне праз кароткі час дало належны гаспадарчы эфэкт ад нашага калектыўнага будаўніцтва. Каб дабіцца гэтага, мы павінны зараз-жа арганізаваць моцныя, паказальныя па гаспадарчаму эфэкту, буйныя гаспадаркі, каб яны сваёй, у першую чаргу гаспадарчай справай, паказвалі шляхі, па якіх павінна пайсьці ўсё бядняцка-серадняцкае сялянства.

Чацьвертым момантам, які патрабуе выразнага вырашэньня, гэта цьвёрдая і выразная ўстаноўка на бязумоўна шырокае разьвіцьцё індустрыяльных прадпрыемстваў у калгасах, бо бяз іх у калгасах будуць разьвівацца і пашырацца імкненьні да пераходу на індывідуальнае землякарыстаньне. Зусім зразумела, калі ў калгасе няма электрыфікацыі, няма буйных гаспадарскіх машын, як трактар, паравая малатарня, дык гэтыя імкненьні будуць пашырацца і, урэшце, беднякі, аправіўшыся ў калектыве, разьдзеляць плугі, цапы ды і іншыя дробныя машыны і прылады і калектыў распадзецца.

Каб гэтага ня было, трэба ў калгасе правесьці тыя мерапрыемствы, якія-б замацоўвалі калгас. Трэба даць яму трактар, адчыніць завод, паставіць агнятрывалыя будынкі, правесьці электрыфікацыю, а пасьля гэтага і ў самых адсталых элемэнтаў ня зьявіцца думка аб пераходзе да індывідуальнай гаспадаркі.

Акрамя таго, без індустрыялізацыі і электрыфікацыі калгасаў немагчыма будзе ўводзіць лепшую новую тэхніку ў гаспадарку, пераварыць гаспадарку ў сапраўдна сацыялістычную.

Зусім незразумела, чаму гэта некаторыя працаўнікі і ўстановы ігнаруюць і не праводзяць індустрыялізацыю ў нашых калгасах. Трэба ў абавязковым парадку прымусіць праводзіць палітыку і практычную працу па індустрыялізацыі калгасаў, а таксама і самі калектыўныя гаспадаркі павінны праявіць самую шырокую актыўнасьць за адчыненьне індустрыяльных прадпрыемстваў, бо як практыка паказвае, што найлепш разьвіваюцца тыя калгасы і саўгасы, у якіх ёсьць такія прадпрыемствы.

Пятым пытаньнем зьяўляецца дасканалае вырашэньне і размежаваньне абавязкаў паміж markoзнымі ўстановамі, якія займаюцца калгасным будаўніцтвам.

Усе ўстановы—зямельныя, крэдытныя, каапэрацыйныя павінны быць прыцягнуты да практычнай працы па калгаснаму будаўніцтву і працаваць у поўным кантакце. Размежаваньне працы неабходна вызначыць так: зямельныя ўстановы праводзяць працу па арганізацыі калгасаў і абслугоўваньне іх праз агранамічны пэрсанал, асабліва праз спэцыяльна вызначаных аграномаў. Каапэрацыйныя ўстановы праводзяць поўнасьцю каапэрацыйна-арганізацыйнае і гаспадарчае абслугоўваньне калгасаў.

Крэдытныя ўстановы вызначаюць колькасьць крэдыту, парадак крэдытаваньня, і ўсё гэта праводзіцца так, каб крэдыт садзейнічаў хутчэйшаму гаспадарчаму ўздыму калгасаў. Усе зьвесткі аб працы па калгасах, прадстаўляюцца зямельным установам і калгассаюзам.

Урэгуляваўшы гэтыя асноўныя пытаньні, мы, бязумоўна, узмацнім і пашырым тэмп калектывізацыі.

# Калгаснае будаўніцтва БССР.

Каляктыўны рух у БССР мае свой пачатак з 1919 году. Але ў заходняй частцы Беларусі нямецкая, а потым белапольская акупацыі не далі яму магчымасьці разьвівацца. У гэтай частцы Беларусі пачатак каляктыўнага руху адносіцца да 1921 году, калі яна была аслабанена ад акупацыі.

Усяго было каляктываў:

| | 1919 г. | 1927 г. |
|---|---|---|
| Камуны . . . . | 12 | 48 |
| Арцелі . . . . | 5 | 292 |
| Т-вы па супольнай апрацоўцы зямлі . . | 7 | 76 |
| Разам . . | 24 | 416 |

Спачатку, як відаць, арганізоўвалася больш камун, а потым пераважнае мейсца сярод каляктываў занялі с.-г. арцелі, як формы аб'яднаньняў найбольш адпавядаючыя гаспадарчым умовам Беларусі.

За час з 1919 году па 1927 год с.-г. каляктываў было арганізавана значна больш той колькасьці, якая існавала ў 1927 г., бо разам з ростам калгасаў каля 10—12⁰/₀ іх па розных прычынах штогодна распадалася.

Заўважана, што найбольшая колькасьць распаўшыхся каляктываў прыпадае на долю дробных; так, напрыклад, пры сярэдняй плошчы калгаса па Рэспубліцы ў 132 гэктары, ліквідаваныя ў 1925-26 г. ў Магілеўскай акрузе 28 калгасаў мелі сярэднюю плошчу ў 72 гэктары, у Аршанскай акрузе 16 калгасаў—60 гэкт., Полацкай—7 калгасаў—84 гэктары і г. д.

Але ў апошнім годзе выпадкаў распаду каляктываў амаль што ня было.

Наогул, плыўкасьць насельніцтва ў калгасах да 1927 году была даволі вялікай. Абнаўлялася кожны год каля чвэрткі ці 25% усяго насельніцтва калгасаў. Аднэй з прычын гэтай плыўкасьці насельніцтва трэба адзначыць тое, што да 1927 г. калгасы арандавалі ад дзяржавы маёмасьць былых панскіх маёнткаў, чаму ня лічылі сябе сталымі жыхарамі калгасаў. Шмат якія з іх і ішлі туды толькі часова, да падшуканьня сабе іншай працы дзе-небудзь у іншым мейсцы па сваёй былой спэцыяльнасьці (б. вучыцелі, розныя служачыя, рабочыя з фабрык і іншыя).

У 1927 годзе дзяржаўная маёмасьць была перададзена калгасам у сталае працоўнае карыстаньне. З гэтага-ж году плыкаасьць насельніцтва ў калгасах больш чым на палову зьменшылася і дасягала толькі 12⁰/₀ усяго складу.

Усяго насельніцтва ў калгаспадарках на 1-е кастрычніка 1927 году было каля 21.000.

Па сацыяльнаму складу насельніцтва старой сеткі калгасаў разьмяркоўваецца так:

| | |
|---|---|
| Сяляи безьзямельных | 31,5% |
| „ малазямельных | 21,8% |
| Батракоў | 30,0% |
| Рабочых | 9,5% |
| Служачых і саматужнікаў | 4,5% |
| Іншых | 3,0% |

Па нацыянальнаму складу насельніцтва падзяляецца так:

| | |
|---|---|
| Беларусаў | 65,1% |
| Яўрэяў | 28,7% |
| Расейцаў | 1,1% |
| Палякаў | 4,0% |
| Іншых | 1,1% |
| | 100% |

Яўрэйскіх калгасаў было на 1/X-27 г.—124, альбо каля 30% ад усяго ліку калгасаў. Астатнія калгасы заняты беларусамі, а некалькі адзінак палякамі і іншымі нацыянальнасьцямі.

### Зямельная плошча.

Уся зямельная плошча калгаспадарак на 1-е кастрычніка 1927 г. складала 55.200 гэктараў ці каля 0,72% усяе плошчы Беларусі.

Па разьмерам сваіх зямельных плошчаў каляктывы падзяляюцца так:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Да 50 гэктараў | 31 | Ад 100 да 200 гэктараў | 187 |
| Ад 50 да 100 гэктараў | 127 | Ад 200 да 500 „ | 71 |

Сярэдні разьмер аднаго каляктыву 132 гэктары. Найбольшую плошчу маюць камуны (186,2 гэкт.), сярэднюю арцелі (127 гэкт.) і найменшую таварыствы (109 гэкт.).

Землязабясьпечанасьць у каляктывах вышэй сярэдніх норм сялянскіх гаспадарак. Так, на 1/X-27 г. камуны мелі на аднаго едака 4,2 гэкт., арцелі—2,5, таварыствы—2,2 гэкт. Гэта тлумачыцца недаўкампляктованасьцю значнай часткі каляктыўных гаспадарак насельніцтвам, перашкодай да чаго служыў, галоўным чынам, недахоп жыльлёвых памяшканьняў у каляктывах.

Хаця ў мінулыя гады колькасьць каляктываў з кожным годам значна павялічвалася, але ствараліся яны амаль выключна на б. непрацоўных землях; на зусім пустых, зьнішчаных за час вайны і рэвалюцыі землях, з дрэннымі, разбуранымі памяшканьнямі. Спачатку ня мелі яны ні коняй, ні кароў. Машыны і с.-г. прылады, якія часткова засталіся ад быўшых паноў, былі, у большасьці выпадкаў, папсованы і няпрыгодны для працы. Цяжка было жыхаром каляктываў у першыя гады, пачынаючы сваю працу пры гэткіх дрэнных умовах. Былі выпадкі, калі самым каляктывістам у плуг, ды і ў воз даводзілася запрагацца (камуна „Зьвязда“, Пухав. раёну, Менскай акругі і інш.).

Вялікай дапамогі ад дзяржавы ў той час калякты вы мець не маглі. Дзяржава занята была спачатку грамадзянскай вайной, а потым уся ўвага яе была зьвернута на агульнае аднаўленьне сельскай гаспадаркі, не імкнучыся асабліва ствараць ня прызвычаеных форм калектыўнае гаспадаркі.

Але-ж ўсё-ткі, ня гледзячы на неспагадныя ўмовы, калектыўныя гаспадаркі да 1927 г. давалі значныя ўраджаі, якія павялічваліся і ўжо абагналі сялянскія ўраджаі. Так, у мінулым годзе было:

| | Сялянск. | Калектыўн. |
|---|---|---|
| Жыта . . . . | 41.4 | 54.7 п. з дзес. |
| Ячмень . . . . | 40,4 | 46,2 „ „ |
| Бульба . . . . | 534,5 | 543,9 „ „ |

Таксама значна палепшылася і жывёла. Удой, напрыклад, у калектывах, у сярэднім, дасягае ўжо 70 пудоў у год ад аднае каровы, у той час, калі сярэдні ўдой сялянскай каровы не дасягае і 60 пудоў ў год.

Няжывым інвэнтаром, гэта знача машынамі і с.-г. прыладамі, старыя калектывы амаль ужо забясьпечаны. І, наогул, узровень усёй гаспадаркі калектываў ужо перагнаў сялянскія паасобныя гаспадаркі.

За апошнія часы ўлада і партыя зьвярнулі большую ўвагу на калектыўнае будаўніцтва.

Новы закон СНК ЦВК СССР ад 16 сакавіка мінулага году і дырэктывы XV Партзьезду аб спрыяньні калектыўнаму будаўніцтву і аб прадастаўленьні ім цэлага шэрагу ільгот, палажылі сабою пачатак новае, вельмі бурлівае працы па аб'яднаньню працоўных сялянскіх гаспадарак у калектывы.

Так, на 1/Х-1928 г. было ўжо арганізавана новых калектываў у межах Беларусі 554, агульнаю плошчаю 36.238 гэкт. Галоўная колькасьць гэтых калектываў (каля 60%) арганізавана самімі сялянамі на іх працоўных землях. Найбольш у гэтай працы вылучаюцца Магілеўская акруга (127 калгасаў), Аршанская (116 калгасаў) і Менская (81 калгас). У астатніх акругах трохі меншая колькасьць арганізавана новых калектываў.

Лік сялянскіх гаспадарак, аб'яднаных новымі калгасамі, раўняецца— 4.384. Гэта значыць, адна гаспадарка ў сярэднім аб'яднае каля 7-8 сялянскіх двароў. Плошча кожнага з калектываў, у сярэднім, складае каля 65 гэктараў. Трэба лічыць такую плошчу вельмі недастатковаю. У гаспадарцы з такою малою плошчаю нельга скарыстаць шмат якіх пераваг буйнае гаспадаркі. Нават не асобна складных с.-г. машын, як жняярка, касілка, конныя граблі і іншае, прымяняць у такіх гаспадарках не карысна. Нечага ўжо гаварыць пра трактар. У такой маленькай гаспадарцы зусім няма мейсца яму. Трэба памятаць, што калі ўжо аб'яднацца ў калектыў, дык трэба зьбірацца гаспадаром у такім ліку, каб можна было стварыць гаспадарку ня менш 120—150 гэктараў, з тым, каб у далейшым часе і гэта гаспадарка была яшчэ больш узбуйнена пры дапамозе далучэньня да яе сумежных сялян.

У калектывы, галоўным чынам, аб'яднаюць свае гаспадаркі беднякі і серадня кі, бо ім паасобку вельмі цяжка палепшыць становішча сваіх мізэрных гаспадарак. Больш заможныя сяляне пакуль што менш ідуць

у калектывы, а калі і аб'яднаюцца ў калектыў, дык часта ў мэтах затрыманьня за сабою сваіх вялікіх зямельных надзелаў, каб гэтым пазбавіцца ад абрэзкі і атрымаць ільготы, якія прызначаны бедняком.

Такія шкодныя выпадкі зямельнымі і каапэрацыйнымі органамі ўскрываюцца і своечасова зьнішчаюцца.

Апрача выгады вядзеньня буйнае гаспадаркі, якія-ж яшчэ ільготы дае дзяржава насельніцтву, якое аб'ядняецца ў калгасы?

Такімі ільготамі зьяўляецца наступныя:

1. Павышэньне, дзе ёсьць зямельныя запасы, нормы землязабясьпечаньня ў паўтары разы больш, чым максымальная норма.

2. Дарэмнае і ў першую чаргу земляўпарадкаваньне калектыўных гаспадарак.

3. Перадача ў дарэмнае карыстаньне маемасьці былых панскіх маёнткаў.

4. Больш ільготныя і доўгатэрміновыя крэдыты.

5. Снабжэньне ў першую чаргу с.-г. машынамі і прыладамі, палепшаным насеньнем і мінэральным угнаеньнем.

6. Агранамічнае абслугоўваньне, акрамя грамадзянскай агранаміі, асобнымі спэцыялістамі інструктарамі сэкцый Калгасаў і куставымі агрономамі;

7. Ільготы па с.-г. падатку.

8. Снабжэньне ў першую чаргу лясным матар'ялам і г. д.

Наколькі своечасовы і жыцьцёвы лёзунг XV зьезду Партыі „Вёска ўперад да буйнай калектыўнай гаспадаркі“, можна бачыць як з таго, які шырокі рух выклікаў ён сярод бядняцка-сераднядкіх мас сялянства да калектывызацыі сваіх гаспадарак, так і з таго, якая вялікая актыўнасьць і зацікаўлянасьць праяўлялася ўдзельнікамі акруговых і ўсебеларускага зьезду калгасаў.

Зьезды гэтыя, у сваіх пастановах адзначалі, што масавае вытворчае каапэраваньне дробных сялянскіх гаспадарак і аб'яднаньне іх у камуны, арцелі і таварыствы па сумеснай апрацоўцы зямлі—ёсьць пэўны шлях да палепшаньня матар'яльна-бытавых умоў беднаты і сераднякоў. Толькі гэтым шляхам адчыняюцца шырокія магчымасьці моцнага ўздыму вытворчых сіл сельскай гаспадаркі.

Разам з гэтым зьезды адзначаюць, як недахоп гэтага году, арганізацыю вялікай колькасьці дробных калгасаў.

У мэтах узбуйненьня калгасаў зьезды лічаць неабходным:

а) Ажыцьцявіць пераважнае снабжэньне патрэбнымі ім сродкамі вытворчасьці больш буйных калгасаў. Прыняць меры да аб'яднаньня дробных калгасаў у групы для рацыянальнага скарыстаньня больш складаных машын.

б) Павялічыць крэдытаваньне буйных калгасаў, у якіх найбольш рацыянальна могуць быць скарыстаны крэдыты і даць найбольшы гаспадарчы эфэкт.

в) Пры буйных аб'яднаньнях калгасаў у групы, арганізаваць у першую чаргу: прадпрыемствы па перапрацоўцы сельска-гаспадарчых прадуктаў.

Таксама зьезды лічаць неабходным, каб пры земляўпарадкаваньні вёскі, плошча арганізуемых пасёлкаў складала найбольш выгадны разьмер для пабудовы ў далейшым моцнай калектыўнай гаспадаркі.

З астатніх пытаньняў трэба адзначыць яшчэ адно вельмі важнае і цікавае пытаньне, якое разгледжана таксама зьездамі. Гэта пытаньне

аб арганізацыі працы ў калгасах і разьмеркаваньні прыбыткаў паміж сябрамі.

Няправільнае разьвязваньне гэтага пытаньня калгасамі вельмі дрэнна адбіваецца на ўзаемаадносінах сяброў калгасаў паміж сабою. Часта нават гэта вядзе і да распаду самага калектыву.

Між тым, формы арганізацыі працы, а таксама яе аплаты яшчэ досыць рознастайны. У мінулым годзе найбольш пашыранай формай было разьмеркаваньне працы і прыбыткаў па фактычнаму наліччу працаўнікоў, без дастатковага вучоту кваліфікацыі працаўніка і яго спэцыялізацыі.

| Спосаб разьмеркаваньня працы і яе аплата | Разьмеркаваньне працы ў % | Аплата працы ў % |
| --- | --- | --- |
| Па наліччы працаўнікоў | 52,4 | 33,2 |
| Па едаках | 2,2 | 4,3 |
| Па сем'ях | 28 | 33,5 |
| Па колькасьці патрач. працы | — | 10,4 |
| Па паях | 11,3 | 8,6 |
| Па колькасьці патрачан. працы з вучот. роду яе і кваліф. | — | 5,4 |
| Іншыя спосабы | 5,1 | 4,6 |
| | 100% | 100% |

У сучасны момант мерапрыемствы па арганізацыі працы і разьмеркаваньню накіроўваюцца ў бок прыстасаваньня прынцыпу спэцыялізацыі працы з вучотам яе колькасьці і кваліфікацыі.

У далейшым рэклямуецца разьмяркоўваць прыбыткі гаспадарак калгасаў па колькасьці працы, патрачанай кожным сябрам калгасу, ці членамі яго сям'і, прымаючы пад увагу і кваліфікацыю працаўнікоў. Гэта значыць, што розныя спэцыяльныя работы (садоўнік, сыравар, рахункавод і іншае), для выкананьня якіх патрэбны асобныя веды, трэба трохі вышэй аплачваць, чым звычайныя работы.

Усё сказанае досыць яскрава сьведчыць аб тым, што справа па калектывізацыі сельскае гаспадаркі стаіць ужо на цьвёрдым грунце; што цяпер недаверлівых само жыцьцё пераконвае, што далейшы ўзрост сельскай гаспадаркі будзе забясьпечан аб'яднаньнем дробных паасобных сялянскіх гаспадарак у буйныя калектывы.

Калектыўная гаспадарка вызваліць бедняка ад эксплёатацыі кулакоў. Калектыўная гаспадарка вызваліць бедняка ад нужды і жабрацтва.

Інструктар Бел. Калгас Саюзу **С. Туркін.**

# Кантрактацыя на Меншчыне.

*Якія мэты ставіць сабе кантрактацыя.* У карысьці кантрактацыі сялянства ўпэўніваецца. Ужо адно тое, што на Меншчыне ў гэтым годзе закантрактавана і засеена пад вясеньнія культуры 3.910 гэктараў зямлі, а пад азімыя пасевы 5.542 гэктары, гаворыць за прыхільнасьць сялянства да кантрактацыі. Трэба толькі больш дасканальна азнаёміць сялянства, якія мэты ставіць сабе кантрактацыя, як умова (кантракт) паміж дзяржаўнай прамысловасьцю і сялянскай гаспадаркай.

Кантрактацыя зьяўляецца добраахвотнай умовай-заказам, які селянін выконвае на дагаворных умовах, засяваючы тую, ці іншую культуру, без усялякай рызыкі за лёс свайго тавару.



Дастаўка закантрактаваных сьвіней на бэконны завод.

Раней справу пасярэдніка паміж сялянствам і прамысловасьцю выконваў прыватны гандляр, а сялянства, працуючы на прыватны рынак, не магло больш-менш дакладна пабудаваць свой каштарыс.

Зараз справу кантрактацыі вядзе сельска-гаспадарчая каапэрацыя, якая дае селяніну ільготны крэдыт, а дзяржаўнай прамысловасьці— вытворчасьць сельскае гаспадаркі: сыравіну і прадукты. Прамысловасьць, атрымліваючы ў дастатку сыравіну, будзе бесьперабойна працаваць.

Каапэрацыя зацікаўлена, каб даць прамысловасьці добраякасны прадукт і сыравіну, вось чаму яна дае пры кантрактацыі селяніну аванс: штучным угнаеньнем, палепшаным гатунковым насеньнем і сельска-гаспадарчымі машынамі.

*Кантрактацыя палепшыць сельскую гаспадарку.* Па Меншчыне, пры правядзеньні асеньняй кантрактацыі жыта, Белсельбанкам было

дано кантрактоўшчыкам крэдыту на суму 42.900 руб., а з боку Бел-сельсаюзу было разьмеркавана для кантрактацыі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Супэрфасфату | 561,5 тон | Веялак | 78 штук |
| Фасфарытнай мукі | 128 " | Сячкарань | 135 " |
| Плугоў розных | 350 штук | Ільна-мялак | 5 " |
| Сеялак | 23 " | Сартыровак і трыераў | 14 " |
| Малатарань | 35 " | Насеньня гатунковага жыта | 11.000 п. |
| Прывадоў | 150 " | | |

Зразумела, што тут каапэрацыя робіць дзьве карысьці: прамысловасьць атрымлівае добраякасную вытворчасьць, а сялянская гаспадарка, дзякуючы ўлажэньню ўгнаеньня і прымяненьня с.-г. машын, павялічвае вытворчасьць.

Усё гэта разам цесна ўвязвае дзьве галіны вытворчасьці—сельскую гаспадарку і дзяржаўную прамысловасьць і робіць іх моцнымі. Кантрактацыя дае моцны палітычны саюз паміж рабочай клясай і сялянствам, паколькі гэты саюз грунтуецца на здаровым, аднолькава карысным гаспадарчым дагавору паміж імі.

*Кантрактацыя—саюз вясковай беднаты з горадам.* Кантрактацыя ня імкнецца захаваць саюз з усімі пластамі вёскі.

Лёзунг партыі—сўвязь гораду з вясковай беднатой і серадняком—зьяўляецца і лёзунгам кантрактацыі. Пры чым кантрактацыя асабліва шукае сувязі з бедняком. Сувязь з бядняцкай гаспадаркай патрэбна ўжо таму, што сама бядняцкая гаспадарка на ногі стаць ня зможа і ёй, бязумоўна, патрэбна дапамога.

Раней гэту дапамогу бядняк-селянін сам шукаў у багацея. У весну, калі ў яго ня было чым засеяць сваю палоску, ён ішоў да багацея, вымальваў у яго ў пазыку насеньне пад самы найбольшы процант. Процант гэты, звычайна, вызначаўся ў адработках. У той час, як вузенькая палоска бедняка-селяніна сіратліва заставалася на полі ня зжатаю,—яго жанчына і ён сам адпрацоўвалі кулаку процант за пазыку. Сваю палоску бядняк убіраў спусьціўшы пару, калі колас пачынаў загінацца кручком, а зерня высыпацца з яго.

Зараз Партыя і Савецкая ўлада ўзмацняюць наступленьне на кулака і вырываюць з яго лап вясковую беднату.

Вось чаму кантрактацыя шукае сувязі з бядняцкай гаспадаркай, вось чаму вылучае беднату ў асобную групу і дае ім большы аванс, на адзінку засяваемай плошчы, параўнальна з іншымі пластамі вёскі.

*Кантрактацыя страхуе бядняцкую гаспадарку ад разбурэньня.* Кантракцыя, закантрактоўваючы тую ці іншую плошчу пасеву, застрахоўвае яе ад няшчасных выпадкаў (градабіцьця, сухмені, вымачкі, і інш.) і такім чынам абараняе бядняцкую гаспадарку ад разбурэньня.

### Нашы дасягненьні ў галіне кантрактацыі.

Па маёмаснаму стану ў вясеньнюю кантрактацыю сялянскія гаспадаркі, якія прымалі ўдзел у кантрактацыі, падзяляліся наступным чынам:

бядняцкія—42 проц., серадняцкія—50 проц., і заможныя—8 проц.

Пры кантрактацыі жыта восеньню, мы ўжо бачым павялічэньне бядняцкіх гаспадарак, якія прымалі ўдзел у кантрактацыі:

бядняцкіх—51 проц., серадняцкіх—41 проц. і заможных—8 проц.

Павялічэньне бядняцкіх гаспадарак у справе кантрактацыі сваіх пасеваў гаворыць за тое, што беднякі разумеюць карысьць, якую ім дае кантрактацыя і ідуць на сустрэчу мерапрыемствам Савецкае ўлады.

*Ці былі недахопы ў кантрактацыі.* Былі. У некаторыя таварыствы (Астрашыцка-Гарадзецкае і Барысаўскае) ня было сваячасова дастаўлена дастатковая колькасьць штучнага ўгнаеньня. Дзякуючы гэтаму частка ўжо заключаных дагавораў была скасована. Гэтыя памылкі і недарэчнасьці трэба зьнішчыць і больш не рабіць.

*Якая кантрактацыя працякае зараз.* Зараз ідзе кантрактацыя сьвіней на бэконны адкорм.

Па акрузе мяркуецца закантрактаваць 2.000 падсьвінакаў. На кожнага закантрактаванага падсьвінака выдаецца: бядняцкай гаспадарцы 12 пуд., серадняцкай—10 і заможнай 8 пуд., спажыўных кармоў (аўса, ячменю, высевак).

У гэтай кантрактацыі мы не чакаем вельмі значнага °/₀ удзелу бядняцкіх гаспадарак, бо з іх мала хто мае палепшаную (мэтысную пароду сьвіней. Але ў далейшым, дзякуючы завозу гатунковых кныроў, бядняцкія гаспадаркі змогуць палепшыць пароду сваіх сьвіней і прыняць належны ўдзел у кантрактацыі.

Справа гэтая на Беларусі, бязумоўна, будзе шырока разьвівацца. У Аршанскай акрузе ў 1929 г. будзе закончана пабудова бэконнага заводу, для якога патрэбна кантрактаваць штогодна 75.000 штук сьвіней.

*Што стаіць на часе.* На часе стаіць падрыхтоўка да вясеньняй кантрактацыі. Па Меншчыне, па пляну АКРЗА, мяркуецца ў наступную вясну закантрактаваць:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пад ільно-валакно . . | 700 | гэкт. | Пад лубін . . . . . | 1300 | гэкт. |
| „ ільно-насеньне . . | 700 | „ | „ сэрадэлю . . . . | 250 | „ |
| „ зернавыя яравыя . | 4000 | „ | „ кораньплод. нас. . . | 5 | „ |
| „ бульбу . . . . | 2500 | „ | „ цыбулю . . . . | 13 | „ |
| „ ячмень тэхнічны . | 1000 | „ | „ гуркі . . . . . | 20 | „ |
| „ канюшыну насен. . | 320 | „ | „ моркву . . . . . | 10 | „ |

Каб гэта выканаць неабходна на кожным вясковым сходзе растлумачваць сялянству карысьць кантрактацыі.

Самі беднякі, аграномы, настаўнікі, камсамольцы хатнікі, павінны дапамагчы сельска-гаспадарчай каапэрацыі практычна правясьці справу кантрактацыі.

Шляхам напружанай, бязупыннай працы сярод вясковага насельніцтва, кантрактацыя зробіцца набыткам бедняцкіх і серадняцкіх гаспадарак вёскі.

Толькі такім шляхам можа быць замацаваны саюз працоўнага сялянства з рабочай клясай і наш Савецкі Саюз выйдзе пераможцам у барацьбе супроць капітала і абшарніка.

**Эс. Шастакоў.**

---

# На шляху калектывізацыі.

Калі мы зараз надсумоўваем дасягненьні ў нашай сельскай гаспадарцы, дык трэба сказаць і пра Жлобінскі раён, што на Бабруйшчыне.

Трэба адзначыць, што на шляху калектывізацыі наш раён стаіць добра. За 10 год сяляне здолелі значна палепшыць сваю гаспадарку. Імкненьні да сацыялістычнага будаўніцтва яскрава паказваюць: мэліорацыйныя, спажывецкія, сельска-гаспадарчыя, млынарныя, тарфяныя, малочныя, цагельныя т-вы і арцелі, якіх у нас арганізавана шмат. Разам з саўгасамі і калгасамі яны складаюць фундамант нашага будаўніцтва.

Ці маюць які-небудзь грунт гэтыя аб' яднаньні. Ці маюць яны вынікі ў нова-арганізаванай працы? Адказам на гэта будзе наступнае.

*Кастрычнікаўскае мэліорацыйнае т-ва.* Яно арганізавалася ў 1923 годзе ў вёсцы Нов. Сьвятое, у ліку 27 сяброў. Арганізавалася і пашло расьці: так, на 1925 справаздачны год у т-ве налічвалася 450 сяброў, з ахопам двух сельсаветаў з 10 пасёлішчамі. Балота-дрыгва. Задача т-ва, яго мэта—зрабіць з паўтысячы гэктараў балота добрае поле, з залужэньнем траў і іншых культур. На справаздачны 1926 год у т-ве ўжо налічваецца 12 гэкт. ральлі, 14 кілёмэтраў асушальных каналаў і ўраджай 78 пуд. зерня і 130 пуд. саломы, ці 240 пуд. сена-канюшыны з 2-х укосаў на гэкт. На акруговую выстаўку сябры т-ва прывозяць: авёс, віку, проса, бульбу, гуркі, капусту і г. д. За гэта т-ва атрымала ў прэмію „жалезнага каня“—трактар, які каштуе 2.000 руб. Цяпер з яшчэ большай рашучасьцю пачнецца змаганьне з балотам. Т-ва расьце і мацнее; з боку дзяржавы даюцца доўга і каротка тэрміновыя пазыкі на 1—5 тысяч руб. Адкрыты таксама с.-г. пункт, дзе ёсьць бароны, плугі, каткі і ўсё неабходнае для апрацоўкі балота. Ужо т-ва налічвае 500 сяброў, і 15 паселішчаў.

Зараз абшары Сьвяцкіх балот маюць 60 гэктараў ворыва, 36 гэкт. залужэньня, соткі гэкт. расьцярэблянага балота, 30 кілёмэтраў канаў і стрэлак. Вось лічбы, якія на працягу 5 год існаваньня мэліорацыйнага т-ва і існаваньня ўлады саветаў сьведчаць аб праробленай працы. Толькі дзякуючы напружанай працы як вясковых актывістаў, так і дзяржаўных, асабліва тэхніка Корзуна М. А, мы дабіліся трактара-машыны, а на балоце сена-канюшыны і інш.

Ці мае ўплыў т-ва, ці ёсьць вынікі? Ёсьць Кароткавіцкае т-ва, Кіцінскае т-ва, вось дасягненьні, уплыў т-ва.

*Каапэрацыя.* Каапэрацыя разгорнута па раёну досыць здавальняюча, выконваецца лёзунг, які сказаў Ленін: „Праз каапэрацыю да сацыялістычнага будаўніцтва“. Так, на чатыры сельсаветы (Радускі, Казіміраўскі, Кароткавіцкі і Сенажаткаўскі), маецца 6 лавак з 70—80% каапэраванага насельніцтва.

Каапэратывы выпісваюць літаратуру для культустаноў, і ёсьць усе неабходныя тавары селяніну.

*С.-г. крэдытнае т-ва.* Чырвона-Бярэскае с.-г. т-ва абслугоўвае 2.000 гаспадарак; дае пазыку, крэдыты. Тут кожны селянін бедняк, серадняк зможа атрымаць дапамогу. Ня скуплівае ўжо прыватнік збожжа, жывёлы: гэта робіць лаўка, лаўка падышла да патрэб сялян вёскі.

*Тарфяное т-ва.* Арганізавалася яно ў 1926 годзе. За 1927 год выкапана 30 куб. торфу па 20 руб. куб. На 29 год рыхтуецца значнае павышэньне працы, каб замяніць насельніцтву дровы тарфяным апалам. Тарфяное т-ва—абаронца лесу, тарфяное т-ва—апора нашага багацьця.

*Млынарнае т-ва.* Млынарных т-ваў мала на БССР, але нашы сяляне свой доўг выканалі. Так у 1926 г., на чале Брыкета, арганізавалася ў в. Радушы зразу 5 сяброў, потым 11, а на 28 справаздачны год 60 сяброў. Прыватнікі наўкола малолі па 5—6 ф. з пуда, а як стала т-ва, памол зьехаў да 3 фун. Вось гэта нашы дасягненьні ў працы; тысячы гаспадароў вызвалены ад „перабору“, ад надуваньня прыватных асоб, якія скарыстоўваюць для сваёй кішэні працу селяніна.

*Цагельня.* Агранізавалася ў 27 годзе на чале 10 сяброў. Зараз мае 15 сяброў. Выкапана да 10 куб. саж. гліны; будуецца павець, узят крэдыт. Цягельня заменіць лес, а лес будзе захованы на далей. Вось думка грамадзкасьці, вось тое, што павінна быць (цагельная ў в. Сьвятое і Баршчоўка).

Малочная арцель у в. Плясовічы і г. д.

Калгас „Свабодны труд“ (Радуша —прыклад сялянству. Ён мог быць адчыненым толькі ў краіне Саветаў. Зараз ён мае добрую культурна-паказальную працу, дае прыклад гаспадараньня сялянам-адзінкам; абменьвае збожжа, дае вытворнікаў, с.-г. машыны і г. д. Дзевяціпольны севазварот, пасеў радковым сяўнікам, канюшына, добрыя гатомнікі, вось што мы бачым у калектыўнай гаспадарцы.

Саўгас (Чырвона-Бераскі) с.-г. тэхнікум. Якую карысьць ён дае ваколічнаму сялянству. Вялікую. Ачышчэньне збожжа, абмен, распаўсюджваньне добрай палепшанай жывёлы—сьвіней, кароў вось што дае саўгас сялянству. Няма той вёскі, дзе-б ня меў саўгас уплыву. Гаспадараньне на полі, гародзе, садзе, засеў канюшыны, радковы пасеў і г. д., служыць прыкладам для вакольнага сялянства.

Акрамя вышэйпералічаных савецкіх сацыялістычных мерапрыемстваў, шмат праведзена на шматпольле, засеў гатунковага насеньня, парашковага ўгнаеньня, ворыва на зяб, траеньне пад бульбу, сартаваньне збожжа, кармушкі каровам, уцяпленьне хлявоў, здабываньне торфу, лісьця, моху і інш. на подсьціл—вось тое, што ўжываецца, да чаго прызвычаіліся за 10 год існаваньня Беларусі сяляне.

У далейшым наша задача—„працы не паслабляць“. Трэба і далейісьці па такім напрамку і выконваць запаветы Ільліча.

Селькор-дасьледчык **А. Карунчык**.

---




Адчынены ў дзень дзесяцігодзьдзя БССР.




# За перабудову гаспадаркі на навуковым грунце.

Пралетарская рэвалюцыя ў кастрычніку 1917 году разбурыла старыя сацыяльныя ўстоі царызму і дала права ўсім прыгнечаным нацыям на самастойнае існаваньне. У ліку іншых народаў, забітая і прыгнечаная царскім урадам і наша краіна дзесяць гадоў таму назад, вялікім актам пралетарскага ўраду, абвешчана самастойнай Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікай. У гургане грамадзянскіх боек Савецкая Беларусь заваявала сабе гэтае права, права на пабудову свае нацыянальнае культуры па форме і пралетарскай па зьместу. Арганізаваным націскам пралетарыяту і сялянства разьбіты ўсе варожыя сілы і выгнана ўся белапольская шляхта, якая наважвалася захапіць, а разам з гэтым і зьнішчыць Савецкую Беларусь. І вось ужо дзесяць год Савецкая Беларусь, на чале з Камуністычнай партыяй, будуе сваю народную гаспадарку і культуру на сацыялістычных пачатках.

З кожным годам, дзякуючы стараньням шырокіх мас рабочых і сялян, сацыялістычнае будаўніцтва як у горадзе, так і на вёсцы расьце. Рабочыя будуюць новыя фабрыкі і заводы; сяляне шчыра ўзяліся за палепшаньне і перабудову сельскае гаспадаркі, стаўшы на шлях навуковага абгрунтаваньня сваіх гаспадарчых мерапрыемств. Навука, якая раней была няпрыступна селяніну, цяпер стала грунтам у яго штодзеннай працы. Прыгнечаны, цёмны селянін-беларус вырас у сучасны момант у селяніна-дасьледчыка. Арганізавана, пад кіраўніцтвам дасьледчых станцый, вядзе ён навуковыя досьледы. Ідэя селяніна-дасьледчыка шырока захапіла шырокія колы сялянства, ініцыятыва і самадзейнасьць іх у гэтым напрамку з кожным годам расьце. Гэта відаць з росту Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў, які ўтварыўся ў выніку гэтай актыўнасьці сялянства. Так, у 1926 годзе па ўсёй БССР было толькі 63 селяніна-дасьледчыкі, у 1927 г. іх было ўжо 474, у 1928—804, а ў 1929 г. прадугледжваецца быць 1.200.

Сялянскі досьлед захапіў сабою ня толькі гаспадароў вёскі, а нават і жанчын, якія таксама вядуць досьледы. У 1927 годзе іх было толькі 2, а ў 1928 г. маецца ўжо 7 сялянак-дасьледчыц.

Па катагорыях дасьледчыкі разьмяркоўваюцца наступным чынам:

| ГАДЫ | Саўгасаў | Калгасаў | Школ | Мэліярац. таварыств. | Камітэтаў узаемадапамогі | Яч. АСО | Індыв. сялян | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1926 . . | — | — | — | — | — | — | 63 | 63 |
| 1927 . . | 14 | 14 | 14 | 8 | — | — | 424 | 474 |
| 1928 . . | 13 | 40 | 8 | 8 | 1 | 17 | 690 | 804 |
| 1929 . . | 55 | 121 | 30 | 34 | 1 | 61 | 898 | 1200 |

З кожным годам у склад Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў уваходзяць усё больш аб'яднаньняў і гэтым самым праца Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў становіцца больш масавай і каляктыўнай.

Але-ж на гэтым мы ўспакоіцца ня можам. У сучасны момант мы маем толькі паасобных сяброў ячэек Асаавіяхіму, якія вядуць сялянскія досьледы, але-ж ня маем гэтае працы, як грамадзкай працы ўсёй ячэйкі. Тое самае можна сказаць пра ячэйкі ЛКСМ і партыйныя ячэйкі на вёсцы. Ня гледзячы на другі год існаваньня Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў у складзе яго мы маем ня больш 5 сяброў партыі і каля 10—15 камсамольцаў. Гэтыя арганізацыі на мясцох пакуль што яшчэ ня сталі на чале гэтай масавай арганізацыі.

Сельска-гаспадарчыя гурткі, уся праца якіх павінна грунтавацца на пастанове сялянскага досьледу, пакуль што яшчэ зусім не вядуць дасьледчай працы і працуюць старымі мэтадамі З усяго ліку сельска-гаспадарчых гурткоў, якія існуюць у БССР, мы маем толькі адзін Тадулінскі сельска-гаспадарчы гурток на Лепельшчыне, які з першых дзён арганізацыі Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў завязаў сувязь з Бюро сялян-дасьледчыкаў і ўцягнуў у дасьледчую працу ўсіх сяброў гуртка, як мужчын, так і жанчын.

Масавы сялянскі досьлед ёсьць грунт і найлепшы шлях да палепшаньня сельскае гаспадаркі, таму што ў сельскай гаспадарцы нельга ўжываць якіх-небудзь агульных агранамічных рацэптаў, а неабходна дасканалае вывучэньне ўмоў сельскае гаспадаркі і дапасаваньне да яе ўсіх тых новых прыёмаў па палепшаньню сельскае гаспадаркі, якія мае агранамічная навука. Гэта магчыма толькі шляхам пастаноўкі сялянскіх досьледаў і толькі праз іх і на падставе іх у нашых беларускіх умовах можна вырашыць задачу падвойнай ураджайнасьці, якая ў сучасны момант стаіць перад сельскаю гаспадаркаю. Але-ж трэба заўважыць, што толькі навуковы досьлед можа быць беспамылковым грунтам у палепшаньні сельскае гаспадаркі. Між іншым некаторыя сяляне-дасьледчыкі яшчэ ня зусім уважліва адносяцца да пастаноўкі досьледаў, не заўсёды захоўваюць правілы пастаноўкі і вучоту досьледаў згодна інструкцыі, у зьвязку з чым атрымліваюцца рознабоі ў працы і лічбах, якія нельга раўнаць паміж сабою. Галоўнай прычынай гэтага зьяўляецца тое, што сяляне-дасьледчыкі яшчэ ня зусім стала прапрацавалі інструкцыю па дасьледчай працы, таму ў зімовы пэрыяд сяляне-дасьледчыкі павінны стала прапрацаваць інструкцыю і наогул падрыхтавацца да больш сталага правядзеньня досьледаў у будучым годзе.

Дзеля гэтага сяляне-дасьледчыкі павінны наведваць агранамічныя курсы, якія будуць праводзіцца ў раёнах, павінны актыўна ўдзельнічаць у сельска-гаспадарчых гурткох і трымаць блізкую сувязь з аграномамі.

Другі момант, на які неабходна таксама зьвярнуць увагу сялян-дасьледчыкаў, гэта несваячасовая прысылка вынікаў, досьледаў на дасьледчыя станцыі, дзякуючы чаму затрымліваецца распрацоўка і падагуленьне іх; затрымліваецца распаўсюджваньне іх сярод шырокіх мас сялянства. Несваячасовая прысылка матар'ялаў не дае магчымасьці дасканала вывучыць памылкі і недахопы мінулага і прыняць меры да зьнішчэньня іх у будучым.

Трэба спадзявацца, што сяляне-дасьледчыкі прымуць гэта пад увагу і прымуць належныя меры да зьнішчэньня гэтых недахопаў.

Перад сельскаю гаспадаркаю ў сучасны момант пастаўлены вялікія задачы. У бліжэйшыя гады неабходна падвоіць ураджай у сялянскіх гаспадарках. Сяляне-дасьледчыкі, якія першымі сталі на правільны шлях вырашэньня гэтай задачы ў сваіх гаспадарках, можна лічыць яе на палову вырашылі,—павінны стаць на вёсцы, разам з аграномам, правадырамі ў вырашэньні гэтай задачы для ўсёй масы сялянскіх гаспадарак. Багаты вопыт, канкрэтныя вынікі досьледаў, мэтад працы і дасягненьні сялян-дасьледчыкаў неабходна распаўсюдзіць і зрабіць дасягненьнем усёй масы сялянскіх гаспадарак. Што неабходна для гэтага? Перш за ўсё сяляне-дасьледчыкі, падлічыўшы вынікі сваіх досьледаў, павінны хутка даслаць матар'ялы на дасьледчую станцыю і разам з гэтым павінны апісаць свае досьледы і даслаць у часопісь „Плуг" і газэту „Беларуская Вёска" і, гэтым самым, вынікі гэтых досьледаў зрабіць вядомымі для ўсяго насельніцтва. Ня трэба баяцца, што можа ня зусім складана напішацца, а трэба больш пісаць і чытаць і на гэтым вучыцца.

Апрача гэтага, у сваёй вёсцы, пасёлку і г. д. на агульным сходзе неабходна пазнаёміць з вынікамі сваіх досьледаў усіх сялян вёскі, зрабіўшы просьценькі даклад ці гутарку, дзе калектыўна абгаварыць гэтыя вынікі.

У сельска-гаспадарчых гуртках, дзе сяляне-дасьледчыкі абавязкова павінны ўдзельнічаць, вынікі гэтых досьледаў неабходна больш грунтоўна апрацаваць з тым, каб у карысьці гэтых вынікаў пераканаліся ўсе сябры гуртка.

У складзе Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў ёсьць шмат сялян, якія ўжо даўно вядуць досьледы, ужо больш-менш азнаёміліся з працай і вядуць досьледы здавальняюча. Але-ж большая частка сялян яшчэ маладыя дасьледчыкі, толькі распачынаюць працу і пры такім абгаварэньні вынікаў свае працы ў гуртках, на сходах і ў друку па вопыту старэйшых дасьледчыкаў, будуць вучыцца маладыя. Значная частка сялян-дасьледчыкаў стала на такі шлях у сваёй працы, але-ж яшчэ ня ўсе, таму на гэта трэба зьвярнуць больш увагі.

Побач з гэтым, каб больш папулярызаваць сваю працу і вынікі сваіх досьледаў, неабходна ўтварыць у хатах-чытальнях спэцыяльныя куткі сялян-дасьледчыкаў, дзе неабходна захаваць усе найбольш выдатныя экспанаты сялян-дасьледчыкаў і вынікі досьледаў у выглядзе дыяграм. Ініцыятарамі арганізацыі такіх куткоў павінны стаць самі сяляне-дасьледчыкі.

Сяляне-дасьледчыкі сталі на правільны шлях у палепшаньні свае гаспадаркі, але-ж мы яшчэ вельмі мала зрабілі ў параўнаньні з тым, што нам трэба зрабіць. Той лік сялян-дасьледчыкаў, які мы маем зараз у БССР, яшчэ капля ў моры сярод усёй масы сялянства, таму гэты мэтад працы ў палепшаньні сельскае гаспадаркі неабходна распаўсюдзіць на большы лік сялян, ахапіўшы, у першую чаргу, калектыўныя гаспадаркі. Гэта задача і Бюро сялян-дасьледчыкаў і самых сялян-дасьледчыкаў. Навука і тэхніка, на падставе якой толькі і можна весьці палепшаньне і перабудову сельскае гаспадаркі, рухаецца шпаркім тэмпам; жыцьцё высоўвае ўсё новыя і новыя і больш складаныя задачы, таму досьлед ніколі ня страціць свайго значэньня і толькі на падставе яго можна будаваць новую культурную гаспадарку.

Г. М. Чуйко.

# Аб працы Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў пры Горацкай раённай с.-г. дасьледчай станцыі.

*Якія пытаньні выращаюцца ў сялян-дасьледчыкаў.* Галоўнымі пытаньнямі ў дасьледчай працы сялян-дасьледчыкаў пакуль што зьяўляецца вышуканьне спосабаў падвышэньня ўраджайнасьці. Вядома, што ўраджаі ў сялянскіх гаспадарках вельмі нізкія. Прычынай гэтага ў значнай ступені зьяўляецца незабясьпечанасьць гаспадаркі належнай колькасьцю таго ці іншага ўгнаеньня.

Па падліку Турскай с.-г. Дасьледчай Станцыі, сялянская гаспадарка БССР у сярэднім забясьпечана гноем усяго на 35 проц. ад патрэбнага. Гэтыя лічбы сьведчаць, што пытаньне аб угнаеньнях зьяўляецца вельмі балючым месцам у сялянскіх гаспадарках. Таму мінэральныя ўгнаеньні, торф і зялёныя ўгнаеньні павінны папоўніць недахоп гною ў сялян.

Пытаньнямі ўжываньня мінэральных угнаеньняў і торфу, зялёнага ўгнаеньня на розных глебах і пад розныя расьліны ізаймаецца ў большасьці свае працы Інстытут Сялян-Дасьледчыкаў. Сяляне-дасьледчыкі пасьля досьледу ўпэўніваюцца ў карысьці гэтых угнаеньняў. Вось што па гэтаму пытаньню кажа селянін-дасьледчык Талачынскага раёну таварыш Куксаў.

„Ужываньне мінэральных угнаеньняў і торфу на палёх дасьледчых станцый і ў нашых гаспадарках упэўнівае нас у тым, што гэта значна павялічвае ўраджай. Трэба дабіцца таго, каб штучныя ўгнаеньні зьявіліся неабходнасьцю для кожнага сялянскага двара“.

Другім важным пытаньнем зьяўляецца недахоп кармоў у сялянскіх гаспадарках. Як папоўніць нехапаючую колькасьць кармоў, вывучаецца шляхам пастаноўкі досьледаў над паляпшэньнем сенажаці паверхоўным унясеньнем мінэральных угнаеньняў, баранаваньнем канюшыны вясной, ужываньнем кораньплодаў і г. д. Акрамя памянёнага, праводзіцца яшчэ праца па наступных пытаньнях: уплыў рознай апрацоўкі глебы на ўраджай; сортаапрабаваньне жыта, аўса, ячменю; уплыў гушчыні пасеву на ўраджай.

Усяго ў гэтым годзе па Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў закладзена 145 досьледаў. З іх на тэму:

| | | |
|---|---|---|
| вывучэньне пасьлядзеяньня мінэральнага ўгнаеньня пасьля бульбы на ўраджай яравых збожжавых | | 13 |
| уплыў мінэральных угнаеньняў на ўраджай | канюшыны | 11 |
| „ „ „ „ | лёну | 9 |
| „ „ „ „ | сенажаці | 2 |
| „ „ „ „ | кораньплодаў | 5 |
| „ „ „ „ | бульбы | 19 |
| сортаапрабаваньне ячменю і аўса | | 37 |
| закладзена пад жыта к бягучаму году | | 29 |

Акрамя гэтага пад кіраўніцтвам Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў праведзена 18 досьледаў у гаспадарках слухачоў Сялянскага Унівэрсытэту і 24 досьледы ў сяброў ячэйкі Осоавіяхіма. А ўсяго праведзена 195 досьледаў; амаль ва ўсіх досьледах зроблен вучот, за выключэньнем тых, якія вымаклі або былі чым-небудзь пашкоджаны.

Лік дасьледчыкаў у гэтым годзе павялічыўся больш чым у 5 разоў, у параўнаньні з мінулым годам.

Паступова паляпшаецца якасьць дасьледчыкаў. У будучым годзе некаторым з іх магчыма будзе даручыць весьці дасьледчую працу самастойна.

Сяляне-дасьледчыкі зьяўляюцца культурным асяродкам сярод вясковых мас. У тыя паселішчы, дзе вядзецца дасьледчая праца ў сялянскіх гаспадарках, прыходзяць сяляне невялікімі экскурсіямі з далёкіх вёсак (прыклад, у пасёлак Маханоўку, Горацкага раёну прыходзілі экскурсіі сялян за 5—10 вёрст) і знаёмяцца з пастаноўкаю працы на дасьледчых дзялянках.

З недахопаў у працы дасьледчыкаў трэба адзначыць тое, што і да гэтага часу няма магчымасьці распачаць працу па ўсіх галінах сельскай гаспадаркі. Бо неабходна, адначасова з працай па паляводзтву, праводзіць дасьледчую працу па жывёлагадоўлі, арганізацыі гаспадаркі, садоўніцтву і гародніцтву.

Пакуль што яшчэ няма цеснай сувязі з зямельнымі і агранамічнымі працаўнікамі другіх раёнаў. Шмат хто з сялян і зямельных працаўнікоў ня ведаюць аб існаваньні гэтай арганізацыі і ня маюць сувязі з ёй.

Горацкай с.-г. Дасьледчай Станцыі, зямельным і агранамічным працаўнікам на мясцох неабходна ўсе крокі прыняць да таго, каб гэтую сувязь зрабіць як мага шчыльней і ў бліжэйшы-ж час, інакш вёскі, якія знаходзяцца далёка, яшчэ доўга ня будуць знаёмы з дасягненьнямі дасьледчых установ, карыстаньне якімі ў значнай ступені дапаможа ажыцьцявіць падвышэньне ўраджайнасьці ў краіне.

**Я. Уласенка.**

Горацкая Дасьледчая с.-г. станцыя.

---

# Жыцьцё вёскі ў Савецкай Беларусі, у параўнаньні з ранейшым.

Робячы параўнаньне паміж ранейшым, дарэвалюцыйным жыцьцём вёскі з сучасным, пры Савецкай уладзе, мімаволі застановімся на сельска-гаспадарчым друку. Друк пры царскай уладзе знаходзіўся ў руках прыватніка, які быў зацікаўлены толькі ў большым прыбытку, а не ў карысьці яго для селяніна. Друк-жа цяпер часта церпіць грашовыя страты, але, не зварачае на гэта ўвагі, Савецкая ўлада распаўсюджвае яго сярод сялянства. Пры дапамозе друку яна высьвятляе сялянству ўсе пастановы ўлады, якія накіраваны для паляпшэньня жыцьця сялян, распаўсюджвае веды агранамічнай навукі, каб даць парады, як палепшыць ураджай у гаспадарцы селяніна. Разам з сельска-гаспадарчым друкам, Савецкая ўлада, для разьвіцьця агракультуры, дала вёсцы і належны лік аграномаў.

Трэба сказаць, што і царская ўлада распаўсюджвала кніжкі сярод сялян, але якія гэта былі кніжкі? Малітвеньнікі, часасловы, псалтыры, катэхізісы і да іх падобныя, ды яшчэ малюнкі розных сьвятых. Да гэтага друку таксама быў дадатак, гэта: для ўнядрэньня веры сярод цёмных мас, для таго, каб трымаць у цемры сялянства, што давала магчымасьць лягчэй эксплёатаваць яго; улада трымала за кошт дзяржавы папоў, ксяндзоў ды рабінаў.

Цяпер памяркуем, што кажа нам наша Савецкая ўлада праз друк і агранома, і што казала царская ўлада праз друк, папоў, ксяндзоў ды рабінаў. Савецкая ўлада піша: „трэба добра ўрабляць глебу, каб яна лепш радзіла“; царская пісала: „птушкі нябесныя ня сеюць і ня жнуць, а сыты бываюць“. Савецкая кажа: „чым лепш селянін будзе ўгнойваць глебу, чым больш будзе даваць ёй, тым больш ад яе і атрымае; а царская сказала: „чым больш ты дасі ў царкву, тым больш табе

бог аддасьць“. Савецкая кажа: „змагайся з капіталістымі, не папушчай сябе ў крыўду“; а царская казала: „аддай кесарава кесару, любі ворагаў сваіх, а калі хто ўдарыць табе ў адну шчаку, дык падстаў яму і другую і калі хто зьніме з цябе сьвітку, дык аддай яму і кашулю“ і г. д. Адным словам, „добрую“ справу прапанавалі: выхоўваць гультаёў, зладзеяў ды хуліганаў. Вось грубыя рысы параўнаньня царскай палітыкі ў адносінах сялян і сельска-гаспадарчай палітыкі Савецкай улады.

Цяпер кінем вокам на тое, што зрабіла с.-г. палітыка Савецкай улады за час свайго існаваньня. Я ня буду гаварыць пра тых актыўных сялян, якія ўхапіліся за агранамічную навуку і ўраджаямі на сваёй зямлі могуць супярэчыць з замежнымі ўраджаямі. Пры Савецкай уладзе гэтага ня штука дабіцца, калі табе ў кожным разе можа памагчы аграном, калі ты за невялікую плату можаш цэлы год атрымліваць с.-г. часопісь ці газэту, дзе апрача розных агранамічных ведаў, зьмяшчаюцца практычныя дасягненьні лепшых сялян-дасьледчыкаў, а таксама і дасягненьні дасьледчых станцый, калі ты можаш атрымаць ад улады крэдыт грашыма, лесам, машынамі і наогул усім тым, што патрэбна для паляпшэньня гаспадаркі. Я ня буду гаварыць і аб тых сялянах і цэлых вёсках, якія палепшылі сваю гаспадарку, атрымаўшы пасёлкі, або прырэзы быўшай панскай ці дзяржаўнай зямлі. Для агляду я вазьму такую вёску, якая не атрымала ніякай прырэзкі і толькі з прычыны, таго, што блізка яе няма зямлі, каб можна было яе прырэзаць.

У нашым Заслаўскім раёне ёсьць вёска „Недраска“. Да Савецкай улады гэта вёска нічым не адрозьнівалася ад іншых вёсак: яна таксама, як і іншыя вёскі, хадзіла да папа і вадзіла да яго дзяцей сваіх, а ён іх вучыў, каб у клеці ня зьбіралі, але больш яму давалі.

Раз у сьвяточны летні дзень 1921 г. здарылася мне быць у гэтай „Недрасцы“. Цёплае надвор'е выцягнула з хаты на вуліцу амаль усіх людзей. Старыя і маладыя, мужчыны і жанчыны сядзелі згуртаваўшыся на бярвеньні і гутарылі аб тым, што за час вайны зямля вельмі спустошана, а палякі так пачысьцілі скаціну, што гною, а ні кажы дзе ўзяць. Тады я пачаў такую гутарку: калі добра аглядзецца навакол, дык яшчэ многа можна знайсьці ўгнаеньня. Я сказаў ім пра попел, але заўважыў, што яны пачалі сьмяяцца. Поруч з вёскай знаходзілася больш 50 гэкт. балота, заросшае хмызьняком. Балота належыла да гэтай вёскі. І вось, каб спыніць сьмех, я паказваю на балота і кажу: а вось тут на гэтым балоце гэтулькі гною, што вы за ўсё ваша жыцьцё ня здолееце яго скарыстаць. Накапаўшы на ім торфу і праветрыўшы, яго можна ўжываць на подсьціл, а то і так вазіць на поле, як угнаеньне. А калі гэта балота асушыць, дык з яго можна атрымліваць такія ўраджай, якія вам ніколі і ня сьніліся, напрыклад, 400 пуд. сена з дзесяціны. І вось тут пачаўся ўжо ня сьмех, а рогат. Адным словам мне так дасталася, што вельмі няпрыемна было пакідаць гэту вёску. Вось якая была вёска Недраска ў 1921 г., нічога яна ня мела добрага, жыла, як і шмат да яе падобных вёсак. Хто араў плугам, а хто і сахою, былі жалезныя бароны, але былі і драўляныя. А ў гэтым 1928 г. яна мае многа сячкарань, арфы, малатарні, спружыноўкі, дзьве жняяркі. Усё гэта яна набывае не паасобку, а гуртам, напрыклад: трэба для вёскі бугай, зараз вёска арганізоўвае бычча т-ва і скора і лёгка набывае добрага бугая. Гэта вёска цяпер мае школу, якой раней ня было і пажарную дружыну, малочную арцель, мэліарацыйнае т-ва. Аб'яднаўшыся, яны ўжо асушылі ўсё сваё балота, выкарчавалі і, узараўшы, амаль усё залужылі культурнымі травамі. Цяпер яны ўжо з попелу не сьмяюцца, а зьбіраюць яго і расьсейваюць па асушаным ба-

лоце, а з гэтага балота зьбіраюць сена з аднэй дзесяціны замест 30 пудоў—450 пуд. З усяго-ж балота вёска атрымала замест ранейшых 1.500 пуд. дрэннага сена, добрага сена ня менш 20.000 пуд.

Так гэта вёска Недраска, не атрымаўшы ніякай прырэзкі, але арганізаваўшыся ў арцель і таварыства, здолела павялічыць здабычу кармоў амаль у дваццаць разоў. Разам з гэтым павялічыліся і ўдоі малака, палепшала ўся жывёла і пабольшала гною; палепшаў ураджай, бо ёсьць чым угнойваць глебу і ёсьць чым яе добра абрабляць; і сталі Недрашчане кожны год атрымліваць на выстаўцы прэміі. Цяпер стаіць пытаньне, што штурхнула гэту вёску на шлях такога разьвіцьця. Ну пэўна, не папоўскія прапановы ня сеяць, ды аддаваць... штурханула яе да гэтага сельска-гаспадарчая палітыка Савецкай улады і с.-г. сялянскі друк. Хутчэй павесьці працу ў гэтым напрамку памаглі некалькі актыўных сялян, напрыклад, А. Макарэвіч, К. Пепік, С. Жагіра, І. Беляй, якія і да гэтага часу ня спыняюць сваёй дзейнасьці. Напрыклад, А. Макарэвіч дастаў гатунковых курэй „плімутрок“ з мэтай расьвесьці іх ва ўсёй вёсцы, І. Беляй дастаў кныра „іоркшырскай“ пароды, для гэтакай-жа мэты.

Цяпер актыў вёскі марыць аб арганізацыі супольнай апрацоўкі зямлі ўсёй вёскай. Што-ж, добра, гэта вёска зразумела, што адзін у полі не ваяка, а Савецкая ўлада ім паможа, бо яе палітыка,—гэта дапамога ўсім тым сялянам, якія імкнуцца да культуры, да лепшага сацыялістычнага жыцьця.

Дык няхай жыве Савецкая ўлада, няхай жыве с.-г. сялянскі друк і агранамічная навука.

Селянін **К. Мяхедка**.

(м. Заслаўе, Менскай акр.).

---

# За 10 год—наша вёска значна пасунулася ўперад.

На 10 гадавіне Савецкай Беларусі мы маем вельмі значныя дасягненьні ва ўсіх напрамках нашага жыцьця. Сельская гаспадарка расьце па ўсіх галінах. Вось, возьмем у прыклад нашу вёску. Малая вёска, а дасягненьняў шмат. Калі яшчэ гады чатыры таму назад, нашы сяляне ня толькі старыя, але і моладзь верылі ў бога, у яго моц (давалі малебны, ад усіх бед бараніліся сьвятой вадой і г. д.), дык цяпер інакш—час бярэ сваё. Вясельле з папом стала рэдкім зьявішчам. Было ўжо некалькі выпадкаў пахарон нябожчыкаў без рэлігійнага абраду. Да рэвалюцыі мала было пісьменных у нашай вёсцы, да апошніх год школу наведвала таксама ня больш паловы дзяцей школьнага ўзросту, а цяпер за вучобай усе 100 процантаў. А газэты, часопісі—раней імі на вёсцы карыстаўся толькі поп, а цяпер у нас на кожныя 3 двары 4 газэты. Ёсьць і радыё. Вялікая розьніца і на полі. Раней, да рэвалюцыі, сярэдні ўраджай з дзесяціны быў 45—48 пудоў жыта. За апошнія-ж гады сярэдні ўраджай жыта даходзіць да 70—100, а ў паасобных гаспадароў-культурнікаў да 150 пуд. з дзесяціны. Няўмелы догляд за сенажацьцю даводзіў да таго, што нашы гаспадары, яшчэ ў калядны сустракалі свайго заўсёдашняга гасьця—бяскорміцу. Аб сеянай траве тады і паняцьця ня мелі. А зараз у нас заведзена шматпольле, сеецца канюшына, віка-аўсяная мешанка, караньплоды і г. д. Значна вырасла плошча пад бульбай. Папар увесь заняты. Поле засейваецца ачышчаным і гатунковым насеньнем. Жывёлы раней хаця і больш было, але

ўся яна была дрэнная, з-за няўмелага дагляду—толькі страты гаспадарцы прыносіла. Цяпер у вёсцы, жывёла на 60 процантаў палепшана, догляд за ёю правільны: уцяпляюцца хлявы, корміцца лепш і даецца больш спажыўных кармоў. Амаль усе гаспадары завялі дацкія кармушкі і жывёлу кормяць па нормах. Наогул кашучы, кожны гаспадар імкнецца як-бы сабе хутчэй завесьці пародзістую жывёлу. Гэтаму вельмі спрыяе суседняя саўгаспадарка „Буйнічы". Саха і драўляная барана—вось нашы дарэвалюцыйныя машыны, а цяпер у нашай вёсцы ў кожнага гаспадара жалезны плуг і жалезная барана. На 3 гаспадаркі маецца спружыноўка, на пяць гаспадароў адна сячкарня. Ёсьць малатарні, сеялкі і іншыя сельска-гаспадарчыя машыны. Збожжа абмалочваецца на малатарнях, якіх да рэвалюцыі ня было ніводнае. Колы ва ўсіх гаспадароў цяпер на жалезным хаду, чаго да рэвалюцыі і ўва сьне ня сьнілі.

Яшчэ і цяпер успамінаюць цішаўцы старога гандляра.—Драў ён, як у нас кажуць, скуру, набаўляў, супроць гарадзкіх цэн, колькі сам хацеў. Хоць і вохкалі сяляне, але куплялі ў яго, бо ня ў горад-жа было ісьці за кожнай дробязьзю. А цяпер у нас два каапэратывы. Цэны ў каапэратывы аднолькавы, што і ў горадзе. Каапэраваны ўжо амаль усе двары. Усе нашы гаспадары састаяць пайшчыкамі насенаводнага таварыства, а некалькі гаспадароў і жывёлаводнага таварыства, а таксама і ў іншых.

Наша сялянства з кожным годам багацее; усё больш і больш яно пачынае цікавіцца нашым сацыялістычным будаўніцтвам. Сяляне сталі больш арганізаванымі: аб гэтым сьведчыць арганізацыя гуртка селькораў, куды ўвайшло 30 сялян, арганізацыя насьценгазэты, закладка групавых досьледаў па сельскай гаспадарцы і г. д. Ды ці ўсё пералічыш!

Селянін **А. Фурса**.

(в. 1-я Цішаўка, Магілеўскай акр.).

---

# Нашы дасягненьні за 10 год.

Дзень агалашэньня незалежнай Савецкай Беларусі — вялікае сьвята рабочых і сялян. Толькі ў свабоднай краіне стала магчыма зрабіць перабудову сельскай гаспадаркі, падвысіць ураджай і гэтым палепшыць дабрабыт сялянства. Я гэта падкрэсьліваю прыкладамі свае гаспадаркі: да 1925 г. мы зьбіралі мізэрныя ўраджаі (часта 27 п. з дзес.). За тры ж гады ўпартай працы, ўраджайнасьць кожнага поля павысілася ў два-тры разы, да 68—78 пуд. з дзесяціны.

Як-жа мы дасягнулі гэткага шпаркага росту ўраджаю? Цераз с.-г. кніжкі, парады і цесную сувязь з аграномам, якімі Савецкая ўлада нас забясьпечыла.

Наша гаспадарка каапэравана на ўсе 100 проц. па ўсіх відах каапэрацыі, якія існуюць у кожным раёне с.-с. Як, напр., спажыўнае т-ва, крэдытна-сельска-гаспадарчае, насеннае, мэліарацыйнае, тарфяное, птушкаводнае. У далейшым—павінны ўсім дамагацца аб'яднаньня ў калактыў. З гэтай задачай, прыдзе час, мы справімся. Прыклады для гэтага ёсьць — непадалёку ад нас у в. Верхмен арганізаваўся пры земляўпарадкаваньні калактыў і дзьве арцелі па супольнай апрацоўцы зямлі. Праз калактывізацыю мы здолеем палепшыць сваё жыцьцё да нябывалага стану.

Селянін-дасьледчык **М. Казімірчык.**

---

# Вынікі за 10 год працы ў сваёй гаспадарцы.

Мая гаспадарка пабудавана пры Савецкай уладзе 10 год таму назад. За гэты час яна замацавалася і мае шмат дасягненьняў.

Там, дзе 10 год была пустка, пабудаваны ўсе гаспадарчыя будункі, засаджан сад з 75 дрэў яблынь, сад ягадны з 100 кустоў, ёсьць грушы, сьлівы жоўтыя і белыя, вішні і г. д. Глеба на палёх значна палепшана. Ужо даўно ўведзен васьміпольны севазварот з вылучэньнем двух палеткаў для караньплодаў. Гаспадарка некалькі раз прэміравалася на раённай с.-г. выстаўцы, мае 3 ганаровыя дыплёмы 1-й ступені, прымала ўдзел у конкурсе на „лепшую сялянскую гаспадарку" і атрымала 1-ю прэмію.

Я паходжаньнем з беднай сялянскай сям'і. Заўсёды адклікаюся на запрашэньне савецкай агранаміі. Усе дасягненьні навукі, якія прапануюцца аграномамі, ажыцьцяўлую ў сваёй гаспадарцы. Асаблівую ўвагу надаю я гатунковаму насеннаводзтву як палёвых расьлін, так і кармовых караньплодаў. 3 гады ўжо сею двухрадовы ячмень, так званы, чэхаславацкі і вельмі ім задаволен. Пры спрыяючых умовах ён дае ўраджай сам 10, зерне буйнае, з тонкай скуркай. З пуда зерня гэтага ячменю атрымліваецца 32 фун. круп, мука з яго атрымліваецца белая, мала чым адрозьніваецца ад пшанічнай. Я яго прапаную суседзям, якія ахвотна абменьваюць для сваей гаспадаркі. Жыта ў мяне таксама гатунковае; яно выведзена ў маёй гаспадарцы праз скрыжаваньне двух сартоў—пяткускага і мясцовага. Атрымаўся сорт устойлівы супроць вымярзаньня і не высыпаецца, хоць трохі і перастаіць. Сорт аўсу сею „залаты дождж". Канюшыну кашу два разы, якую сею сваім насеньнем. Выціраю насеньне на канюшыннай цёрцы, якую бяру на аграпункце. У гэтым годзе за канюшыннае насеннаводзтва атрымаў скідку з с.-г. падатку. Разводжу на насеньне і цімафейку, якую сею асобна ад канюшыны. Пры такім пасеве іх лепш прыбіраць з поля, бо яны не адначасова высьпяваюць. Але найбольш я зацікаўлен у вырашчваньні насеньня кармовых караньплодаў. Насеньне канюшыны, цімафейкі і караньплодаў прадаю ў Высачанскае крэдытнае т-ва для распаўсюджваньня навакольнаму сялянству. У гэтым годзе атрымаў насеньня бручкі 60 клгр., морквы 15, канюшыны 40 і цімафейкі 60.

Як селянін-дасьледчык, выконваў сортаспрабаваньне бульбы і кармовых караньплодаў пад кіраўніцтвам Віцебскай с.-г. дасьледчай станцыі. У сваёй гаспадарцы застанавіўся на бульбе „гаўронак". Гэты сорт устойлівы супроць розных хвароб, ураджайны і смачны. Узімку захоўваецца таксама добра.

Маючы сувязь з часопісьсю „Плуг" і с.-г. Лябораторыяй пры газэце „Бедната", вяду досьледы па вытручваньню насеньня перад пасевам, у стымулюючых вадкасьцях, па прарашчваньню бульбы перад пасадкай і г. д. У апошні час маю зносіны з часопісьсю „Наши достижения".

Значныя дасягненьні можна назіраць і ў сялянства ўсяго нашага раёну. Рэдка дзе ўбачыш незаворанае поле на зіму, апрача пасеву. Ды многія заворваюць не абы як, а з папярэднім лушчэньнем. Цяпер шкоднікі, як лугавы матыль і інш. не запаўзуць з пустак на нашы пасевы, як было ў 1924 годзе, бо такіх пустак ужо няма. Рэдка знойдзеш селяніна, які-б ня сеяў канюшыны, або які-б ня імкнуўся завесьці гатунковае збожжа. Простую сьвіньню таксама кожны імкнецца замяніць на завадзкую. У бліжэйшых да мае гаспадаркі паселішчах малацьба выконваецца выключна на малатарнях,

Селянін-дасьледчык **М. Зьвераў.**

(хут. Забор'е, Віцебск. акр.).

# ДЗЯРЖ. ДАПАМОГА ВЁСЦЫ

## Вынікі абгаварэньня ў БССР праэкту Саюзнага закону аб асновах земляўпарадкаваньня і землякарыстаньня.

*(З дакладу Наркома Зямляробства т. Прышчэпава на пасяджэньні прэзыдыуму ЦВК БССР 1-га кастрычніка 1928 г.).*

Абгаварэньне праэкту „асноўных пачаткаў землякарыстаньня і земляўпарадкаваньня, згодна дырэктываў Прэзыдыуму ЦВК праводзілася ў акругах. Былі скліканы спэцыяльныя нарады зямельных працаўнікоў, спэцыялістых; абгаварэньне праводзілася таксама ў раёнах і сельсаветах, і пасьля ўжо сабраныя матар'ялы абгаварваліся ў Акруговых Выканаўчых Камітэтах, заключэньні якіх пададзены ў НКЗем. Апрача таго, гэты праэкт абгаварваўся на нарадзе членаў ЦВК на апошняй сэсіі ЦВК.

Па даручэньні Прэзыдыуму ЦВК Наркамзем надрукаваў гэты праэкт прыблізна ў колькасьці 40.000 экз. і праз „Беларускую Вёску" пашырыў яго па ўсёй Беларусі. Такім чынам асноўны матар'ял для абгаварэньня меўся ва ўсіх сельсаветах і зацікаўленае сялянстаа мела магчымасьць гэты матар'ял абгаварваць.

Апроч таго, гэты праэкт абгаварваўся ў сельска-гасп. Акадэміі і мы маем заключэньні ўсіх спэцыялістых, якія зьвязаны з гэтым пытаньнем. Нарэшце, гэты праэкт абгаварваўся яшчэ на спэцыяльнай нарадзе навуковых працаўнікоў Інстытуту Бел. Культуры.

Што датычыцца сутнасьці закону, то тут маецца асноўная ўстаноўка правесьці цьвёрды і рашучы прынцып нацыяналізацыі зямлі па ўсяму СССР. Ёсьць некаторыя даныя аб тым, што ў некаторых Рэспубліках (галоўным чынам Усходн. рэсп.) былі выпадкі, калі прынцып нацыяналізацыі зямлі парушаўся: у некаторых раёнах Саюзу нават, прымянялася купля-прадажа зямлі. Такім чынам, парушаўся асноўны прынцып пралетарскай аграрнай рэвалюцыі—нацыяналізацыя зямлі. І таму, у разьвіцьцё Канстытуцыі Саюзу ССР, дзе даручаецца Саюзнаму ўраду выдаць асноўныя пачаткі землякарыстаньня і земляўпарадкаваньня, і дзеля таго, каб правесьці рашуча прынцып нацыяналізацыі зямлі, цяпер маецца неабходнасьць у выданьні такога закону.

Другая прычына, якая выклікае выданьне закону, заключаецца ў наступным: у зьвязку з тым курсам, які зараз праводзіцца Партыяй і Савецкай уладай на хутчэйшую рэканструкцыю сельскай гаспадаркі і перабудову яе ў сацыялістычным напрамку, трэба даць асноўную ўстаноўку; як у зямельным праве, гэтак і ў зямельнай палітыцы. Гэтая ўстаноўка прадугледжваецца праэктам.

Але Саюзны закон па нашай думцы і па думцы іншых працаўнікоў усё-ж ткі не павінен парушаць правы саюзных рэспублік і ў гэтым законе трэба прадугледзіць тыя зямельныя і аграрныя асаблівасьці, якія існуюць у тэй ці іншай Рэспубліцы.

Далей праэкт прадугледжвае садзейнічаньне разьвіцьцю і пабудове сац.-сельскай гаспадаркі. Так прадугледжана, што лепшыя землі даюцца бяднейшаму сялянству і ў першую чаргу таму сялянству, якое будзе аб'яднацца ў калякгыўныя гаспадаркі. Землі бліжэйшыяда сялібаў і

землі лепшыя павінны прадстаўляцца гэтым каляктывам. На практыцы ў нас гэты прынцып ужо праводзіцца ў жыцьцё. Далей, надаюцца спэцыяльныя ільготы па с. г. падатку, далей, закон прадугледжвае спэцыяльны крэдыт на калектывізацыю, што ня было прадугледжана нашым зямельным Кодэксам. Далей, прадугледжваецца, што меншасьць зямельнага вобчаства мае права выходзіць на калектыўнае землякарыстаньне, хаця-б большасьць і супярэчыла.

Нарэшце прадугледжваюцца інтарэсы с.-г. пралетарыяту. Напрыклад, пастухі, батракі і інш., калі яны прапрацавалі ў зямельным вобчастве ня менш аднаго году, ужо маюць права атрымаць зямлю, калі будзе праходзіць земляўпарадкаваньне. У ранейшым зямельным праве гэтага ня было.

Разам з гэтым у праэкце праходзіць націск на ўсялякія тэндэнцыі капіталістычнага разьвіцьця сельскай гаспадаркі: тэрміны арэнды зямлі скарачаюцца да 6 год; дазваляецца валасным і раённым выканаўчым камітэтам абмяжоўваць гэты тэрмін да трох год, калі кулацкія элемэнты будуць здаваць сваю зямлю ў арэнду, то зямля адбіраецца і г. д.

І нарэшце, у законе бярэцца трэцяя прынцыповая ўстаноўка—на ўстойлівае землякарыстаньне індывідуальных гаспадарак. Напрыклад, калі праводзіцца мэліарацыя, калі праводзіцца палепшаньне зямель, альбо пасадка садоў, то прадугледжваецца законам, што гэтая зямля альбо павінна пакідацца за карыстацелем пры земляўпарадкаваньні, альбо павінна выдавацца абавязковая кампэнсацыя за зробленае палепшаньне. Гэтым даецца стымул для большага ўкладаньня капіталаў на палепшаньне сельскай гаспадаркі.

Такім чынам, закон праводзіць тры асноўных прынцыпы: 1) садзейнічаньне разьвіцьцю сац. форм, 2) спыненьню ўсякіх капітал. тэндэнцый у сельскай гаспадарцы і 3) устойлівае землякарыстаньне.

Далей ёсьць яшчэ некаторыя заўвагі. Гэта аб тым, што калі будзе зроблена незаконная зьдзелка на зямлю—купля, прадажа, завяшчаньне, дараваньне, залог зямлі і самавольны абмен зямлі, дык тая частка зямлі на якую зроблена зьдзелка адбіраецца ад таго, хто гэтую зьдзелку рабіў.

Што датычыцца разьмеркаваньня зямлі, у часе земляўпарадкаваньня,— дык мы лічым, што пры нашай устаноўцы і разьмеркаваньні зямлі па нормах, калі мы праводзім адрэзку кулацкіх гаспадарак, а серадняцкія гаспадаркі пакідаем пры фактычным землякарыстаньні і калі мы данадзяляем бедняка, то гэты прынцып ва ўмовах БССР пры ўчасткова-падворным парадку землякарыстаньня ні ў якім выпадку прыняць нельга і пагэтаму ад прынцыпу падзелу зямлі па едаках мы адмаўляемся і робім ссылку, што ў даным выпадку зямля можа разьмяркоўвацца па нормах, устаноўленых саюзнымі рэспублікамі.

Практыка паказала, што ў нас кулакоў пры нашай палітыцы ня больш, а менш, чым у тых рэспубліках, якія падзяляюць зямлю па едаках. Тое самае і з іншымі сацыяльнымі праслойкамі. Калі праводзіць ураўнілаўку, то палучыцца, што мы ўвядзем абшчынны парадак землякарыстаньня, які фактычна не існаваў на тэрыторыі БССР, што выклікае дэзарганізацыю сельгасвытворчасьці. Пагэтаму мы лічым неабходным у гэты артыкул унесьці належную папраўку і яе неабходна будзе прыняць.

Далей, ёсьць адзін артыкул, які праводзіўся ў першым праэкце асноў, дзе праводзіўся прынцып распаўсюджваньня абшчыннага парадку землякарыстаньня на ўвесь саюз. Мы ўносім папраўку ў належны артыкул і вучастковы падворны парадак, як такавы, прызнаецца гэтым самым законам. Разглядаючы гэты пункт мы заўважваем артыкул, які

кажа, што калі зямлю прыходзіцца адбіраць для дзяржаўных патрэб, для правядзеньня чыгунак, то дзеля таго, каб кампэнсаваць тых, ад якіх зямля адбіраецца павінны правесьці перадзел зямлі ў вобчастве—гэта значыць чыста абшчынны прынцып. Мы яго адкідаем і ўносім папраўку. Чаму? Таму што, калі адчужэньне зямлі праводзілася, мы землякарыстаньня іншых сялян не парушылі і кожнае зямельнае вобчаства землянадзялялі ў інш. месцы. Мы лічым, што гэтую палітыку трэба будзе правесьці і ў далейшым.

У артыкул 20 мы ўносім папраўку адносна земляўпарадкаваньня. Мы лічым, што наступіў час, калі мы можам паставіць пытаньне аб тым, што земляўпарадкаваньне ўсё цалкам праводзіцца павінна за кошт дзяржавы.

Па гэтаму закону зусім выключаюцца даручэньні па земляўпарадкаваньню с.-саветам. Мы гэта ўключаем таму, што мы на тэрыторыі Беларусі практыкуем дробную раздачу зямлі і ў гэтых выпадках не пасылаем каморніка, а даручаем с-савету. Гэтае ўдзельнічаньне с.-с. у некаторым правядзеньні земляўпарадкаўчай работы мы ўключаем у закон для садзейнічаньня агрыкультурным мерапрыемствам на вёсцы. Прадугледжана адным арт., што можна ўводзіць у абавязковым парадку шматпольны севазварот, а ў іншым уводзіць палепшаньне ў зямельнае вобчаства, а для гэтага патрабуецца 2/3 галасоў. Мы лічым, што для гэтага зусім дастаткова большасьць галасоў. У такім парадку прыблізна і прыняла яго нарада членаў ЦВК пры Сэсіі ЦВК.

Яшчэ адна асноўная заўвага, гэта адносна зямельнага вобчаства і с-саветаў. Па гэтаму закону ўносіцца праэкт разьмежаваньня функцый паміж зямельным вобчаствам і с.-саветам. У нас фактычна зямельнага вобчаства, як такога няма, каб правесьці прынцып правільных узаемаадносін паміж с.-саветам і зямельнымі вобчаствамі, трэба гэтыя правы прадаставіць саюзным рэспублікам, ня ўключаць праў вобчаств у саюзны закон.

---

# Як праводзілася ў нас зямельная палітыка.

З прычыны лістападаўскай рэвалюцыі ў Нямеччыне распаўся яе ўсходні фронт. 10 сьнежня 1918 г. акупанты пакінулі быўшую Менскую губ.

Менскі Губваенрэўком адразу-ж выдаў загад № 27 аб прызнаньні дзяржаўнаю ўласнасьцю зямлі, лесу і ўсякай маемасьці памешчыкаў. Мясцовыя саветы і выканкомы павінны былі ўзяць на вучот усю гэтую маемасьць, каб зьберагчы яе і скарыстаць у інтарэсах народных. Усякія самавольныя захопы зямлі, зьнішчэньне маемасьці і парубкі лесу былі рашуча забаронены.

Тую-ж палітыку аховы нацыяналізаванае маемасьці праводзіў і Часовы Рабоча-Сялянскі Ўрад пасьля агалашэньня 1 студзеня 1919 г. незалежнасьці Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (БССР).

У пачатку лютага 1919 г. сабраўся Першы Беларускі Зьезд Саветаў. Ён ухваліў Канстытуцыю, якая пацьвердзіла нацыяналізацыю зямель, лясоў, вод і нетраў. Такім чынам, у нас з першых дзён існаваньня БССР праводзіцца ў зямельнай палітыцы прынцып нацыяналізацыі.

Каб забясьпечыць Чырвоную армію і насельніцтва хлебам і мясам, з памешчыцкіх маёнткаў былі ўтвораны савецкія гаспадаркі. Як батракі, так і сялянства не адносіліся варожа да такой палітыкі. Батракі, якіх

было шмат у маёнтках, даўно забыліся на зямельную ўласнасьць, ня імкнуліся да яе і сваёй прысутнасьцю ў маёнтках перашкаджалі іх захопу. Сялянства-ж ня вельмі марыла аб гэтым, бо гістарычна ня было прывучана да перадзелаў зямлі. Таму, а таксама з прычыны акупацыі і блізасьці фронту ў нас ня было таго стыхійнага аграрнага руху, які пракаціўся па РСФСР з параўнаўчымі перадзеламі ўсёй зямлі згодна прынцыпу яе сацыялізацыі.

Такая-ж нацыяналізацыя зямлі праводзілася ў пачатку 1919 г. ў Савецкай Літве. Там адначасна з арганізацыяй саўхозаў з быўшых памешчыцкіх маёнткаў сяляне абвешчаны былі арандатарамі дзяржавы. Былі выпадкі, што сяляне прасілі далучыць іх надзельныя землі да савецкай гаспадаркі, каб працаваць у ёй батракамі, бо бачылі, што няма ніякай карысьці ад дробнай праспалоснай гаспадаркі.

У БССР сялянам у 1919 г. пакінута было іх фактычнае землякарыстаньне, прычым, у мэтах яго ўзбуйненьня, дзяржава давала ўсякую дапамогу дваром, якія ўтваралі сельска-гаспадарчы калектыў.

Белапольская акупацыя, якая пачалася 8 жніўня 1919 г., перашкодзіла самабытнаму разьвіцьцю нашае зямельнае палітыкі, накіраванай на ўтварэньне буйных гаспадарак сацыялістычнага тыпу.

У далейшым толькі частка быўшых памешчыцкіх маёнткаў адводзіцца пад саўхозы. Пасьля-ж пераходу да новае эканамічнае палітыкі значная ўвага зямельных органаў зварочваецца на разьвіцьцё індывідуальных сялянскіх гаспадарак.

Калі быў падпісан 12-Х—1920 г. Рыскі дагавор з Польшчай, які ўстанавіў нашу цяперашнюю дзяржаўную граніцу на захадзе, пачалася кіпучая работа зямельных органаў з мэтай правільнага скарыстаньня быўшых непрацоўных зямель.

Згодна тэзісаў па аграрнаму пытаньню, ухваленых 17 сьнежня 1920 г. Другім Усебеларускім Зьездам Саветаў, пад савецкія гаспадаркі адведзена было ня больш 25 проц. быўшых памешчыцкіх маёнткаў. Усё-ж іншыя землі падлягалі разьмеркаваньню паміж безьзямельнага і малазямельнага сялянства. Сядзібы перададзеных сялянству маёнткаў адводзіліся пад школы, больніцы, клюбы і т. п. культурныя ўстановы. Разьмеркаваньне зямлі сярод сялянства рабілася арганізаваным парадкам па папярэдне выпрацаванаму пляну з дапасаваньнем норм землякарыстаньня.

У выніку разьмеркаваньня быўшай непрацоўнай зямлі сялянства Меншчыны атрымала 425.600 дзес. зямлі, пад савецкія гаспадаркі адведзена было 76.200 дзес. і пад сельска-гаспадарчыя калектывы 4.180 дзес. Такім чынам, сялянскае землякарыстаньне павялічылася наогул на 30 проц. У сапраўднасьці прыбаўка гэтая будзе больш значнай, бо атрымлівалі непрацоўную зямлю пры яе разьмеркаваньні ня ўсе двары, а толькі самыя незаможныя.

Аднак і пасьля разьмеркаваньня быўшай непрацоўнай зямлі ня ўсе двары былі забясьпечаны нормай. Для барацьбы з малазямельлем у далейшым, Урад БССР выключае значныя плошчы зямель са складу ляснога фонду і дзяржаўных зямельных маемасьцяй, праводзіць абрэзку буйных гаспадарак, мэліарыруе нявыгадныя землі для ўтварэньня з іх сельска-гаспадарчых ужыткаў і прымае цэлы шэраг мерапрыемстваў для падняцьця вытворчасьці сельскае гаспадаркі.

У сучасны момант зноў, як і ў 1919 годзе, рашуча робіцца стаўка на саўхозы і калхозы, а таксама на каапэраваньне сялянскіх двароў дзеля рэканструкцыі сельскае гаспадаркі і перабудовы яе па сацыялістычнаму шляху.

В.

---

# Яўрэйскае земляробства на Беларусі.

Яўрэй і сельская гаспадарка раней, да рэвалюцыі, зусім ня ўкладвалася ў думцы. Значна лягчэй было-б сказаць яўрэй і паветра. І сапраўды, палітыка царскай улады забясьпечвала яўрэяў толькі паветрам. Нават і паветрам у абмежаванай колькасьці: дыхаць ім можна было толькі ў межах так званай „черты еврейской оседлости“, у абмежаваных, вызначаных мясцовасьцях. Па закону царскага ўраду яўрэі ня мелі права ня толькі займацца земляробствам, але, наогул, жыць у вясковых мясцовасьцях.

Будучы сьціснута такімі ўмовамі, яўрэйскае насельніцтва мела магчымасьць толькі працаваць у дробнай прамысловасьці і займацца гандлем. Зразумела, што запатрабаваньні насельніцтва ў людзях памянёных прафэсій не маглі задаволіць цэлага народу, штучна зацісну-тага ў адным месцы. Вялікая частка не знаходзіла сабе дапасаваньня, ня мела работы і стварала сабой кадр местачковай беднаты, якая часткай уцякала у Амэрыку.

Сацыяльны склад яўрэйскага насельніцтва да вайны характарызуецца наступнымі лічбамі:

| Гандляроў | Беднаты | Бяз ніякай прафэсіі | Інтэлігэнцыі | Рабочых і саматужнікаў | Сялян |
|---|---|---|---|---|---|
| 45,1% | 10% | 4% | 5,3% | 34,6% | 3% |

Мы бачым, што амаль 1/3 частка ўсяго насельніцтва займалася вытворчаю працаю, астатнія-ж 2/3 складаліся з беднаты і людзей, якія займаліся пасярэдніцкай справай.

Пасьля Кастрычнікавай Рэвалюцыі становішча зьмянілася. Дзяржава і каапэрацыя ўзялі гандаль у свае рукі, і значная частка гандляроў павінна была павялічыць сабой і бяз таго вялікую колькасьць беднаты і людзей без прафэсіі. Гады-ж грамадзянскай вайны не палепшылі становішча. Яны прынесьлі з сабой няшчасьце для ўсіх, а для яўрэяў яшчэ больш. Бандытызм і пагромы, арганізаваныя рознымі контррэвалюцыйнымі бандамі ў першую чаргу падалі на местачковае яўрэйскае насельніцтва.

Вось пры якім становішчы Савецкай уладзе прышлося вырашаць практычна пытаньне аб эканамічным роўнапраўі яўрэйскай беднаты, якая цярпела да рэвалюцыі падвойны ўціск: сацыяльны і нацыянальны.

Як Камуністычная партыя і Савецкая ўлада справіліся з вырашэньнем гэтага пытаньня, яскрава гавораць лічбы сацыяльнага складу яўрэйскага насельніцтва Беларусі па матар'ялах перапісу 1926 г.:

| Сялян | Рабочых | Саматужнікаў | Служачых | Войск. служ. | Свабодн. прафэсіі | Гандляроў | Беспрацоўн. | Іншых |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 13,1 | 16,7 | 26,4 | 17,0 | 1,1 | 0,7 | 10,2 | 7,0 | 7,8 |

Можна заўважыць, што цяпер занята ў вытворчай працы 3/4 яўрэйскага насельніцтва, супроць 1/3 даваеннага. Лік земляробаў яўрэяў павялічыўся з 3 проц. да 13,1 проц. Таксама мы бачым з гэтых лічбаў, што прыблізна 1/4 яўрэйскага насельніцтва ня мае эканамічнага грунту, таму перавод іх да прадукцыйнай працы зьяўляецца справай бліжэйшых гадоў. Шляхамі пераводу яўрэйскага насельніцтва да прадукцыйнай працы зьяўляюцца: уцягваньне значнай часткі яго ў прамысловасьць, землянадзяленьне ў межах БССР і перасяленьне.

Застановімся больш падрабязна на апошніх спосабах вырашэньня пытаньня.

*Колькасьць яўрэйскага земляробства і мэтады працы.* Да часу Кастрычнікавай рэвалюцыі мелася на тэрыторыі сучаснай Беларусі (апрача Гомельшчыны) 1882 сям'і, з 10.289 едакамі. Займалі яны плошчу ў 11.300 гэктараў зямлі. Гэтыя гаспадаркі знаходзіліся часткова ў некалькіх стара-даўніх яўрэйскіх калёніях, а часткова былі параскіданы па ўсёй Беларусі.

За час пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі да 1924 г. надзелена зямлёю ў агульным парадку 3.935 сямействаў, з 21.955 душ, на плошчы 18.350 гэкт. Далейшая праца па пераводу яўрэяў на земляробства сустрэлася з такой асаблівасьцю яўрэйскага насельніцтва: справа ў тым, што па нашых зямельных законах надзяляюцца зямлёй, у пер-



Прыборка канюшыны ў яўрэйскай с.-г. арцелі „Спартак" Магілеўскай акругі, Шклоўскага раёну.

шую чаргу, тыя, хто займаўся земляробствам да рэвалюцыі. Па азначаных вышэй умовах яўрэі да гэтай катэгорыі не падыходзілі, і таму маглі атрымліваць зямлю толькі ў другую чаргу. Дэкрэт ЦВК аб утварэньні камісіі па земляўпарадкаваньню працоўных яўрэяў (Комзет), выданы ў 1924 годзе, зьявіўся тым выключэньнем з зямельнага кодэксу, дзякуючы якому яўрэйскае земляробства значна пашырылася. У выніку працы Комзету, пры дапамозе органаў улады на мясцох і грамадзкіх організацый ОЗЕТ і ОРТ (якія працуюць на Беларусі да апошняга часу), са дню арганізацыі Комзету ўпарадкавана яшчэ 2.839 сям'і, з 13.429 едакамі, на плошчы 28.492 гэктараў.

Такім чынам, разам з прылічанымі 445 сям'ямі з Гомельшчыны, мы маем на Беларусі ў сучасны момант земляробаў яўрэяў: 9.101 сям'ю, з 48.225 едакамі, паселеную на плошчы 62.198 гэкт. Апрача таго, перасялена ў Крым 1.914 сям'яў і ў Біро-Біджан 180 сям'яў і 60 адзіночак.

## Арганізацыйныя формы яўрэйскага земляробства.

З ліку новых арганізаваных гаспадарак, 2.255 сем'яў з 10.346 едакамі вядуць сваю гаспадарку агульна арганізавана ў 253 калгасах, на плошчы 25.505 гэктараў зямлі. Гэта складае 40,5 проц. ад плошчы ўсяго яўрэйскага землякарыстаньня, альбо 50 проц. ад плошчы надзеленай пасьля рэвалюцыі. Астатняя плошча з'арганізавана часткова ў пасёлкі, а часткова распылена па вёсках і мястэчках.

## Становішча яўрэйскіх калгасаў.

Правільны соцыялістычны шлях пабудовы буйных гаспадарак, разам з асаблівасьцямі новых гаспадароў, у якіх адсутнічае стары звычай (які маецца ў суседзяў-сялян), за кароткі час даў магчымасьць яўрэям-гаспадаром перамагчы ўсе цяжкасьці новай справы, і паказаў іх гаспадарчую жыцьцёвасьць.

Адсутнасьць тэхнічных навыкаў у нова-арганізаваных сялян прымушае іх больш уважліва прыслухоўвацца да парад аграномаў, дзякуючы чаму гэтыя гаспадаркі больш правільна арганізованы, атрымліваюць лепшы ўраджай і лепшы прыбытак. Для гэтага даволі адзначыць, як арганізавана палявая гаспадарка. Плошча пасеваў падзяляецца так:

| Азімых. | Яравых. | Бульбы. | Лубіну. | Сеяных траў. | Лёну. | Караньплодаў. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 26,91% | 29,1% | 14.9% | 3,48% | 24,73% | 0,37% | 0,61% |

Відавочна на колькі гэты пасеў адрозьніваецца ад сялянскіх гаспадарак, дзе існавала звычайная трохпалёўка.

Цікава адзначыць, што паказчык замацаваньня новых абагуленых гаспадарак—паявы ўзнос, які быў у час арганізацыі іх (у сярэднім) 170 руб., за 3 гады гаспадараньня павялічыўся ў 3 разы.

Апрача 42 маслaдзельняў і 15 сыраварань, у калгасах маецца 37 прадпрыемстваў падсобнага характару (млыны, крухмальныя заводы, алейныя заводы і інш.).

Разам з замацаваньнем гаспадарак узрос і аўторытэт яўрэяў земляробаў сярод ваколічных сялян. Недаверлівыя адносіны да яўрэяў, якія спачатку існавалі сярод сялян, цяпер ня маюць месца. Даволі часта бываюць выпадкі, калі насельніцтва прыходзіць у калгас за дапамогай і парадай.

Далейшыя пэрспэктывы ў справе пераводу яўрэйскага насельніцтва да земляробства намячаюцца ў наступных мерапрыемствах: гаспадарчае ўпарадкаваньне мястэчка, перасяленьне за межы БССР і ўпарадкаваньне на балотных і лядвеных (месцы з-пад расчышчанага лесу) землях. У справе скарыстаньня балота маецца ўжо вопыт,—гэта Старобінскае мэліарацыйнае т-ва, якое дало станоўчы вынік і паказала, што яўрэі здольны скарыстаць нашы багацьці—нашы балоты.

(Менск, Н. Д. Інстытут). **І. Бяркоўскі.**

---

# Аб забясьпечанасьці насельніцтва БССР с.-г. літаратурай.

Улічваючы тую вялікую ролю, якую адыгрывае сельска-гаспадарчы друк у справе пашырэньня агранамічных ведаў сярод насельніцтва, улада, зараз-жа пасьля эканамічнага ўзмацненьня краіны, прыняла некаторыя меры для забясьпечаньня сялянства папулярнай сельска-гаспадарчай літаратурай. Спачатку гэта праца выконвалася выключна Наркамземам, а ў далейшым, паступова пачало выдаваць с.-г. кніжкі і Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.

Паўстае пытаньне, ці ня можна было задаволіць сялянства толькі той сельска-гаспадарчай літаратурай, якую выдаюць у значным ліку «Госиздат» у Маскве і іншыя выдавецтвы Саюзу? Аказваецца што немажліва. Беларуская ССР мае такія значныя адрозьніваньні, як прыродных умоў глебы, клімату і інш., так і эканамічных, што шэраг, нават, самых папулярных брашур, якія там выдаюцца, ня можа даць чытачу пэўнага адказу на цікавячае яго пытаньне. Для прыкладу возьмем такое зьявішча. У гэтым годзе Дзяржвыдавецтва парашыла перавыдаць шэраг папулярных расейскіх брашур, пераклаўшы іх на беларускую мову. З вызначаных толькі частка брашур падыходзіла для выданьня

на беларускай мове без сталай перапрацоўкі, з невялікімі зьменамі і папраўкамі, рэшта-ж патрабавала або сталай перапрацоўкі, або і зусім не падыходзіла для перавыданьня. Сялянская кніжка, акрамя папулярнага выкладаньня, зразумелага для мала прызвычаенага, пакуль што, да карыстаньня кніжкай, селяніна, павінна адбіваць раённасьць краіны, кіравацца напрамкам разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў ёй. Акрамя таго, яна павінна быць і на мясцовай, роднай мове, каб розныя тэхнічныя назвы былі зразумелымі.

Дзяржаўнае Выдавецтва да гэтага году выпускала штогодна каля 10—15 брашур, тыражом ад 3 да 10 тысяч кожная. У гэтым годзе ім выдана значна больш лік такіх кніжак, а на наступны вызначана для надрукаваньня (ўжо згоднена з аўтарамі, зроблены з імі ўмовы) 150 друкаваных аркушаў, што пры памеры брошуры ў 1—2 друк. аркушы, складае лік каля 85—90 экзэмпляраў.

Наркамземам да гэтага часу выдана, улічваючы сюды і папулярную сельска-гаспадарчую часопісь «Плуг», агульным лікам 485 друкаваных аркушаў, тыражом 311.200 паасобнікаў. (Сюды ня ўлічаны выданьні розных дасьледчых прац Упраўмэліозема і лясного аддзелу).

Забясьпечаны з 1927 г. і спэцыялістыя па сельскай і лясной гаспадарцы сваей мясцовай часопісьсю пад назвай «Сельская і Лясная Гаспадарка», якая выдаецца сумесна Навукова-Дасьледчым Інстытутам імя У. І. Леніна, Наркамземам і Саюзам С-г. і Лясных рабочых Беларусі. Увесь мясцовы досьлед, які выконваецца на дасьледчых станцыях Беларусі, усе новыя способы с.-г. тэхнікі, эканомікі і арганізацыйныя формы будаўніцтва, вышуканыя імі і паасобнымі спэцыялістамі, зараз ня вылежваюцца ў спратах гадамі, а скора будучы надрукаваны ў гэтай часопісі, становяцца вядомымі кожнаму, хто гэтым цікавіцца.

Пашырэньне с.-г. літаратуры Наркамземам выконвалася ў першыя гады выключна дарэмна, шляхам разьмеркаваньня праз зямельныя органы і зямельных працаўнікоў на мясцох. Способ дарэмнага распаўсюджваньня мае месца і да гэтага часу, бо нельга-ж адмовіць, напрыклад, у просьбе выслаць кніжак нова-арганізаванаму с.-г. гуртку, або бедняку-селяніну, якія імкнуцца набыць с.-г. веды праз друк. Пашыраецца Наркамземам таксама дарэмна значны лік с.-г. літаратуры па пытаньнях масавай прапановы мерапрыемств, з якімі неабходна хутчэй азнёміць большы лік сялян. Для відавочнасьці прыводжу лічбы пашырэньня с.-г. кніжкі НКЗБ за апошнія гады. За 9 месяцаў 1926-27 году (тэрмін, за які маюцца лічбы) было распаўсюджана дарэмна і за плату 22796 экзэмпляраў, а за 12 месяцаў 1927-28 году больш 57 тысяч. экз. (сюды ня ўлічана часопісь «Сельская і Лясная Гаспадарка», а таксама пэрспэктыўны плян і справаздача НКЗ, якія таксама пашыраліся дарэмна).

Але ці здаволена сялянства належным лікам кніжак. Відавочна, што не. У нас маецца каля 50 тысяч гаспадарак. Цяпер можна лічыць, што ў кожнай гаспадарцы ёсьць адзін пісьменны; і вось, калі-б хоць 25 проц., гэтых гаспадарак карысталіся с-г. кніжкай, дык выданьні не абмяжоўваліся тыражом у 3000 паасобнікаў.

Невялікі тыраж выданьняў сьведчыць аб незабясьпечанасьці сялянства кніжкай. Не забясьпечаны імі і аб'яднаньні, с.-г. установы і інш., праца якіх непасрэдна праходзіць у гаспадарцы. Лічба асоб і ўстаноў, для якіх часопісь «Плуг» павінна быць дараднікам альбо для непасрэднага карыстаньня зьмяшчаемых там парад і прапаноў, для палепшаньня свае гаспадаркі (с-г. таварыствы, сяляне-дасьледчыкі) альбо для кіраваньня праз яе тэхнікай сялян (аграномы), альбо навучаньня

поруч з выхаваньнем і навучаньнем пісьменству (школы 4-х годкі, вясковыя сямігодкі) гэта лічба больш значная, больш 8600.

Ці Добрыя-ж кніжкі выдаюцца, а таксама часопісі, можа яны не здавальняючы па зьместу і не зразумелы для сялянства? Ужо з аднаго таго, што іх выдаецца мала, можна ўявіць, што друкуецца самае лепшае. У першыя гады для пашырэньня мела значаньне мова: часта можна было пачуць аб цяжкасьці карыстаньня ёю. Бо як ня былі адукаваны сяляне, усё-ж яны атрымалі гэту адукацыю ў расейскіх школах. Гэта было прычынай для малага карыстаньня кніжкай і спэцыялістымі. Але гэта было ў першыя гады. Тады, за малым выняткам, і ўсе допісы дасылаліся на расейскай мове. А цяпер, калі ўзяць для прыкладу часопісь «Плуг», дык іх бывае ня больш 10 проц. Аб гэтым сьведчыць і анкетнае пытаньне ў бягучым годзе сваіх падпісчыкаў і чытачоў часопісьсю «Плуг». Ніводнага адказу няма з скаргаю незразумеласьці мовы, на цяжкасьць карыстаньня ёю. Тое-ж самае адказваецца і аб зьмесьце часопісі, за выняткам якой-небудзь адной дзьвёх заўваг на такі-ж лік артыкулаў. Пры гэтым, звычайна, кожны спэцыялісты робіць заўвагу аб пашырэньні галіны сельскай гаспадаркі, якая адносіцца да яго спэцыяльнасьці, а селянін цікавячага яго аддзелу. Толькі ў адным пытаньні супадаюць заўвагі большасьці падпісчыкаў, гэта аб пераводзе часопісі на дзьвёх тыднёвую, замест сучаснае месячнае. Гэта сьведчыць аб пашырэньні запатрабаваньняў на с.-г. літаратуру з боку сялян, якія пачалі карыстацца с.-г. парадамі праз друк.

Паўстае галоўнае пытаньне, якое патрабуе неадкладнага вырашэньня, пашырэньня с-г. літаратуры сярод сялян. Трэба сказаць, што да гэтага часу ня толькі грамадзкасьць, але і блізка стаячыя да мас. працуючыя ў напрамку перабудовы сельскай гаспадаркі органы і працаўнікі, мала, а то і зусім не зьвярталі ўвагі на кніжку, як на штурхача па шляху с-г. культуры. Аб гэтым сьведчаць лісты, якія прысылаюць у рэдакцыю сяляне. «Выпадкова пішуць яны—пазнаёміліся з часопісьсю «Плуг» і пачалі па яе парадках паляпшаць гаспадарку». Чаму-ж выпадкова, чаму аграномы і зямельныя працаўнікі ня зьнішчаць гэту выпадковасьць? Гэта-ж іх абавязак. Рэдакцыя з свайго боку робіць усё, што можна, на колькі дазваляе матар'яльнае становішча часопісі.

Цана кніжак таксама мае значэньне ў адносінах большага іх пашырэньня. Сялянская кніжка павінна быць дзяшовай, чаго пакуль што сказаць нельга. Тут мае значэньне, па-першае, колькасьць выданай кніжкі, тыраж яе. Бо калі сабекошт кніжкі ў 1 аркуш пры выданьні 1.000 паасобнікаў складае 15 кап., дык пры тыражы ў 10.000 яна каштавала-б толькі 3—3½ кап. Па-другое, значна падаражаюць кніжку накладныя выдаткі. Было-б мэтазгодным замест існуючай набаўкі па гандлю кніжкамі да 45 проц., там, дзе кніжкі не зьяўляюцца асноўным гандлем, панізіць да 10—15 проц. Разам са зьмяншэньнем накладных выдаткаў па надрукаваньню, гэта значна падзешавіла-б сялянскую кніжку. Паліца з кніжкамі для прадажы павінна быць у кожным вясковым каапэратыве, на што павінна быць зьвернута належная ўвага гэтай арганізацыі. І вось, калі фінансавыя органы, гандлёвыя арганізацыі, выдавецтвы і абслугоўваючая вёску грамадзкасьць прыхільна возьмецца за палепшаньне забясьпечаньня кніжкай сялянства, тады і хутчэй будзе перабудоўвацца сельская гаспадарка ў соцыялістычным напрамку.

**Саф. Хоміч.**

# Жывёлагадоўля



## Малочная справа ў Заслаўскім раёне.

За апошнія гады шпарка разьвіваецца малочная каапэрацыя ў Заслаўскім раёне. Да сёняшняга дню ў раёне ёсьць 8 малочных арцеляй і шэраг зьлівачных пунктаў да іх, якія даюць магчымасьць амаль кожнай вёсцы ў раёне збываць малако. Толькі Сёмкава-Гарадзецкі і Гатовінскі с.-с. не ахоплены імі, але ў гэтую зіму мяркуецца арганізаваць і тут малочную арцель. За 1928 г. арганізавана 3 арцелі. Разам з ростам арцеляй, наглядаецца значны рост пайшчыкаў, што відаць з наступных лічбаў:

| Назва арцеляй | Лік пайшчыкаў на 1 кастрычніка 1927 г. | Лік пайшчыкаў на 1 кастрычніка 1928 г. | Павялічэньне пайшчыкаў за год | Грашовы зварот арцелі ў руб. |
|---|---|---|---|---|
| 1. Недраская . . . . | — | 115 | 115 | 7793.96 |
| 2. Рагачоўская . . . . | — | 133 | 133 | 6954 |
| 3. Гараньская . . . . | — | 138 | 138 | 5060 |
| 4. Чачкаўская . . . . | 69 | 113 | 51 | 18353,50 |
| 5. Малашкаўская . . . . | 24 | 141 | 117 | 22091,40 |
| 6. Хацежынская . . . . | 69 | 197 | 128 | 9633,04 |
| 7. Пціцкая . . . . . | 32 | 205 | 173 | 14483,36 |
| 8. Гуцкая . . . . . | 36 | 278 | 232 | 14500 |
| Усяго па раёну . | 223 | 1320 | 1097 | 98869,26 |

Паступова з ростам арцеляй мяняецца і сацыяльны склад сяброў іх. Калі ў мінулым 1927 г. большасьць сяброў былі 2-х, 3-х кароўнікі і больш, дык у 1928 г. большы процант аднакароўнікаў. Ёсьць і гэткія зьявішчы, што з уступленьнем у арцелі сяляне-беднякі праз год здабываюць другую карову.

Якую-ж карысьць маюць сяляне ад малочнай арцелі. Гэта можна бачыць з лічбаў аб зваротах арцелі за 1928 г., якія зьмешчаны вышэй. Аб чым яны гавораць? А аб тым, што сяляне, якія насілі малако, напрыклад, у Малашкоўскую арцель, за год атрымалі 22 091 руб. 40 к. Гэтыя грошы пашлі ў сялянскія гаспадаркі, якія, бязумоўна, падымуцца. А калі-б ня было арцелі, ня было-б гэтых грошай.

Малочныя арцелі маюць уплыў на жывёлагадоўлю і палявую гаспадарку. Пры арцелях існуюць добрыя быкі, нават кныры. Сяляне старающца набыць лепшае цялё ад малочнай каровы, каб выгадаваць з яго добрую карову, пры гэтым імкнуцца правільна даглядаць яго.

Малочныя арцелі прымусілі селяніна набываць больш кармоў і перабудоўваць сваю гаспадарку ў лепшы бок. За апошні год значна павялічыўся пасеў траў, кораньплодаў, палепшыўся гной, а гэта ў сваю чаргу, будзе паляпшаць якасьць глебы і падымаць ураджайнасьць зернявых культур. Астача ад апрацоўкі малака—здыманае малако і сыроватка разьбіраецца сялянамі для адкорму сьвіней.

Арцелі, у якіх добра вядзецца праца, маюць чысты прыбытак, напр., Рагачоўская за 7 м-цаў працы—354 руб., Гутская за 1½ года—510 р. Акрамя таго набываецца маемасьць—будынкі, малочныя прылады і інш. Амаль уся прадукцыя арцеляй—масла і сыры збываецца ў Белсельсаюз. Арцелі дапамагаюць зьнішчэньню прыватнага гандлю. Так, напрыклад, 5 арцеляй мінулым летам адчынілі ў дачнай мясцовасьці „Ратамка“ каапэрацыйны ларок, праз які забясьпечылі дачнікаў малочнымі прадуктамі па даступных цэнах і зусім выцясьнілі прыватны продаж.

Зразумела, што малочная арцель—справа карысная, таму кожны селянін павінен імкнуцца да яе і дапамагаць аграномам свайго раёну з‘арганізаваць яе ў сваёй мясцовасьці, бо толькі надаўшы жывёлаводны ўхіл нашым гаспадаркам, мы зможам хутчэй выйсьці на шлях да палепшаньня гаспадаркі.

Аграном **М. Савіч.**

(Заслаўе, Менскай акр.).

---

# Разьвіцьцё Бяркоўскай малочнай арцелі, Глускага раёну.

Гэта арцель пачала сваю працу з траўня 1927 г. Арганізована яна пад уплывам раённай агранаміі і некаторых перадавых сялян вёскі Бяркова. У арцелі на кастрычнік 1928 г. было 90 сяброў, з лікам 218 кароў. У ліпені м-цы 1928 г. ўсе сяляне вёскі Бяркова, пас. Пабеда, пас. Дзяржынскага і вёскі Парэчча былі пайшчыкамі арцелі.

Зварот тавару за 4 месяцы 1927 г. і за 8 месяцаў 1928 г.

| | Паступіла малака клгр. | На суму руб. | Выпрацавана масла клгр. | У пудох | На суму руб. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1927 г. . . . | 37015 | 2539 | 1631 | 1050,27 | 3006 |
| 1928 г. . . . | 121099 | 9882 | 5668 | 354,8 | 10952 |

91% ад усяго масла было прадана Сельсаюзу, а 9%—сябром арцелі. Сярэдняя цана за 1 клгр. масла 1 р. 90 к. Толькі за 8 месяцаў 1928 г. кожны пайшчык атрымаў, у сярэднім, 120 р. 17 к. за масла, а ад каровы, у сярэднім, 50 р. Апрача таго, кожнаму гаспадару зьвяртаецца здыманае малако.

Арцель купіла за наліччны рахунак ад прыбытку: 3 сепаратары, маслабойку, маслааджымалку, цабры, цэнтрафугу (прылада для выяўленьня тлустасьці малака) і г. д.--на суму 1.157 руб.

Трэба адзначыць, што да арганізацыі малочнай арцелі, жывёла знаходзілася ў звычайных сялянскіх умовах. У сучасны-ж момант

уцеплены хлявы, летам каровы падкармліваюцца: даецца макуха і высеўкі. За 1928 г. скарыстана пайшчыкамі 1.119 клгр. макухі і 3.200 клгр. высевак. Сябры арцелі пачалі ўжываць пасеў буракоў і траў.

Бяркоўская малочная арцель дала прыклад сялянству Глускага раёну ў арганізацыі малочных арцеляй. У 1928 г. былі арганізаваны яшчэ 5 малочных арцеляй: Глуская, Казловіцкая, Выніцкая, Латыская, Касарыцкая, якія маюць 391 пайшчыка і выпрацавалі 8.887 клгр. масла, на суму 16.495 руб.

На 1929 г. намечана да арганізацыі яшчэ 5 малочных арцеляй і арганізаваньне ў старых арцелях 6 злучных пунктаў. Пайшчыкі і навакольнае насельніцтва ўпэўніліся, што карова можа быць ня толькі для гною, але і карміць гаспадароў.

Агран. Шульман.

# Вэтэрынарная дапамога на Беларусі.

Дзесяцігодзьдзе агалашэньня Савецкай Беларусі супадае з буйным размахам будаўніцтва па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Адным з фактараў, дапамагаючых пасьпяховай рацыяналізацыі сельскай гаспадаркі, якая ў Беларусі бярэ напрамак на разьвіцьцё жывёлаводзтва, зьяўляецца дастатковая ахова здароўя с.-г. жывёлы.

Задача па ўздыму таварнасьці сельскай гаспадаркі, па пашырэньню магчымага экспорту жывёлаводзтва, па забясьпечаньню жывёлавай сыравінай прамысловасьці — усе гэтыя задачы ня будуць выкананы ў належнай ступені без аздараўленьня вэтэрынарна-санітарнага становішча нашай рэспублікі. Пагэтаму савецкая грамадзкасьць павінна сачыць за разьвіцьцём вэтэрынарнай справы, каб дапамагчы зямельным органам яе пашырыць.

Для таго, каб мець уяўленьне аб сучасным стане вэтэрынарнай справы, мы застановімся на некаторых галоўных момантах, якія характарызуюць гэты стан. Першым чынам трэба застанавіцца на колькасьці вэтэрынарна-доктарскіх вучасткаў, якія зьяўляюцца грунтоўнаю арганізацыйнаю вэтэрынарнаю адзінкаю, практычна, сярод насельніцтва, выконваючай усе віды вэтэрынарнай працы: аказваюць лекавую дапамогу, змагаюцца з эпізоотыямі, праводзяць вэтасьветную працу, вытвараюць догляд на рэзьнях і інш. Па гадох мы маем наступны лік вэтдоктарскіх вучасткаў па Рэспубліцы: 1912 г.—39 вуч., 1925-26 г.—103, 1926-27—114, 1927-28 г. 120, 1928-29—128.

Другім паказальнікам становішча вэтсправы зьяўляецца забясьпечаньне вучасткаў лекавымі ўстановамі; у гэтым напрамку маюцца значныя дасягненьні ў параўнаньні з дарэвалюцыйным часам; так, напрыклад, у Магілеўскай акрузе пабудавана новых вэтбольніц 8, у дарэвалюцыйны час ня было ніводнай больніцы; у Бабруйскай акрузе пабудавана таксама 8, было 2, у Гомельскай акрузе пабудавана 6, раней ня было ніводнай; у Менскай акрузе пабудавана 10, было 2, у Мазырскай—3, а ня было ніводнай.

З пабудоваю вэтбольніц зьвязана лекава-прафіляктычная праца па ўчыненьню лекавай дапамогі хворай жывёле і па правядзенью прафіляктычных мерапрыемстваў, папярэджваючых узьнікнені не хвароб; вэтбольніцу можна параўнаць з дыспансэрам, дзе выяўляюцца заразьлівыя хваробы жывёлы і ў адпаведным выпадку застаўляюцца ў спэцыяльным аддзяленьні больніцы для далейшых дасьледваньняў; з другога боку вэтдоктар, грунтуючыся на працы вэтбольніцы, трымае шчыльную сувязь з залюднёнымі пунктамі свайго вучастку, вывуча-

ючы яго вэтсанітарнае становішча, каб зьнішчыць заўважаныя недахопы як у санітарных адносінах, так і ў зоогігіенічных.

Штогодны ўзрост колькасьці жывёлы, якой учыняецца лекавая дапамога, сьведчыць аб папулярнасьці сярод сялян гэтага віду вэтэрынарнай працы. Так у 1924/25 г. вэтлекавая дапамога была ўчынена ў 231.767 выпадках, у 1925/26—347.524 вып., у 26/27—637341 выпадках, у 1928/29, па няпоўных зьвестках, у 720.000 выпадках. Па параўнаньню з дарэвалюцыйным часам вэтлекавая дапамога павялічылася прыблізна ў 6 разоў.



Новая вэтэрынарная больніца ў Калінкавічах.

Для большага посьпеху ў працы вучастковага вэтдоктара неабходна, каб селянін карыстаўся дасягненьнямі навукі, з гэтай мэтай зварачваецца асаблівая ўвага на Вэтэрынарна-Бактэрыолёгічны Інстытут, які акрамя вытворчасьці прышчэпных матар'ялаў, праводзіць і навукова-дасьледчую працу. Галоўным чынам навуковая дасьледчая праца вядзецца ў напрамку вывучэньня прычын узьнікненьня заразьлівых і пошасных хвароб і мэтадаў барацьбы з імі.

Каб даць магчымасьць больш шпарка разгарнуць навукова-дасьледчай працы Інстытуту, гэты Інстытут у дзень агалашэньня дзесяцігодзьдзя Савецкай Беларусі перайменоўваецца ў Навукова-Дасьледчы Эпізоотолёгічны Інстытут.

Вытворчасьць біолёгічных (прышчэпных) прапаратаў штогодна павялічваецца: у 1925/26 годзе было выторана 1.113 літраў, а ў 1926/27 ужо 2.092 літры. У сувязі з павялічэньнем біопрапаратаў (прышчэпных прапаратаў) павялічваецца і лік прышчэпленай жывёлы: у 1925/26 годзе супроць розных хвароб было прышчэплена 87.552 галавы ўсіх відаў жывёлы, а 1926/27—157.982 галавы.

Фінансавая база вэтсправы таксама штогодна ўзрастае: на адзінку буйнай жывёлы ў 1924/25 г. прыходзілася 7,6 кап., у 1925/26—17,5, 1926/27 г.—20,6 кап. У 1913 г. было толькі 8,7 кап.

Такім чынам з кожным годам вэтдапамога ўсё больш наблiжаецца да насельніцтва і дапамагае пасьпяховаму разьвіцьцю сельскай гаспадаркі.

**С. Серпаў.**

# Вэтэрынарная дапамога ў Койданаўскім раёне.

Да 1922-23 году ў раёне вэтдапамогі амаль ня было. Сялянства ў гэтай справе карысталася толькі дапамогай вясковых канавалаў, шаптуноў і інш.

Быў у той час адзін вэтфэльчар, але ён ня меў нават памяшканьня для агляду хворай жывёлы. Агляд рабіўся большаю часткаю каля яго кватэры. Вэтэрынарнага інструманту таксама ня было. Наогул рэдка хто з сялян ведаў аб вэтдапамозе.



Штучнае апладненьне пры Койданаўскім вэтпункце.

У сучасны момант у раёне пабудована новае памяшканьне пад вэтпункт і пры ім стацыянарнае аддзяленьне, прасторны сьветлы манеж. Вэтпэрсонал цяпер складаецца з урача і 2-х вэтфэльчароў. Маецца добра абсталяваны габінэт, упаўне забясьпечаны неабходнымі інструмэнтамі і лякарствамі.

Пры вэтпункце маецца жарабец—„Арлоўскі рысак“, ад якога ў гэтым годзе штучна аплоднена да 200 матак[1]).

Наколькі павысілася зацікаўленасьць сялянства да вэтэрынарнай дапамогі, пакажуць лічбы, колькі жывёлы прайшло праз вэтпунтк: у 1926 г.—1500 галоў, у 1927 г.—6997, у 1928 г.—9.257.

У гэтым годзе праведзен агляд 10.039 коняй па выяўленьню хворых на сап.

Калі яшчэ да мінулага году лягчаньне жарабкоў было ў руках канавалаў, дык у гэтым годзе прайшло праз вэтпункт да 300 жарабкоў.

---

[1]) Як відаць, штучнае апладненьне дае магчымасьць мець значна большы прыплод ад аднаго жарабца. Пры добрым тэхнічным выкананьні, процант жаробных кабыл бывае ня менш 80. Сёлета ў Койданоўскім раёне ад аднаго жарабца павінна быць вясною каля 160—180 жарабят. Пры звычайнай-жа злучцы адным жарабком можна апладніць толькі ад 30 да 40 матак, гэта лічыцца нармальна (канечна, гэта залежыць ад узросту жарабка і яго здольнасьці) і ўжо ад сілы 50 штук за сэзон. *Рэд.*

З мэтай дапамогі хворай жывёле ў апошні год было 627 выездаў.

Найбольш распаўсюджанымі хваробамі ў раёне зьяўляецца рожа сьвіней, яшчур і сібірская язва.

Меры барацьбы з гэтымі хваробамі вэтпункт праводзіў шляхам прывівак. За год зроблена 4.987 прывівак. Апрача прац у вэтлячэбніцы, вэтпэрсаналам вядзецца культурна асьветная праца па вэтэрынарнай дапамозе на вёсцы: сярод насельніцтва чытаюцца лекцыі, вядуцца гутаркі і г. д.

Вядзецца таксама сталая праца па страхаваньню жывёлы ад няшчасных выпадкаў.

Пашырэньне вэтдапамогі на вёсцы патрабуе большага водпуску сродкаў на лякарствы, на будучы год хоць-бы на 30 проц.

Трэба павялічыць сродкі на разьезды, бо на іх мала адпускаецца.

Дзякуючы добра падабранаму вэтэрынарнаму складу, наш вэтпункт заваявау належны аўтарытэт сярод насельніцтва, якое раз назаўсёды парвала сувязь з вясковымі шаптунамі.

**В. Сарока.**

(м. Койданава).

---

# Паштовая скрынка.

Я. Пастран. Артыкул «Як скарыстаць зімовы час у калгасах» Г. Кузін—«Ашчаднае ўражаньне штучнага ўгнаеньня», Трапашка—«Практыка з бульбай і пшаніцаю» і «Практыка з угнаеньнем»; А. Карнейчык—«Досьлед з канюшынаю»; Т. Краўцову—«Досьлед сортаспрабаваньня»; А. Дымкоў—«Шлях разьвіцьця сельскай гаспадаркі», А. Карпаў—1) «Уплыў штучнага ўгнаеньня на ўраджай «аўса» і «бульбы»; Я. Судак—«Аб усім па трохі»; А. Акшэўскі—«як прымусіў сад даваць яблыкі» і інш; Я. Мароз—«Бульба Діодора», артыкулы атрыманы, будуць паступова зьмяшчацца. Артыкулы дасьледчых ст. і іншых устаноў, надасленыя для гэтага нумара са зьместам да 10-годзьдзя незалежнай БССР, ня зьмешчаны таму, што позна дасланы.




## Разьвіцьцё тэхнічнай перапрацоўкі садавіны і гародніны ў савгасах БССР.

*(За пэрыяд дзесяцігодзьдзя).*

Пачатак разьвіцьця тэхнічнай перапрацоўкі садавіны, у шырокіх разьмерах, у БССР быў паложан Белсельтрэстам у 1925 годзе, калі ў саўгасе Забалацьце, Аршанскай акругі, арганізованы вінаробчы пункт магутнасьцю 1.000 вёдзер віна за сэзон.

У 1926 г. ў гэтым-жа саўгасе была пабудована магутная агнявая сушыльня, вытворчасьцю 100 пуд. сыравіны—яблык у суткі і арганізованы ўварачны пункт. Урэшце, у гэтым, 1928 г., Белсельтрэстам



Агульны выгляд школы сеянцаў на беларускай станцыі Ўсесаюзнага Інстытуту Прыкладной Ботанікі.

арганізаваны і пушчаны ў рух 2 вінаробчых заводы: адзін у саўгасе Грудзінаўка, Магілеўскай акр., магутнасьцю 4.000 вёдзер віна за сэзон, другі ў саўгасе Жылічы, Бабруйскай акругі, магутнасьцю 2.000 вёдзер віна за сэзон; апрача гэтага, смантыраваны магутны вакуум—сушыльны завод у саўгасе Забалацьце, Аршанскай акругі. На жаль, у бягучым годзе гэтую сушыльню, у зьвязку з неўраджаем на садавіну нельга забясьпечыць сыравінай і праца па сушцы ў ім, у шырокіх разьмерах будзе распачата ў 1929 г.

Асноўным тормазам да разьвіцьця пладова-ягаднага вінаробства зьяўляецца адсутнасьць спэцыялістых. Белсельтрэст ледзь у бягучым годзе знайшоў вінаробаў. У нас, у СССР пакуль што больш-менш сур'ёзна вінаробчая справа пастаўлена ў Уманскім с.-г. Палітэхнікуме, які, зразумела, ня мае магчымасьці здаволіць усе заводы вінаробамі, запатрабаваньні на якіх, у сувязі з шырокім разьвіцьцём вінаробства на Украіне і Беларусі, усё павялічваюцца.

Нашым навучальным установам, Горацкай с.-г. Акадэміі і Марына-Горскаму Садова-гароднаму Тэхнікуму, неабходна зьвярнуць належную ўвагу на справу выпуску спэцыялістых па тэхнічнай перапрацоўцы садавіны.

За апошні час шмат арганізацый намячаюць пабудову заводаў вінаробчых і сушыльна-варачых, аб чым шмат разоў пісалася на старонках „Зьвязды“ і „Савецкай Беларусі“, але ўсе гэтыя пачынаньні застаюцца, пакуль што, на паперы, з прычыны таго, што справа гэта новая і патрабуе асьцярожнага падыходу. Трэба ведаць і як праэктаваць.

Паколькі нам вядома, у цяперашні час праэктуецца Харчтрэстам вельмі магутны сушыльна-варачны і вінаробчы пункт у гор. Гомелі. Тут асабліва трэба быць асьцярожным у адносінах правільнага азначэньня магутнасьці сыравіннай падставы, вырабу сушыльні і інш., у адваротным выпадку мы апрача страт, мець нічога ня будзем.

Практыка сушыльна-варачых і вінаробчых пунктаў саўгасаў Бельсельтрэсту паказала нам, што ў першую чаргу неабходна зьвярнуць належную ўвагу на пладовае вінаробства, як больш рэнтабельнае (прыбытковае), але калі мы будзем разьвіваць толькі вінаробства, дык гэта будзе няправільна, бо галоўная мэта арганізацыі пладовых заводаў, гэта перапрацоўка садавіны-брака ў магчыма вялікай колькасьці, якая асабліва ва ўраджайныя гады ў сьвежым відзе прадаецца за бясцэнак. А зразумела, што на вінаробчых пунктах мы шмат сыравіны не перапрацуем, маючы на ўвазе, што для атрыманьня вядра віна патрэбна каля 1 п. 20 ф. яблык, тады як для атрыманьня 10—12 пуд. сухіх яблык патрабуецца 100 пуд. сыравіны. Такім чынам, мы павінны арганізоўваць заводы-камбінаты, выпушчаючы віно, сухую садавіну і інш.

У бягучы час маецца вялікі попыт на сухія яблыкі з боку нашых унутраных, а таксама і замежных рынкаў, але на жаль вельмі невялікі попыт на сухую гародніну за выключэньнем цыкорыя, пад які ў саўгасах Аршанскай акр. у 1929 г. адводзіцца 10 гэкт. гароднай плошчы. Таксама вельмі невялікі попыт на сухое павідла і інш., вытворчасьць якіх намячалася амаль усімі арганізацыямі БССР, якія толькі праэктавалі заводы. Пакуль што сухая гародніна, сухое павідла, сухое канфітра на нашых рынках прасоўваецца з вялікай цяжкасьцю. Мы па прыкладу 1926 г. ведаем, што Дзяржсельсындыкатам была прадана партыя Бялеўскай сухой павідлы па цане значна ніжэй сабекошту.

У Белсельтрэсьце маецца 4-гадовы вопыт па вінаробству і тэхнічнай перапрацоўцы садавіны ва ўмовах БССР. Таксама маецца вопыт па вінаробству ў Горацкай С.-г. Акадэміі і гэты вопыт неабходна ўлічыць усім арганізацыям, якія распачынаюць пабудову заводаў, каб ухіліцца ад грубых памылак, якія павядуць за сабою вялікія страты для рэспублікі.

Справа пабудовы магутных заводаў па перапрацоўцы садавіны новая, справу трэба разьвіваць, але падыход да яе павінен быць вельмі асьцярожны.

Садавод **Ражкоў.**

---

# Барацьба за падвышэньне ўраджаю садоў.

Ураджай у пладанасячых садох чаргуецца, звычайна, такім парадкам, што за ўраджайным годам ідзе няўраджайны. 1926 і 27 г.г. былі няўраджайнымі, што трэба тлумачыць, галоўным чынам, няспрыяючымі мэтэоролёгічнымі ўмовамі ў пару зацьвітаньня пладовых дрэў. Вывучэньне клімату ў сувязі з біолёгіяй зацьвітаньня пладовых парод таму і займае значнае месца ў праграмах садовых дасьледчых станцый (у прыватнасьці і Горацкай). Ад некалькіх дзён (8—10) *працэсу апылкаваньня* ў маю месяцы залежыць ураджай пладоў, аб якім садавод марыў 2 гады. У барацьбе з няспрыяючымі кліматычнымі ўмовамі садавод ужывае абсаджваньне саду жываплотам, падбор больш трывалых сартоў яблынь, ігруш, дымленьне, абаграваньне садоў у пару зацьвітаньня і г. д.

Сады з антонаўкі, у чыстых пасадках, калі няма блізка пчол, а таксама і іншых сартоў цьвітучых дрэў, дык нават яблыні і пры добрым зацьвітаньні не дадуць пладоў.

Для забясьпечаньня лепшага запылкаваньня, на кожныя 10 антонавак мэтазгодна высаджваць 1 дрэва цынамонавага паласастага. Пры закладцы новых садоў трэба мець на ўвазе падбор сартоў у сэнсе ўзаемнага пераапылкаваньня.

Барацьба за падвышэньне ўраджаю ў садох будзе пасьпяховай, калі зьвернем належную ўвагу на *ўгнаеньне і апрацоўку глебы*. У 2—3 гады адзін раз сад павінен быць добра ўгноен. Там, дзе кароны яшчэ ня зышліся і ёсьць магчымасьць сеяць віку, лубін на ўгнаеньне, бульбу—сад хутка аправіцца. Узворваньне саду пажадана рабіць штогод, але мажліва і праз год, што залежыць ад шэрагу ўмоў. Ужываньне штучнага ўгнаеньня вельмі добра адбіваецца на колькасьці і якасьці ўраджаю пладоў і ягад. Супэрфасфат, тамасоўка, фасфарытная мука найбольш спрыяюць зацьвітаньню і завязваньню пладоў. Афарбоўка, смак значна паляпшаецца ад фосфарнага квасу. Калійнае ўгнаеньне таксама карысна для саду. Попел з лісьцяных парод ад 40—60 пудоў на 1 гэктар вельмі падвышае ўраджай пладоў і пры спрыяючых мэтэоролёгічных умовах ураджай бывае больш рэгулярным. Там, дзе кароны ў садзе значна пашырыліся і нават зыходзяцца, апрацоўка глебы павінна быць па ўсёй плошчы паміж дрэвамі. Абкапаваньне невялічкіх лунак у 1—1½ мэтры навокал штамбу нічога не дапаможа дрэвам. Асноўным недахопам у дарослых садох БССР зьяўляецца значная гушчыня паміж дрэвамі і гушчыня пабудовы карон.

*Барацьба за сьвятло* ў садох асноўная задача сучаснага моманту. У шэрагу раёнаў СССР сады за апошнія гады адноўлены: значны процант (да 30—40%) малакаштоўных і г. д. пладовых дрэў выкарчаваны; абгледжаны кароны.

Неабходна да пачатку зімы вырэзаць сухія галіны, спачатку сакавіка да пачатку красавіка вырэзаць непатрэбныя жывыя галіны. Дзе сад не абразаўся 3—5 год, там адразу, у адзін год ня раім выразаць адзначаны лік галін, а працягнуць вырэзку на 2—3 гады. Па мажлівасьці ня выразаць галіны грубей ад 3—4 вяршкоў (а калі неабходна, дык ня звыш 2 галін). Кароны антонаўкі на супяскох пашыраюцца да 8 мэтраў, на суглінках да 10 мэтраў.

У старых садох, дзе ўсяго 5—6 мэтраў паміж дрэвамі, вельмі значная гушчыня дрэнна адбіваецца на колькасьці і якасьці ўраджаю.

Таму неабходна ў першую чаргу хворыя, дрэнныя сарты дрэў выкарчаваць, а дзе патрэбна—дрэнныя сарты перапрышчапіць лепшымі таварнымі сартамі.

Трэба памятаць, што на добрых глебах мы цяпер высаджваем каля 90 антонавак на 1 гэктар, а на супясках да 120. Выпадкаў у пару вэгэтацыі ў нашых умовах хапае на 120—140 дрэў на 1 гэкт., а значны недахоп у асьвятленьні таксама абмяжоўвае лік яблынь антонавак да 90—120 штук.

Ад дарослага саду ў 250 яблынь (антонавак) на адзін гэктар мы атрымаем меншы ўраджай пладоў (і дрэннае якасьці), чымся з гэткай-жа плошчы, гэткага-ж узросту, на якой усяго знойдзецца 120 (антонавак).

У сыстэму аднаўленьня садоў трэба ўключыць рашучую барацьбу са шкоднікамі. Кароны і штамбы ў значнай меры абрасьлі мохам, лішаямі. Шмат грыбных хвароб, шмат кузурак, кветкаеду, баярышніцы і г. д. У нас няма інструктароў па барацьбе са шкоднікамі. Дасьледчая справа ў гэтым напрамку пастаўлена дрэнна і, калі параўнаць, дык мы зусім адсталі ад УССР, дзе ў кожнай акрузе (іх 30) існуе станцыя аховы расьлін. Апрача таго, наша насельніцтва садовых раёнаў зусім слаба згуртавана ў садова-гародныя таварыствы.

Па адным садавод ня здолее зьнішчыць моху, паршу, кветкаеда і г.д. Гэта справа *калактыўная, хаўрусная.* Неадкладна трэба будаваць каапэрацыйныя таварыствы на мясцох і адначасова ў Менску тэрмінова разгортваць дзейнасьць „Белсадвінсаюзу“.

Экспарт наогул і экспарт пладоў у прыватнасьці адзін з адпаведных фронтаў нашага будаўніцтва. Мы лічым, што аднаўленьне садоў і шэраг мерапрыемств па садоўніцтву вельмі актуальная (важная) справа і гэта павінна быць зразумела кожнаму культурнаму працаўніку.

Пры значным ураджаю пладоў цана падае, шмат прадуктаў саду нішчыцца. Садавод траціць надзею апраўдаць усе выдаткі па догляду, угнаеньню і г. д. Толькі пераапрацоўка яблык, ягад у віны, марmоляду, жэле і г. д., можа даць гарантыю, што ніякія ўраджаі ня будуць шкоднымі. Вопыт лябараторыі вінаробства Акадэміі паказвае, што 100 пудоў дрэннай якасьці яблык (квасных, горкіх) можа быць перароблена ў 60 вёдзер (нават да 70 вёдзер) віна каштоўнасьцю ў 480 руб.—і кожны пуд яблык аплаціцца ў 2 р. 40 кап. Злучэньне саду з фабрыкай па пераробцы—магутны сродак па падняцьцю прыбытку ў гаспадарцы.

Барацьба за ўраджай пладоў—гэта барацьба за аднаўленьне садоў. Неабходна падняць шырокую кампанію за аднаўленьне ў першую чаргу тых садоў, ад якіх мы павінны чакаць экспартнага тавару. Што ня зроблена гэтай восеньню, бязумоўна, павінна быць выканана вясновай парою ў 1929 годзе.

Няхай зацікаўленыя арганізацыі на працягу зімы разгорнуць вялізную працу па загатоўцы інвэнтару, хэмічнага матар‘ялу для барацьбы са шкоднікамі, упаковачнага матар‘ялу і г. д. З напружанасьцю ўсіх сіл і сродкаў трэба рыхтавацца да спатканьня ў 1929 годзе ўраджаю ў нашых садох.

Праф. **М. Бурштэйн.**

---




# 511.373 гэктары лесу—у карыстаньне сялян.

*(Да 10-годзьдзя абвяшчэньня БССР).*

### I. Плошча лясоў і яе разьмеркаваньне.

Лясы мясцовага значэньня ёсьць частка адзінага дзяржаўнага ляснога фонду, якія перадады насельніцтву ў бястэрміновае карыстаньне. Пераданы гэтыя лясы з наступнымі мэтамі:

1) узмацненьня сялянскіх гаспадарак;

2) паляпшэньня атрыманьня сялянствам дроў і будаўнічых матар‘ялаў;

3) зьнішчэньня праспалосіцы ўладаньняў, якая шкодна адбіваецца на вядзеньні сельскай і лясной гаспадаркі і

4) уцягненьня сялян да справы вядзеньня лясной гаспадаркі.

Да гэтага часу перадана ў лясы мясцовага значэньня 511.373 гэкт. і 422.706 гэкт. у зямфонд, што складае 16 проц. ад лясоў дзяржаўных.

Плошча лясоў і зямфонду па акругах разьмяркоўваецца наступным чынам:

| №№ па парадку | НАЗВА АКРУГ | Плошча ляс. дзярж зн. у гэкт. | Плошча ляс. мяс. знач. у гэкт. | %/% | Перадана у зям-фонд у гэкт. | %/% |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Бабруйская . . . | 530.666 | 103.075 | 19 | 89.775 | |
| 2 | Віцебская . . . . | 179.873 | 48.410 | 27 | 25.512 | |
| 3 | Гомельская . . . | 373.450 | 40.226 | 11 | 47.718 | |
| 4 | Магілеўская . . . | 325.241 | 123.334 | 38 | 46.157 | |
| 5 | Менская . . . . | 602.249 | 80.828 | 13 | 54.873 | |
| 6 | Мазырская . . . | 652.848 | 50.673 | 8 | 92.148 | |
| 7 | Аршанская . . . | 212.703 | 38.444 | 18 | 37.324 | |
| 8 | Полацкая . . . . | 330.553 | 26.383 | 8 | 29.199 | |
| | Па БССР . . | 3.207.483 | 511.373 | 16 | 422.706 | 14 |

Перадача плошчаў у лясы мясцовага значэньня, а таксама ў зямфонд і наадварот—наогул, ужо спынена, і толькі калі гэта і ўтвараецца ў сучасны момант, дык у напрамку земляўпарадкаваньня ці лесаўпарадкаваньня, альбо тых плошчаў, якія да гэтага часу знаходзіліся ў стадыі перадачы (афармленьня).

Плошча лясоў мясцовага значэньня дасягае максімальнай нормы на двор па Мазырскай акрузе да 2,9 гэкт. і мінімальнай па Аршанскай акрузе да 0,8 гэкт., а наогул па Беларусі на адзін двор прыходзіцца—1,4 гэкт.

## II. Упарадкаваньне лясоў мясцовага значэньня.

Каб ня зьнішчаць лес, трэба ў ім весьці плянавую лясную гаспадарку, што дасягаецца лесаўпарадкаваньнем. Па лясох мясцовага значэньня ў сучасны момант працуе 96 тэхнікаў і ўжо ўпарадкавана



Хваёвы бор каля вёскі Смалічы (Случчына).

132.200 гэкт., у гэтым годзе ўпарадкавана 136.000 гэкт., што разам з упарадкаваным раней складае 368.700 гэкт. Лясныя дачы на плошчы менш 20 гэкт. і дачы большыя па плошчы, але з маладымі дрэвастанамі, зараз не ўпарадкваюцца. Праз 10 год ад пачатку ўпарадкаваньня, г. зн. з 1934 г. будзе праведзена рэвізія лесаўпарадкаваньня на працягу 5-ці гадоў.

## III. Прырост і лесасечны фонд.

У лясох мясцовага значэньня хвойныя дрэвастаны займаюць 70 проц. і лісьцяныя 30 проц.

Па групах узросту дрэвастаны падзяляюцца на роўныя часткі, прычым у хваёвых 35 проц. падае на долю дрэвастанаў звыш 50 гадоў, дзе высечка лесу вытвараецца з гэтага часу з запасам драўніны на 1 гэкт. ад 30 да 160 куб. мэтр., і 65 проц. дрэвастанаў да 50 гадоў, дзе высечка магчыма ў парадку догляду за лесам з водпускам ад некалькіх сот жэрдак да 5 куб. мэтр. дробнай драўніны з гэктара.

У лісьцяных дрэвастанах лік маладняку, дасьпяваючых і сьпелых дрэвастанаў у працэнтных адносінах прыкладна роўны.

Штогодні сярэдні прырост драўніны на эксплёатуемай плошчы для хваёвых дрэвастанаў роўны 466 тыс. куб. мэтр., для лісьцяных 269.000 куб. мэтр., а ўсяго разам 735.000 куб. мэтр. драўніны.

Карыстаньне ў лясох мясцовага значэньня вызначаецца палажэньнем аб іх, а ва ўпарадкаваных, плянам гаспадаркі. Высечкі ў лясох мясцовага значэньня павінны ўзнаўляцца, чаму сялянам неабходна рашуча кіравацца правіламі Палажэньня і плянамі гаспадаркі ва ўсіх адносінах.

Памер магчымага карыстаньня з лясоў мясцовага значэньня на плошчы 4.070 гэкт. вызначаецца ў 705.000 куб мэтр. па масе (будаўлянай 247.000 к./м. і на апал 458.000 к./м.). Каштоўнасьць гэтай драўніны ацэньваецца ў 1.105.000 руб. па сялянскай таксе, і 3.500.000 руб. па таксе з гандлёвай надбаўкай для госпрамысловасьці. Такім чынам, на адзін двор прыходзіцца 1,7 куб. мэтр., альбо 18 проц. патрэбнасьці ў драўніне. Пасьля ўпарадкаваньня памер карыстаньня павышаецца да 20 проц.

### IV. Лесааднаўленьне ў лясох мясц. значэньня.

Бязупыннасьць карыстаньня можа быць дасягнута ў тым выпадку, калі за высечкай лесу будзеісьці лесааднаўленьне натуральнае ці штучнае.

Плошча, на якой патрэбна лесааднаўленьне, у сучасны момант складае 40.000 гэкт., з якой на натуральнае лесаўзнаўленьне можна разьлічваць на 25 проц., альбо 10.000 гэкт. Штогодняя высечка хваёвых дрэвастанаў роўна 2.420 гэкт. і лісьцяных—1.650 гэкт. Апошняя павінна ўся ўзнавіцца натуральна ад насеньня ці парасьлі, а высечка хваёвых парод толькі на 50 проц., альбо 1.210 гэкт. Такім чынам уся плошча, якая належыць да лесааднаўленьня, складае 44.070 гэкт., з якой адлічыўшы плошчу, праэктуемую да натуральнага ўзнаўленьня ў 12.860 гэкт., атрымаем 31.210 гэкт. Апошнюю неабходна штучна аблясіць у бліжайшае пяцігодзьдзе сіламі і сродкамі самых лесакарыстальнікаў, пад кіраваньнем лесаводаў па лясох мясцовага значэньня і лясьнічых дзяржлясоў.

Каб забясьпечыць натуральнае лесааднаўленьне—трэба рашуча забараніць пасьбу жывёлы на высечках і маладняках.

### V. Мерапрыемствы ўпарадкаваньня гаспадаркі ў лясох мясцовага значэньня.

Сяляне, карыстальнікі лясоў, павінны шчыра быць зацікаўленымі ў лясох мясцовага значэньня і пільна сачыць за захаванасьцю яго, таму што лясы мясцовага значэньня ёсьць падсобная частка дзяржаўных лясоў у здавальненьні патрэб насельніцтва драўнінай.

Становішча лясоў мясцовага значэньня ў сучасны момант пагражаючае, аб чым сьведчаць вынікі абсьледваньня іх з боку РСІ і НКЗ. Ахова лесу ў большасьці слабая, самачынныя высечкі—зьявішча агульнае і памер іх па масе ня менш штогодняга водпуску драўніны па каштарысу.

Для забясьпечаньня захаванасьці, сталасьці карыстаньня драўнінай з лясоў мясцовага значэньня, акрамя ўпарадкаваньня іх, неабходна ўстанавіць рацыянальны парадак карыстаньня, кіраваньня і сапраўднай аховы лясоў. У мэтах дасягненьня намечанай задачы Наркамземам выдаецца новае „Палажэньне“ аб лясох мясцовага значэньня, якім прадугледжваецца рэканструкцыя загадваньня і больш рацыянальная арганізацыя аховы,—аб‘яднаньнем лесакарыстальнікаў у маштабе с/саветаў ці раёнаў з адказнасьцю апошніх за правільную пастаноўку справы. Для тэхнічнай дапамогі ўстаноўлены штат акруговых лесаводаў па лясох мясцовага значэньня ў ліку 12 асоб.

**Міхасенка Е. П.**

# Агнятрывалае будаўніцтва на Віцебшчыне.

Усім добра вядома, якую шкоду прыносіць нам „чырвоны певень“. Для забясьпечаньня гаспадаркі ад гэтага няшчасьця, больш сьвядомыя гаспадары імкнуцца да пабудовы такіх будынкаў, якія-б не гарэлі.

У мінулым годзе на Віцебшчыне пабудована 30 агнятрывалых будынкаў, а ў гэтым годзе яшчэ больш. Ёсьць пасёлкі, якія пачынаюць усе будынкі, альбо частку іх будаваць з агнятрывалага матар'ялу. Напрыклад, сяляне пасёлку Зосіна, Чашніцкага раёну, прыступілі і ўжо



Будынак Вэтпункту м. Чашнікі з пустацелага бэтону.

нарыхтавалі частку матар'ялу для пабудовы агнятрывалых саманных хат. У гэтым годзе яны пабудавалі грамадзкую саманную лазьню на 9 двароў. Памер лазьні $8^{1}/_{2}$ мэтр. даўжыні і $6^{1}/_{2}$ мэтр. шырыні і 3 мэтры вышыні. Падмуроўка глыбінёю 1 мэтр зроблена з бэтону, бо ня было патрэбнага каменьня. Навазілі пасялкоўцы добрага пяску—жвыру і да яго дабаўлялі цэмант. На адну частку цэманту клалі 15 частак пяску. Падмуроўка вышла вельмі добрая. На ўсё гэта пашло толькі 5 бочак цэманту. Шырыня падмуроўкі 70 сантымэтраў, вышыня 40. Пад падмуроўку, для ізаляцыі ад вільгаці, паклалі толь. Сьцены вылажылі ў $1^{1}/_{2}$ самана. Памер самана $40 \times 19 \times 11$ сантымэтраў. На мураваньне гэтай лазьні пашло ўсяго агульна 65 рабочых дзён. Самана пашло 5200 штук, чарапіцы 1.500 шт. Пабудаваць сьцены, фундамэнт і страху, калі перавесьці ўсё гэта на грошы, абышлося 360 руб. Гэта зусім невялікая каштоўнасьць. Шмат дзе пабудавалі сяляне глінагалёвыя будынкі.

Досыць шпарка разьвіваецца будаўніцтва з пустацелай бэтоннай цэглы, як сярод насельніцтва, так і ў дзяржаўных установах.

Я. Талуціс.

(Віцебск, АКРЗА).

---

Увага: у № 11 „Плуга“ на 4 старонцы 3 радок зьнізу захавалася памылка друкарні, надрукована 440, а трэба 44. На 34 ст. 19 радок зьверху надрукована: атрыманая са складу Менскай балотнай станцыі, а трэба: „складу Менскай балотнай станцыі“.

У гэтым 12 нумары на 3 старонцы 3 радок зьверху надрукована 2.050.000, а трэба 2.500.000.
„ „ „ „ 3 „ 11 „ „ „ 1.500.000, а трэба 150.000.
„ „ „ „ 21 „ подпіс загадчык Станцыі А. Осьцін, а трэба А. Останковіч.

## Зьмест № 1—11 часопісі „Плуг“.

### Зямельная і с.-г. політыка.



### Дзяржаўная дапамога вёсцы.



### Сельская гаспадарка.



### Палявая гаспадарка.

насеньне ў сваёй гаспадарцы, № 9—**В. Чэмелаў**. Аб вапнаваньні палёў, № 10—**П. Т.** Адзін з чатырох-палёвых севазваротаў для сялянскай гаспадаркі, № 10—**П. Грабузаў**. Азімы чарвяк і меры барацьбы з ім, № 10—**М. Пілько**. Як я жыву на 1¹/з дзес. пахаці, № 10—Сел. **К. Мяхедка**. Некалькі слоў аб гаспадарцы К. Мяхедка, № 10—Агр. **М. Савіч**. Як павялічыць ураджай аўса, № 10—**Пётра** з пустога поля. Ня толькі грошы шчот любяць, № 10—Сел.-дасьл. **Сьляскі**. Нашы парады, як падвысіць ураджай, № 11—Горацкая с.-г. дасьлед. станцыя. Падвышэньне ўраджайнасьці—узрост прыбытковасьці, № 11—**Б. Бойка**. Як змагацца з вымачкамі, № 11—Агр. **Г. Кузін**. Ад гутарак да справы, № 11—Агр. **М. Савіч**. Попел у справе падвышэньня ўраджаю, № 11—Агр. **С. Карась**. Наш досьлед з азімым жытам, № 11—Агр. **Гашальскі**. Падрыхтоўка і захаваньне насеньня лубіну і сэрадэлі № 11—**Я. Жогла**.

## Праца на балоце.

Што трэба ведаць гаспадару пра лугавыя мешанкі, № 4—**М. Баранава**. Увага торпу, № 5—**Х. Бахцеяў**. Прычыны пагоршаньня, нашых сенажацяй № 5—**А. Паржэцкі**. Колькі год дзейнічае (мае ўплыў) угнаеньне на балоце, № 5—**А. Шохар**. Ужывайце торп на ўгнаеньне, № 5—Агр. **Шульман**. Аб натуральным залужэньні балот, № 6—**А. Шохар**. Тарпяныя ўгнаеньні, № 8—**Х. Бахцеяў**. Аб палепшаньні сенажацяй, № 9—Асьпірант **Лебядзевіч**. Трэба ўгнойваць сенажаці, № 9—**Г. Кузін**. Капайце торп, скарыстоўвайце яго на ўгнаеньне на полі, № 9—Агр. **С. Карась**. Аб расчыстцы сенажацяй, № 10—Агр. **С. Карась**. Вясеньняе залужэньне на балоце, № 11—культуртэхнік **А. Ванькевіч**.

## Сялянскі досьлед.

Вопыт з пасевам сталовай морквы па 30 проц. каліёнай солі, № 1—Сел. **Янка Судак**. Як я стаў сеяць кораньплоды, № 1—**У. Юркевіч**. Досьлед на балоце, № 1—Агр. **І. Крупень**. Як я разьвёў лугавую аўсяніцу, № 1—Сел. **Г. Шасьціткa**. І на дзесяціне гаспадарыць можна, № 1—**А. Забалотны**. 1750 пуд. бульбы з дзесяціны. № 2—**І. Хлапіцкі**. Капуста па штучнаму ўгнаеньню, № 2—Сел. **Я. Судак**. Культурная града, № 2—Сел. **Ш**. Досьлед з кармовай бручкай, № 2—Сел. **Л. Чалоўскі**. Мой досьлед з кармоваю морквaю, № 2—Сел.-дасьл. **А. Карнейчык**. Досьлед над сэрадэляй, № 2—Сел.-дасьл. **А. Івановіч**. Як мы скарыстоўваем завочныя курсы, № 3—**Я. Савіцкі**. Досьлед з ячменем, № 4—**П. Буракоў**. Аб гаспадарскіх памылках пры пасеве кораньплодаў, № 4—**К. Запольскі**. Кораньплоды забясьпечваюць гаспадарку ад бяскорміцы, № 4—**С. Каўр**. Дасьледчы гарод на балоце, № 4—**А. Карунчык**. Які я маю прыбытак ад кураводзтва, № 4—Сел. **А. Фурс**. Некалькі слоў аб працы сялян-дасьледчыкаў, № 5—**С. Т**. Парашковае ўгнаеньне ня горш гною, № 5—Селькор **Я. Савіцкі**. Пашырайце плошчу пад кармовыя кораньплоды, № 5—Сел. **Янка Судак**. Досьлед пасеву кармовых буракоў па штучным угнаеньні, № 5- Сел. **М. А. Казімірчык**. Практыка над капустай, № 5—Сел. **Ул. Юркевіч**. Засявайце пялюшку, № 5—Сел. **Г. Шасьціткa**. Колькі прыбытку атрымаеш з ¹/₂ дзес. канюшыны, № 5—**Янка** з пад Магілева. Як наша вёска перайшла на шматпольле, № 5—Сел. **Г. Каралькоў**. Сялянам-дасьледчыкам трэба праверыць, № 5—**В. Чэмелаў**. Да мэтодыкі працы сялян-дасьледчыкаў, № 5—**А. Дзямідовіч**. Вучыцеся самі і навучайце другіх, № 6—Сел.-дасьл. **Сьляскі**. Барануйце сваечасова папарнае поле, № 6—Сел. **А. Карнейчык**. Як трэба даглядаць за турнэпсам, № 6—Сел. **С. Астрэйка**. Як я навучыўся даглядаць за бульбай, № 6—Сел. **М. Драздоў**. Што нам дае торп, № 6—Сел. **А. Карунчык**. Штучнае ўгнаеньне пад жыта, № 7—Сел.-дасьл. **А. Фурса**. Мой досьлед пасеву лубіна на жыце, № 7—Сел. **Ул. Каштан**. Вываз гною ў папар, № 7—Сел. **Т. Трапашка**. Досьлед з азімай вікай, № 7—Сел.-дасьл. **Я. Савіцкі**. Праслухалі курсы—залажылі досьлед, № 7—**Я. Савіцкі**. Досьлед з азімай пшаніцай, № 8—Сел.-дасьл. **М. Пятроўскі**. Досьлед з сартовым і мясцовым жытам па штучнаму ўгнаеньню. № 8—Сел. **Я. Судак**. Сей жыта і пшаніцу гатунковым насеньнем, № 8—Сел. **З. Бірыла**. Мае досьледы з жытам, № 8—Сел.-дасьл. **Г. Шасьціткa**. Сей жыта ў жніўні, № 8—Сел. **Я. М. Савіцкі**. У калектыве лепш вясьці досьледы, № 8—Сел. **А. Івановіч**. Ці добра класьці штучнае ўгнаеньне пад жыта, № 8—Сел. **Казімірчык**. Зьезды сялян-дасьледчыкаў, № 8. Што дае нам зяблівае ворыва, № 9—Сел. **Я. М. Савіцкі**. Угнойваньне поля ўвосень пад ярыну, № 9—**Ул. Юркевіч**. Гаспадарскія памылкі ў скарыстаньні бульбянішча, № 9—Сел.-дасьл. **А. Карунчык**. Мае дасягненьні, № 9—Сел.-дасьл. **В. Францкевіч**. Ці шкодзіць пасеву трэцяя квадра м-ца, трэці тыдзень і інш., № 9—Селькор-дасьледчык **А. Акшэўскі**. Бульбоўнік—дапамога сену, № 9—Сел. **Г. Шумілаў**. Як захаваць бацьвіньне кораньплодаў і правільна яго скарыстаць скацінаю, № 9—Сел.-дасьл. **Н. Зьвераў**. Мой досьлед з торфам, № 9—Сел. **К. Мяхедка**. Сяляне-дасьледчыкі і праблема павялічэньня ўраджаю, № 11—Агр.—**В. Рубанаў**. Як я атрымаў 2400 пудоў бульбы з дзесяціны, № 11—Селькор-дасьл. **Акшэўскі**. Карысьць ад мінэральных угнаеньняў, № 11—Дасьл. **Я. М. Савіцкі**. Што дае зяблевая воранка, № 11—**Г. Воўк**. Як захаваць на зіму насеньне ярыны, № 11—Сел. **З. Бірыла**.

## Лясная гаспадарка.

Што даў „Плуг" лясной гаспадарцы за тры гады свайго існаваньня, № 1—Лесавод. Зьбіраньне і захоўваньне насеньня лясных дрэў, № 1—**К. Міран**. Сушка хваёвых і яловых шышак для здабычы насеньня. № 1—**М. Ш.** Шануйце лес мясцовага значэньня, № 2 - Лесавод **Г. Барысевіч**. Спосабы выпрабоўкі ўсхожасьці насеньня, № 3—**М. Ш.** Веснавая кампанія па лесааднаўленьню і правядзеньню „Дню Лесу", № 4—**В. Ткачоў**. Да „Дню Лесу", № 4—**К. Іваноў**. Ад чаго ўзьнікаюць лясныя пажары і барацьба з імі, № 4—**К. І**. Як праведзена сьвята „Дзень Лесу" ў Нараўлянскім Лясьніцтве, № 6—**Зм. Ц.** Адна з прац па палепшаньню нашых лясоў, № 7 — Праф. **С. Мельнік**. Бярлінская таполь– матар'ял для будоўлі і апалу, № 7—Сел. **Я. К. Мароз**. Замацоўка і аблясеньне пяскоў, № 8—**Т. Гаўрыловіч**. Запасайцеся сваечасова апалам; № 9 Т. **Гаўрыловіч**. Гадуйце хутка-растучыя лясныя пароды, № 9—**М. Шалупенка**. Хімічная апрацоўка дрэва, № 10—**Е. Ліпкін**. Аб хатнім грыбе, № 10 - **Яськевіч і Ганчарык.** Як трэба і як ня трэба секчы і валіць дрэвы, № 11—Праф. **С. П. Мельнік.**

## Жывёлагадоўля.

Якую маюць скаціну сяляне хут. Шмакі, Магілеўскага акр. і як яе даглядаюць, № 1 — Сел-дасьл. **Я. Савіцкі**. Як уцяпліў я свой хлеў, № 1—**Крупенін**. Як узмацніў я сваю гаспадарку, № 1—Сел. **В. Місун**. Лісьце, як подсьціл, № 1—Сел. **А. Астрэйка**. Мясцовая карова і яе правільная ацэнка, № 2—Заоотэхн. **Е. Кляменчык**. Жывёлагадоўля ў савецкіх гаспадарках, № 2—Агр. **Т. Анцыпенка**. Засьцярога пры скарыстаньні папсаванае бульбы. № 2—**С. Х.** Сельска-гаспадарчае рыбаводзтва, № 2—**М. К—ч**. Што павінен ведаць гаспадар пра барацьбу з заразьлівымі хваробамі сьвіней, № 2—**М. Жарын**. *Досьлед гадоўлі 2-х месячных парасят рознымі кармамі*, № 4—**М. Драздоў**. Хваробы цялят і як іх лячыць, № 4 - **М. Жарын**. Арганізацыя штучных пашаў, № 5—Агр. **Уліцін**. Выбар і догляд племяных сьвіней, № 5—**А. Сьмірноў**. Рабеце могілкі для скаціны, № 5—**М. Жарын**. Колькі можна атрымаць малака ад сялянскае каровы **Горацкага** раёну, № - 6 Дацэнт **Т. Паўлаў**. Захоўваньне зялёнага корму на зіму, № 6—З артыкула **С. Журыка.** Вядзеце барацьбу за палепшаньне малака, № 6—**А. Белахвостава.** Як зьнішчыць заганы малака, № 6—**П. Л**. Як лячыць скаціну, калі яна аб'елася, № 6—**М. Жарын**. Калгасы – гнёзды племяной жывёлагадоўлі, № 7.—**П. Ластоўскі** Чаму жывёле неабходны сьвежы зялёны корм, № 7—**І. М. Серада**. Як пабудаваць сілас, № 7—**С. Журык** Барацьба з хваробамі каляктыўнымі сіламі вёскі, № 7 - **М. Жарын**. Адкорм курэй, № 8—**Л. Чарткоў**. Дасьледча-паказальнае кармленьне сьвіней, № 8—**М. Драздоў** і **М. Юнгер** *Трэба скарыстаць зеляніну*, № 9—**С. Х**. *Досьлед адкорму сьвіней на Турскай с.-г. дасьледчай станцыі*, № 9—**М. Драздоў** і **М. Юнгер**. Шаленства ў жывёлы і як з ім змагацца, № 9—**М Жарын**. Як страўліваць скацінаю зярняты лубіну, № 10—**К. Хвалей.** Як зьменшыць сабекошт малака, № 10 - Агр. **Шульман**. Правільнае атрыманьне і захаваньне малака—Зоотэхнік **Шавека**. Як дапамагчы жывёле, калі яна ўдавілася, № 10—**М. Жарын**. Падрыхтуйце хлявы да зімы, № 11—**М. Сроговіч**. Памяншэньне спажыўнасьці сена ў мокрыя гады, № 11—Агр. **Цьвятаеў**. Крупчак у сьвіней меры барацьбы з ім, № 11—Вэтэрынарны ўрач **М. Жарын.**

## Пчалярства.

Падкормка пчол зімовай парой, № 1—**Ліванскі**. Некалькі парад селяніну-пчаляру, № 2—**Міхась Сулкоўскі**. Выстаўка пчол з памяшканьняў, № 3—**С. С—н**. Напад, або пчаліны крадзеж, № 5—**С. С—н.** Пчалярскі сэзон на Аршаншчыне, № 7—**С. Старасьцін.** Падрыхтоўка пчол да зімы, № 9—Пчаляр **А. Магучы**. Што перашкаджае селяніну гадаваць пчол у рамовых вульлях, № 10—**А. Суравец**. Пчаляры, заводзьце рамовыя вульлі, № 11 - **Д. М. Сьцефаненка.**

## Сад і гарод.

Аб салодкай антонаўцы Я. Мароза і іншых відах. № 1—**Я. Мароз**. Пашырайце пасевы беларускай белакачаннай капусты Я. Мароза, № 1 - Агр. **Калер**. Якія і як ставіць досьледы ў садзе, № 2—Праф. **М. Бурштэйн.** Як аднавіць існуючыя сады і падняць іх прыбытковасьць, № 2—Праф. **М. Бурштэйн.** Уплыў садовай гаспадаркі Браценкова на акружаючае насельніцтва, № 2—**П—віч**. Пра пасадачны матар'ял для саду, № 4—**К. Хабэнка**. Як старое апаўшае лісьце пашырае грыбныя хваробы ў садзе, № 4—**С. Т.** Як ставіць досьледы ў гародзе, № 4 - **В. Чэмелаў**. Аднаўленьне садоў, № 5—Праф. **М. Бурштэйн**. Гадуйце сваё капуснае насеньне, № 5—Сел. **А. Карнейчык**. Вынікі досьледу туты і скарзанэры, № 5—Сел. **Ф Д. Мастовіч.** Аб шаўкавіцы, скарзанэрыі шоўкаводзтве, № 5 - **Зьбіткоўскі**. Паказальныя мерапрыемствы па садоўніцтву, № 8—**Лубоўскі**. Цікавы выпадак з гуркамі, № 8—**П. А. Самцэвіч.** Аб садовым пасадачным матар'яле ў Полацкай акрузе, № 8. Як падрыхтаваць дзічкі для саду, № 9—Агр.-садав. **І. Пратасевіч**. Як я выгадаваў добрую капусту, № 9—**П. С. Самцэвіч.** Нашы дасягненьні ў галіне садоўніцтва, № 10—**К. Хабенка.**

Пабудова хавальніку для пладоў, № 10—Дз. **Пракапенка**. Пладова-ягаднае вінаробства пры Горацкай с.-г. Акадэміі, № 10—**Р. Гуржы**. Першыя вынікі арганізацыі групавых садоў, № 10—праф. **М. Бурштэйн**. Досьлед над капустай, № 11—Агр. **Цьвятаеў**.

### С.-г. каапэрацыя.

Таварыства—„Чырвоны будынак", № 1—**Г. Шумілаў**. Аб кантрактацыі пасеваў № 3—**А. Рыбакоў**. Аб арганізацыі злучпунктаў, № 3.—**П. Ластоўскі**. Дасьледчая справа ў калгасаў, № 7—**М. Савіцкі**. Пчалярская каапэрацыя, № 6—**С. С—н**.

### Дапамога каляктыйнаму будаўніцтву.

Як арганізаваць каляктыўную гаспадарку, № 4—**Л. Агеяў**. Пра каляктыўныя гаспадаркі, № 6—**М. Цынкоў і Д. Пліс**. Каляктывізацыя жывёлагадоўлі, № 6—**П Ластоўскі**. Арганізуйце машынныя т-вы, № 6—**Х. Плятнер**. Як арганізаваць каляктыўную гаспадарку, № 7—**Цынкоў і Пліс**. Сувязь калгасаў з насельніцтвам, № 7—**Цынкоў і Пліс**. Становішча каляктыўных гаспадарак па Менскай акрузе, з дакладу т. Подзіна, № 7—**А. Влашынскі** Пра выдзел зямлі для с.-г. каляктыву з зямельнае грамады, № 7—**Е. Вішнеўскі**. Арганізацыя і жыцьцё сельска-гаспадарчай камуны „Зьвязда" № 8—**М. Клімко**. Жыцьцё і праца с.-г. камуны „Зьвязда", № 9—**М. Клімко**.

### Агульны аддзел.

Тры гады працы, № 1.—Да гадавіны часопісі „Плуг", № 1—Бюро сялян-дасьледчыкаў. Мае пажаданьні часопісі „Плуг", № 1—**Г. Шасьціцка** Ліст селяніна Янкі Судака, № 1—Сел. **Янка Судак**. Да трохгодзьдзя часопісі „Плуг", № 1—Сел. **Крупенін**. Ліст селяніна А. Радзевіча, № 1. Мае пажаданьні „Плугу", № 1—Сел. **А. Кірчэўскі**. Чаго дасягла наша гаспадарка за 10 год Рэвалюцыі, № 1—**А. Карнейчык**. Да вясеньняга севу, № 3—**П. Заяц**. Сяляне, бліжэй да дасьледчых станцый, № 3—**М. Савіцкі**. Да ўвагі сялян-дасьледчыкаў, № 3—Бюро сялян-дасьледчыкаў за новы падвойны ўраджай, № 4—**С. Тупяневіч**. Да выданьня водна-мэліарацыйнага кодэксу БССР, № 4—**Аўг. Вішнеўскі**. На барацьбу за падвойны ўраджай, № 10—**Аўчыньнікаў**. Да дасьледчых станцый і сялян-дасьледчыкаў, № 10—**М. Савіцкі**. За пашырэньне часопісі „Плуг", № 10—**Саф Хоміч**. Нашы дасягненьні ў сельскай гаспадарцы, № 11—**П. Заяц**. Як прайшло сьвята „Дзень Ураджаю", № 11: I) у Чырвонай слабодзе—**С. Х.**, II) У вёсцы Валасовічы—Дасьледчык **Сьляскі**. III) У м—ку Койданава—**В. Сорока**.





# ЗЬМЕСТ № 12.




**Выданьне Наркамзему.**

**Адказны рэдактар Зьм. Прышчэпаў.**
**Рэдактар—Рэдколегія.**

Цана 80 кап.

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ

## НА ЧАСОПІС

# „АСЬВЕТА“

ЧАСОПІС „АСЬВЕТА“— адзіны пэдагагічны ворган у БССР

„АСЬВЕТА“ зьмяшчае на сваіх старонках шмат кіруючага матар'ялу (праграмы, мэтадычныя лісты, наказы, інструкцыі).

„АСЬВЕТА“ на сваіх старонках адбівае праз допісы з месц практычную працу масавай школы, палітасьветных і дашкольных устаноў, і служыць, такім чынам, сродкам для памену вопытам у працы.

„АСЬВЕТА“ зьяўляецца неабходным дапаможнікам масаваму працаўніку па народнай асьвеце (настаўніку, дашкольніцы, хатніку).

„АСЬВЕТА“ для кожнага асьветніка ёсьць той мінімум пэдагагічнай літаратуры, які бязумоўна павінен быць у кожнага настаўніка.

„АСЬВЕТА“ пераходзіць на штомесячнае выданьне—падпішчыкі да канца 1928 г. будуць атрымоўваць „Асьвету“ за плату на старых умовах.

**Кожан настаўнік, кожан. асьветнік павінен шчыльна зьвязацца з сваім пэдагагічным органам. Павінен выпісаць, чытаць „Асьвету“ і прысылаць допісы для памену вопытам у сваёй рабоце.**

УМОВЫ ПАДПІСКІ: глядзі на адвароце.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА Ў РЭДАКЦЫІ, АДДЗ. БДВ І ЎСІХ ПАШТОВЫХ АДДЗЯЛЕНЬНЯХ.

АСОБНЫЯ №№ МОЖНА КУПІЦЬ: У МАГАЗЫНАХ БДВ І Ў КІОСКАХ АКЦ. Т-ВА „КНИГА—ДЕРЕВНЕ“.

*Адрас рэдакцыі: Менск, Пляц Волі, № 2/23.*

7

ЦАНА 30 КАП.

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1929 год

## НА СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧУЮ ЧАСОПІСЬ

# „ПЛУГ“

Часопісь ставіць сваёй мэтай у папулярнай форме азнаёміць наша сялянства з працамі дасьледчых станцый, працаю вучастковых аграномаў і зямельных працаўнікоў, дасягненьнямі сялян-дасьледчыкаў і гаспадароў-практыкаў, навінамі агранамічнай навукі і г. д.

Часопісь зьвязана з працаю Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў і з практычнаю працай сялян.

У ЧАСОПІСІ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ:

**прафэсары, настаўнікі і навуковыя працаўнікі Беларускай С.-Г. Акадэміі, прафесары і навуковыя працаўнікі Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя У. І. Леніна, спэцыялістыя Наркамзему БССР і інш.**

## ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

| | |
|---|---|
| На 3 м-цы — р. 60 кап. | На год . . . . . 2 р. 20 к. |
| На 6 м-цаў 1 р. 10 кап. | Паасобны нумар — р. 20 к. |

Гадавыя падпішчыкі „Плуга“ на 1929 год атрымліваюць у дадатак прэмію—2 кніжкі па сельскай гаспадарцы, паўгадавыя 1 кніжку.

Тым-ж, хто ў 1928 г. не выпісаў „Плуга“, пры падпісцы праз рэдакцыю на ўвесь 1929 год, па іх згодзе, могуць атрымаць у прэмію 6 кніжак, якія былі прэміей у 1928 годзе.

Падпіска прымаецца: непасрэдна ў рэдакцыі „Плуга“, на кожнай пошче, у кожнага лістаносца, у кожнага агранома і ў кожнай кнігарні.

Рэдакцыей часопісі „Плуг“ праводзіцца

### конкурс на лепшага зборшчыка падпіскі на „Плуг“ 1929 г.

Той, хто зьбярэ больш падпісак, атрымае прэмію.

Прэміі вызначаны як грашовыя, так і рознымі сельска-гаспадарчымі машынамі, прыладамі, насеньнем, штучным угнаеньнем, прышчэпамі і інш.

**Колькасьць і памер грашовых прэмій:**

| | |
|---|---|
| I. Адна ў 50 руб. на суму—50 р. | III. 8 па 10 руб. на суму—80 р. |
| II. 4 па 15 руб. на суму—60 р. | IV. 12 па 5 руб. на суму – 60 р. |

Усяго грашовых прэмі на суму—250 р.

Прэміі рознымі сельска-гаспадарчымі рэчамі: плугоў 10, прышчэп 1000, асыгнікаў – 5 шт..

Прэміі выдаюцца зборшчыкам, якія дасылаюць падпіску непасрэдна ў рэдакцыю „Плуг“, па адрасу: Менск, Савецкая 71, НКЗ, рэдакцыя „Плуг“.

Кожны зборшчык атрымлівае 10 проц. ад сабранай сумы падпіскі, незалежна, атрымае ён прэмію ці не.

Паміж хат-чытальняў, кіраўнікі і сябры якіх будуць прымаць удзел у распаўсюджваньні падпіскі, будзе разьмяркована літаратуры на 100 руб.

Падпісацца на часопісь „Плуг“ можна разам з газэтай „Беларуская Вёска“. Часопісь „Плуг“ і „Беларуская Вёска“ каштуюць на месяц 30 кап.,

Адрас газэты „Беларуская Вёска“: Менск, Савецкая 63.

Гадавыя камплекты „Плуга“ за 1927-1928 г. можна выпісаць за 50% падпісной платы (1 р. 10 к. у год). Заказы на старыя №№ „Плуга“ і інш. выданьні НКЗ накіроўваць: Менск, Савецкая 71, Выдавецтва НКЗ.

Друкарня „БДВ“. Зак. № 990. 3000 экз. Галоўлітбел № 486.

